## Спроба завершанага жыцьцяпісу

прыйшоў на сьвет
у год Зьмяі
паводле ўсходняга календара
і ў год сьмерці Сталіна
паводле календара савецкага
пад знакам Дзевы
у радзільні
насупроць Сафійскага сабору
у Полацку

быў таемна ахрышчаны
праваслаўным папом,
якога схапіў за бараду
і не адпускаў
пакуль не паказалі
салодкага пеўніка на палачцы

узброіўшыся сьвечкай
і клубком бабуліных нітак
у няпоўныя сем гадоў
выправіўся на пошукі лёхаў
што ў часы Сьцяпана Батуры
злучалі
гарадзкія манастыры й храмы

з тае пары
так і бадзяюся
па замурованых лябірынтах
шукаючы
Полацкі летапіс
крыж Эўфрасіньні
і сумнеўную славу

памру ўлетку,
калі споўніцца
тысяча гадоў
князю Ўсяславу Чарадзею

буду пахаваны
на полацкіх могілках
сьвятога Ксавэрыя
па грэка-каталіцкім абрадзе

хтосьці пакладзе
на цёплую зямлю
букецік валошак
і тры гвазьдзікі
вядомых колераў

у беларускім тэксьце
на помніку
згодна з нацыянальнай традыцыяй
будзе зробленая
артаграфічная памылка

## Sproba zavieršanaha žyćciapisu

pryjšoŭ na śviet
u hod Źmiaji
pavodle ŭschodniaha kalendara
i ŭ hod śmierci Stalina
pavodle kalendara savieckaha
pad znakam Dzievy
u radzilni
nasuproć Safjskaha saboru
u Połacku

byŭ tajemna achryščany
pravasłaŭnym papom,
jakoha schapiŭ za baradu
i nie adpuskaŭ
pakul nie pakazali
sałodkaha pieŭnika na pałačcy

uzbrojiŭšysia śviečkaj
i kłubkom babulinych nitak
u niapoŭnyja siem hadoŭ
vypraviŭsia na pošuki lochaŭ
što ŭ časy Ściapana Batury
złučali
haradzkija manastyry j chramy

z taje pary
tak i badziajusia
pa zamurovanych labiryntach
šukajučy
Połacki letapis
kryž Eŭfrasińni
i sumnieŭnuju słavu

pamru ŭletku,
kali spoŭnicca
tysiača hadoŭ
kniaziu Ŭsiasłavu Čaradzieju

budu pachavany
na połackich mohiłkach
śviatoha Ksaveryja
pa hreka-katalickim abradzie

chtości pakładzie
na ciopłuju ziamlu
bukiecik vałošak
i try hvaździki
viadomych koleraŭ

u biełaruskim tekście
na pomniku
zhodna z nacyjanalnaj tradycyjaj
budzie zroblenaja
artahrafčnaja pamyłka

## Паром праз Ля-Манш

я так і думаў
тут амаль ніхто
(калі не лічыць мяне)
не гаворыць па-беларуску
але
каб ты была са мною
гэты дробны недахоп
імгненна ператварыўся б
у велізарную перавагу бо
ў гушчыні палубнай публікі
мы маглі б гаварыць пра нашы пачуцьці
не саромеючыся самага патаемнага
(ты ведаеш якія вострыя адчуваньні
могуць падараваць проста словы)
за выняткам таго
што нельга казаць нават шэптам у ложку
пагатоў мы з табою схільныя да прымхаў і
часта стукаем тры разы па дрэве.

наш карабель
(па-тутэйшаму ferry альбо boat ship)
гайдае ўсё мацней і ўжо ёсьць
першыя ахвяры марское хваробы
(дзякуй богу што я
з банальнай прычыны
адсутнасьці фунтаў
не нажлукціўся піва
ў карабельным бары)
манэтаў у кішэнях
яшчэ хапіла б на званок табе
толькі я ўспомніў пра розьніцу ў часе
(цікава хто пражыў гэтыя дзьве гадзіны
замест мяне?)

порт Ramsgate
выдае з мора на шыкоўныя дэкарацыі
да фільму «Каханка французскага лейтэнанта»
паводле раману жыхара гэтае выспы Дж. Фаўлза

я не казаў табе, што
білет у Ramsgate
(разам з сваім тэлефонам)
дала мне ў Менску дзяўчына
зь зялёнымі як сёньняшні Ля-Манш вачыма
якую я ахвотна
запрасіў бы павячэраць
калі б на сьвеце не было
цябе

за прыбярэжнымі кулісамі
рыхтуецца да выхаду мытнік
з шэксьпіраўскім імем Рычард
дзякуючы рудой барадзе
ён прыме мяне за хлапца
з Ірляндзкай Рэспубліканскай Арміі

але ўсё скончыцца памысна
калі не лічыць спазьненьня на вакзал «Victoria»
дзе ўчора ірляндцы
мімаходзь апусьцілі ў сьметніцы
чарговую партыю бомбаў
замаскаваных пад порцыі плямбіру
каб два чалавекі
ўжо ніколі не змаглі трапіць у Эўропу
а яшчэ адзін
здолеў бы наведаць яе
ў камфартабэльным вазку для бязногіх

усё скончыцца памысна
я хутка прывыкну да левабаковага руху
(урэшце гэта пустая фармальнасьць
бо ўсе мы
згадзіся
рухаемся ў адным кірунку
хоць часам нам з табою ўдаецца
рухацца насустрач адно аднаму
і нават сустракацца)

у тэрарыстаў будуць велікодныя вакацыі
я пакажу як прайсьці на Holden Road
пажылой мурынцы з Вэст-Індыі і за гэта
мяне нязлосна цапне за нагу
пародзісты брытанскі сабака
невядомае мне пароды
голуб з Trafalgar Square
на знак асаблівага даверу
пакіне белы кружок
на маім зялёным швэдры
(у Менску
адзін абазнаны габрэй скажа што
апрача зялёнага швэдра ў мяне зялёная аўра
я не прамінаў бы падзяліцца гэтымі зьвесткамі
зь зеленавокай менскай касіркай
калі б на сьвеце не было цябе)
і калі я зноў падымуся на boat ship,
Англія здасца мне
ўтульным зялёным хутарам
дзе можна было б затрымацца яшчэ на тыдзень
каб там больш гаварылі па-беларуску
прынамсі ты

**Parom praź La-Manš**

ja tak i dumaŭ
tut amal nichto
(kali nie ličyć mianie)
nie havoryć pa-biełarusku
ale
kab ty była sa mnoju
hety drobny niedachop
imhnienna pieratvaryŭsia b
u vielizarnuju pieravahu bo
ŭ huščyni pałubnaj publiki
my mahli b havaryć pra našy pačućci nie
saromiejučysia samaha patajemnaha (ty
viedaješ jakija vostryja adčuvańni mohuć
padaravać prosta słovy)
za vyniatkam taho
što nielha kazać navat šeptam u łožku pahatoŭ
my z taboju schilnyja da prymchaŭ i časta
stukajem try razy pa drevie.

naš karabiel
(pa-tutejšamu *ferry* albo *boat ship*)
hajdaje ŭsio macniej i ŭžo jość
pieršyja achviary marskoje chvaroby
(dziakuj bohu što ja
z banalnaj pryčyny
adsutnaści funtaŭ
nie nažłukciŭsia piva
ŭ karabielnym bary)
manetaŭ u kišeniach
jašče chapiła b na zvanok tabie
tolki ja ŭspomniŭ pra roźnicu ŭ časie
(cikava chto pražyŭ hetyja dźvie hadziny
zamiest mianie?)

port Ramsgate
vydaje z mora na šykoŭnyja dekaracyji
da flmu «Kachanka francuskaha lejtenanta»
pavodle ramanu žychara hetaje vyspy J. Faŭlza

ja nie kazaŭ tabie, što
bilet u Ramsgate
(razam z svajim telefonam)
dała mnie ŭ Miensku dziaŭčyna
ź zialonymi jak siońniašni La-Manš vačyma
jakuju ja achvotna
zaprasiŭ by paviačerać
kali b na śviecie nie było
ciabie

za prybiarežnymi kulisami
rychtujecca da vychadu mytnik
z šekśpiraŭskim jimiem Ryčard
dziakujučy rudoj baradzie
jon prymie mianie za chłapca
z Irlandzkaj Respublikanskaj Armiji

ale ŭsio skončycca pamysna
kali nie ličyć spaźnieńnia na vakzał «Victoria»
dzie ŭčora irlandcy
mimachodź apuścili ŭ śmietnicy
čarhovuju partyju bombaŭ
zamaskavanych pad porcyji plambiru
kab dva čałavieki
ŭžo nikoli nie zmahli trapić u Eŭropu
a jašče adzin
zdoleŭ by naviedać jaje
ŭ kamfartabelnym vazku dla biaznohich

usio skončycca pamysna
ja chutka pryvyknu da levabakovaha ruchu
(urešcie heta pustaja farmalnaść
bo ŭsie my
zhadzisia
ruchajemsia ŭ adnym kirunku
choć časam nam z taboju ŭdajecca
ruchacca nasustrač adno adnamu
i navat sustrakacca)

u terarystaŭ buduć vielikodnyja vakacyi
ja pakažu jak prajści na Holden Road
pažyłoj muryncy z Vest-Indyji i za heta
mianie niazłosna capnie za nahu
parodzisty brytanski sabaka
nieviadomaje mnie parody
hołub z Trafalgar Square
na znak asablivaha davieru
pakinie bieły kružok
na majim zialonym švedry
(u Miensku
adzin abaznany habrej skaža što
aprača zialonaha švedra ŭ mianie zialonaja aŭra ja
nie praminaŭ by padzialicca hetymi źviestkami ź
zielenavokaj mienskaj kasirkaj
kali b na śviecie nie było ciabie)
i kali ja znoŭ padymusia na *boat ship*,
Anhlija zdasca mnie
ŭtulnym zialonym chutaram
dzie možna było b zatrymacca jašče na tydzień kab
tam bolš havaryli pa-biełarusku
prynamsi ty

## **Архіварыюс Война**

прыкладна раз на год
звычайна перад Калядамі
паводле грыгарыянскага календара
мне сьніцца
полацкі архіварыюс Аўгустын Война
маладжавы манах-базылянін
з залатым зубам
таемны геданіст
і магчыма
мой продак
які ня першы год
судзіцца з полацкімі езуітамі
складаючы каліграфічным почыркам
дваццаць сёмую скаргу
каралеўскім камісарам

Войну замінае спаць гадзіньнік
на касьцёле Сьвятога Стэфана
Война лічыць шарлятанствам
мэханічную галаву з калегіюму
якая гаворыць на ўсіх вядомых мовах
і наагул
архіварыюс Война
мае да Таварыства Езуса
спадчынную нялюбасьць
за выняткам айца Папэ якому
(зусім дарэмна)
давераны вінны склеп
(ён таксама мне сьніцца
аднак трохі часьцей)
айца Папэ
які можа нацадзіць зь неабдымнае бочкі
кухаль старога мёду і
бывай любая застуда

Война здымае з паліцы
мае кнігі з аўтографамі
сьпярэшчаныя іранічнымі маргіналіямі
за якімі сарамяжліва хаваецца
чараватая пляшка
і
у залежнасьці ад настрою
звоніць па тэлефоне
спачатку айцу Папэ
або адразу мне самому

я прачынаюся
ад начнога міжгародняга званка
хтосьці маўчыць у слухаўку
плывуць па правадах
удары гадзіньніка Сьвятога Стэфана
пяюць на Дзьвіне цыбатыя асначы
хіхікае па-змоўніцку айцец Папэ
шэпча ўва мне ўпэўнены голас:
ты таксама
прысьнісься камусьці на Каляды
набраўшы тэлефонны нумар

які можна адшукаць
адно ў паперах каралеўскіх камісараў
якім падае каліграфічную скаргу
полацкі архіварыюс Аўгустын Война
маладжавы манах-базылянін
таемны геданіст
і магчыма
мой продак

**Archivaryjus Vojna**

prykładna raz na hod
zvyčajna pierad Kaladami
pavodle hryharyjanskaha kalendara
mnie śnicca
połacki archivaryjus Aŭhustyn Vojna
maładžavy manach-bazylanin
z załatym zubam
tajemny hiedanist
i mahčyma
moj prodak
jaki nia pieršy hod
sudzicca z połackimi jezujitami
składajučy kalihrafčnym počyrkam
dvaccać siomuju skarhu
karaleŭskim kamisaram

Vojnu zaminaje spać hadzińnik
na kaściole Śviatoha Stefana
Vojna ličyć šarlatanstvam
mechaničnuju hałavu z kalehijumu
jakaja havoryć na ŭsich viadomych movach
i naahuł
archivaryjus Vojna
maje da Tavarystva Jezusa
spadčynnuju nialubaść
za vyniatkam ajca Pape jakomu
(zusim daremna)

davierany vinny sklep
(jon taksama mnie śnicca
adnak trochi čaściej)
ajca Pape
jaki moža nacadzić ź nieabdymnaje bočki
kuchal staroha miodu i
byvaj lubaja zastuda

Vojna zdymaje z palicy
maje knihi z aŭtohrafami
śpiareščanyja iraničnymi marhinalijami
za jakimi saramiažliva chavajecca
čaravataja plaška
i
u zaležnaści ad nastroju
zvonić pa telefonie
spačatku ajcu Pape
abo adrazu mnie samomu

ja pračynajusia
ad načnoha mižharodniaha zvanka
chtości maŭčyć u słuchaŭku
płyvuć pa pravadach
udary hadzińnika Śviatoha Stefana
piajuć na Dźvinie cybatyja asnačy
chichikaje pa-zmoŭnicku ajciec Pape
šepča ŭva mnie ŭpeŭnieny hołas:
ty taksama
pryśniśsia kamuści na Kalady
nabraŭšy telefonny numar
jaki možna adšukać
adno ŭ papierach karaleŭskich kamisaraŭ
jakim padaje kalihrafčnuju skarhu
połacki archivaryjus Aŭhustyn Vojna
maładžavy manach-bazylanin
tajemny hiedanist
i mahčyma
moj prodak

## Студня

нахілюся над студняй
каб убачыць самога сябе

глядзяць на мяне
з глыбіні
то сьветлагаловы хлапчук
то сівабароды стары
а часам
няма адлюстраваньня
быццам не нахіліўся ніхто
над студняй

няўжо гэта я — хлапчук?
няўжо гэта я — стары?
няўжо гэта я —
адсутнасьць адлюстраваньня?

## Studnia

nachilusia nad studniaj
kab ubačyć samoha siabie

hladziać na mianie
z hłybini
to śvietłahałovy chłapčuk
to sivabarody stary
a časam
niama adlustravańnia
byccam nie nachiliŭsia nichto
nad studniaj

niaŭžo heta ja — chłapčuk?
niaŭžo heta ja — stary?
niaŭžo heta ja —
adsutnaść adlustravańnia?

## Вучыла бабуля

ня сьпі калі сонца сядае
бо засьнеш зь ім разам
а ўраньні ўжо не прачнесься

не глядзі ў люстэрка апоўначы
бо растанеш у ім
як солі драбінка
ў студні

не любіся зь дзеўкамі ў жыце
і ў красках не любіся
бо колькі каласоў зломіш
столькі людзей
ад голаду сканае
а колькі красак зьвяне
столькі дзетак
на сьвет не народзіцца

пажатае жыта даўно
і поплаў мой
скошаны
сонца сядае
глыбее ў дубовай асадзе
бабуліна люстра

## Vučyła babula

nia śpi kali sonca siadaje
bo zaśnieš ź jim razam
a ŭrańni ŭžo nie pračnieśsia

nie hladzi ŭ lusterka apoŭnačy
bo rastanieš u jim
jak soli drabinka
ŭ studni

nie lubisia ź dzieŭkami ŭ žycie
i ŭ kraskach nie lubisia
bo kolki kałasoŭ złomiš
stolki ludziej
ad hoładu skanaje
a kolki krasak źvianie
stolki dzietak
na śviet nie narodzicca

pažataje žyta daŭno
i popłaŭ moj
skošany
sonca siadaje
hłybieje ŭ dubovaj asadzie
babulina lustra

**Мансарда**

аднойчы прачнецца тэлефон
што гаварыў некалі
тваім голасам
прачнецца на мансардзе
якую
утульна ўладкаваўшыся
паміж попелкай
і томам «Махабхараты»
вартуе
масянжовы Буда

на мансардзе
якая ў тое лета
была кансьпіратыўнай кватэраю
матылькоў-крапіўнікаў
на мансардзе
якой даўно няма
на мансардзе
якую
адчыняе ў сьвет
геаграфічная мапа Эўропы
на ўсю сьцяну
і
валяючыся ў ложку
мы выбіраем на ёй
краіны і гарады
да якіх яшчэ далей
чым да маладзіка
што да замарачэньня гушкаецца
на ясені за вакном
над лавачкай дзе
мы хацелі ператварыцца
ў дрэвы
каб спыніць

бурштынавае імгненьне
таго вечара
і прыдумалі ерэтычную малітву
вартую вясёлага аўтадафэ
на Высокім рынку
што была запісаная
тваім рок-н-рольным почыркам
і схаваная між старонак
старадаўняе кнігі
каб спыніць
бурштынавае імгненьне
таго вечара
калі сьвет быў неўміручы
як перад шостым днём
тварэньня

аднойчы на той мансардзе
прачнецца тэлефон
што гаварыў некалі
тваім шэптам
і я
здыму слухаўку

## Mansarda

adnojčy pračniecca telefon
što havaryŭ niekali
tvajim hołasam
pračniecca na mansardzie
jakuju
utulna ŭładkavaŭšysia
pamiž popiełkaj
i tomam «Machabcharaty»
vartuje
masianžovy Buda

na mansardzie
jakaja ŭ toje leta
była kanśpiratyŭnaj kvateraju matylkoŭ-
krapiŭnikaŭ
na mansardzie
jakoj daŭno niama
na mansardzie
jakuju
adčyniaje ŭ śviet
hieahrafčnaja mapa Eŭropy
na ŭsiu ścianu
i
valajučysia ŭ łožku
my vybirajem na joj
krajiny i harady
da jakich jašče dalej
čym da maładzika
što da zamaračeńnia huškajecca na
jasieni za vaknom
nad łavačkaj dzie
my chacieli pieratvarycca
ŭ drevy
kab spynić

burštynavaje imhnieńnie
taho viečara
i prydumali jeretyčnuju malitvu
vartuju viasiołaha aŭtadafe
na Vysokim rynku
što była zapisanaja
tvajim rok-n-rolnym počyrkam
i schavanaja miž staronak
staradaŭniaje knihi
kab spynić
burštynavaje imhnieńnie
taho viečara
kali śviet byŭ nieŭmiručy
jak pierad šostym dniom
tvareńnia

adnojčy na toj mansardzie
pračniecca telefon
što havaryŭ niekali
tvajim šeptam
i ja
zdymu słuchaŭku

## Двое вар’ятаў

у бабулінай прыдняпроўскай вёсцы
дзе ціха жывуць
мае дзіцячыя радасьці
і грахі
дзе ў палове хатаў
начуе вецер
ды марцуюць зьдзічэлыя каты
(іх усё ж ня варта блытаць
з душамі гаспадароў)
сёлета зьявіліся
новыя жыхары

у нецьвярозы нядзельны адвячорак
за тыдзень да яблычнага Спасу
прыйшлі з станцыі
мужчына й жанчына
з адной абшарпанаю валізкай —
жалезныя набойкі на кантах

выбралі
пустую хату
каля Ільлюцінай крыніцы
дзе стаяла некалі лазьня
у якой я ўпершыню саграшыў
зь дзяўчынкаю-аднагодкай
і атабарыліся там
завесіўшывокны
заместа фіранак
старымі газэтамі
з партрэтамі Гарбачова

кажуць
яны размаўляюць
на нейкай тарабарскай мове
кажуць
яны пішуць нешта
ў вучнёўскіх сшытках
уладкаваўшыся на сонейку
каля рэчкі
кажуць
яны ўкленчваюць штораніцы
перад Ільлюцінай крыніцаю
і моляцца на ваду
а потым
цалуюцца й ідуць у хату
любіцца
ён — сівы як лунь
а яна — маладая
кажуць
яны зьбеглі
з магілеўскае вар’ятні

кажуць мне ўсё гэта
сваякі і суседзі
і просяць
пазваніць куды сьлед
каб прысылалі машыну

гляджу я ўраньні праз рэчку
на дзьве постаці
ля Ільлюцінай крыніцы
стаяць яны на каленях
а потым
бяруцца за рукі і
ідуць у хату

можа і я
прыйду калі-небудзь з станцыі
з пашарпанаю валізкай
перад яблычным Спасам

**Dvoje varjataŭ**

u babulinaj prydniaproŭskaj vioscy
dzie cicha žyvuć
maje dziciačyja radaści
i hrachi
dzie ŭ pałovie chataŭ
načuje viecier
dy marcujuć ździčełyja katy
(jich usio ž nia varta błytać
z dušami haspadaroŭ)
sioleta źjavilisia
novyja žychary

u niećviarozy niadzielny adviačorak
za tydzień da jabłyčnaha Spasu
pryjšli z stancyji
mužčyna j žančyna
z adnoj abšarpanaju valizkaj —
žaleznyja nabojki na kantach

vybrali
pustuju chatu
kala Illucinaj krynicy
dzie stajała niekali łaźnia
u jakoj ja ŭpieršyniu sahrašyŭ ź
dziaŭčynkaju-adnahodkaj
i atabarylisia tam
zaviesiŭšy vokny

zamiesta franak
starymi hazetami
z partretami Harbačova

kažuć
jany razmaŭlajuć
na niejkaj tarabarskaj movie
kažuć
jany pišuć niešta
ŭ vučnioŭskich sšytkach
uładkavaŭšysia na soniejku
kala rečki
kažuć
jany ŭklenčvajuć štoranicy
pierad Illucinaj krynicaju
i molacca na vadu
a potym
całujucca j iduć u chatu
lubicca
jon — sivy jak łuń
a jana — maładaja
kažuć
jany źbiehli
z mahileŭskaje varjatni

kažuć mnie ŭsio heta
svajaki i susiedzi
i prosiać
pazvanić kudy śled
kab prysyłali mašynu

hladžu ja ŭrańni praz rečku
na dźvie postaci
la Illucinaj krynicy
stajać jany na kaleniach
a potym
biarucca za ruki i
iduć u chatu

moža i ja
pryjdu kali-niebudź z stancyji
z pašarpanaju valizkaj
pierad jabłyčnym Spasam

## Азярына

кідаю каменьчыкі
ў азярыну
кладуцца на жоўты жвір
адны
заміраюць на паўдарозе
зеленаватымі рыбінкамі
другія
адплываюць лёгкімі чоўнікамі
трэція

тыя што леглі на дно
ператворацца па часе
ў зеленаватых рыбак
тыя што былі рыбамі
лягуць акамянеўшы
на дно
узьляцяць белымі птушкамі
лёгкія чоўнікі

кідаю каменьчыкі
ў азярыну.
у кожнага
сваё імя

## Aziaryna

kidaju kamieńčyki
ŭ aziarynu
kładucca na žoŭty žvir
adny
zamirajuć na paŭdarozie
zielenavatymi rybinkami
druhija
adpłyvajuć lohkimi čoŭnikami
trecija

tyja što lehli na dno
pieratvoracca pa časie
ŭ zielenavatych rybak
tyja što byli rybami
lahuć akamianieŭšy na
dno
uźlaciać biełymi ptuškami
lohkija čoŭniki

kidaju kamieńčyki
ŭ aziarynu.
u kožnaha
svajo imia

## **Upupa epops**

кожны раз
як еду ў Полацак на цягніку
у прынарачанскіх лясах
паміж Вялейкай і Будславам
на тэлеграфным дроце чакае мяне
стракатая птушка з вохрыстым чубком
і сьмешным лацінскім імем
Upupa epops
а ў перакладзе проста ўдод

калі разгарнуць энцыкляпэдыю
можна даведацца што
Upupa epops — манагам
селіцца на ўзьлесьсях
у старых садах і парках
ладзіць гнёзды ў крушнях
жаролах і пнях
а часам у пустых вульлях

толькі энцыкляпэдыя
не адказвае на галоўныя пытаньні
як ён даведваецца
што я ўзяў раніцою білет?
чаму я памятаю што самачка
выседжвае птушанятаў
сямнаццаць дзён?
чаму ўзгадваю жаролісты дуб
над полацкім возерам
з сутонлівай назваю Люхава?

вось зараз цягнік паверне
і мы з птушкай
на імгненьне сустрэнемся
вачыма

## **Upupa epops**

kožny raz
jak jedu ŭ Połacak na ciahniku
u prynaračanskich lasach
pamiž Vialejkaj i Budsłavam
na telehrafnym drocie čakaje mianie
strakataja ptuška z vochrystym čubkom
i śmiešnym łacinskim jimiem
Upupa epops
a ŭ pierakładzie prosta ŭdod

kali razharnuć encyklapedyju
možna daviedacca što
Upupa epops — manaham
sielicca na ŭźleśsiach
u starych sadach i parkach
ładzić hniozdy ŭ krušniach
žarołach i pniach
a časam u pustych vullach

tolki encyklapedyja
nie adkazvaje na hałoŭnyja pytańni
jak jon daviedvajecca
što ja ŭziaŭ ranicoju bilet? čamu
ja pamiataju što samačka
vysiedžvaje ptušaniataŭ
siamnaccać dzion?
čamu ŭzhadvaju žarolisty dub
nad połackim vozieram
z sutonlivaj nazvaju Luchava?

voś zaraz ciahnik paviernie
i my z ptuškaj
na imhnieńnie sustreniemsia
vačyma

**Пакой**

прахожыя
ідуць праз наш пакой
і аддаляюцца
робячы жаданьне яшчэ вайстрэйшым

галасы гораду
гаснуць
адзін за адным
у нашых целах
музыка
гасьне апошняю
на вуснах
і кончыках пальцаў

сьвет
нараджаецца зь ціхага ўскрыку
і сьмеху
дыханьне
творыць пэрсікавы пушок
на шчацэ
музыка
прачынаецца
ў анфілядах гарачых прасьцінаў

новая радзімка
зьяўляецца
на худзенькім плячы

**Pakoj**

prachožyja
iduć praz naš pakoj
i addalajucca
robiačy žadańnie jašče vajstrejšym

hałasy horadu
hasnuć
adzin za adnym
u našych ciełach
muzyka
haśnie apošniaju
na vusnach
i končykach palcaŭ

śviet
naradžajecca ź cichaha ŭskryku
i śmiechu
dychańnie
tvoryć persikavy pušok
naščace
muzyka
pračynajecca
ŭ anfladach haračych praścinaŭ

novaja radzimka
źjaŭlajecca
na chudzieńkim plačy

## Брытанскі музэй

у антычным аддзеле
мы гутарым з імпэратарам Вэспасіянам (9—
79 гады нашай эры)
з тым самым што абклаў падаткамі
грамадзкія прыбіральні
каб сказаць сыну што
грошы ня пахнуць

д’ябал зь імі
з прыбіральнямі
кажу я
але навошта было асуджаць на выгнаньне
стоікаў?
(а мая каханая
згаджаецца ў гэтую хвіліну на спатканьне)
затое я збудаваў Калізэй
апраўдваецца Вэспасіян
але пры чым тут стоікі?
не разумею я.
(а мая каханая
сьмела ўваходзіць
у чужыя дзьверы)

Вэспасіян незадаволена чмыхае
мармуровым носам
страчаным у нейкім
з дваццаці прамінулых стагодзьдзяў
наш сусед Сэптымій Сэвэр
зласьліва касавурыцца
балбатня замінае яму
абдумваць паход на парфянаў
(а мая каханая
паказвае сваю грыўку
чужому люстэрку)

хтосьці адбіў імпэратару Сэптымію
абедзьве рукі
але напэўна не за тое што ён
пачаў узводзіць тэрмы Каракалы

попел яшчэ не засыпаў
фрэсак Пампэі
і смуглявы патрыцый
любіцца зь нявольніцай
не зважаючы ні на нас
ні на авантуру Ікара
ні на карабель Уліса.
(а мая каханая
падстаўляе вусны для пацалунку)

у Лёндане цьвітуць вішні
у Менску падае дождж
Уліс праплывае паўз востраў сырэнаў
мая каханая кажа ня мне:
гэта — маё надвор’е

## Brytanski muzej

u antyčnym addziele
my hutarym z imperataram Vespasijanam
(9—79 hady našaj ery)
z tym samym što abkłaŭ padatkami
hramadzkija prybiralni
kab skazać synu što
hrošy nia pachnuć

djabał ź jimi
z prybiralniami
kažu ja
ale navošta było asudžać na vyhnańnie
stojikaŭ?
(a maja kachanaja
zhadžajecca ŭ hetuju chvilinu na spatkańnie)
zatoje ja zbudavaŭ Kalizej
apraŭdvajecca Vespasijan
ale pry čym tut stojiki?
nie razumieju ja.
(a maja kachanaja
śmieła ŭvachodzić
u čužyja dźviery)

Vespasijan niezadavolena čmychaje
marmurovym nosam
stračanym u niejkim
z dvaccaci praminułych stahodździaŭ

naš susied Septymij Sever
złaśliva kasavurycca
bałbatnia zaminaje jamu
abdumvać pachod na parfanaŭ
(a maja kachanaja
pakazvaje svaju hryŭku
čužomu lusterku)

chtości adbiŭ imperataru Septymiju
abiedźvie ruki
ale napeŭna nie za toje što jon
pačaŭ uzvodzić termy Karakały

popieł jašče nie zasypaŭ
fresak Pampeji
i smuhlavy patrycyj
lubicca ź niavolnicaj
nie zvažajučy ni na nas
ni na avanturu Ikara
ni na karabiel Ulisa.
(a maja kachanaja
padstaŭlaje vusny dla pacałunku)

u Londanie ćvituć višni u
Miensku padaje doždž
Ulis prapłyvaje paŭz vostraŭ syrenaŭ
maja kachanaja kaža nia mnie:
heta — majo nadvorje

## Памяць

памяць
любіць павучка
што жыве за старым гадзіньнікам
памяць
любіць жаўтлявую музыку
«Beatles»
памяць
любіць матылькоў
на пыльным падвоканьні

памяць
любіць сухія гарачыя рукі
памяць
любіць вусны
што ўмеюць піць да дна
памяць
любіць імя
у якім тояцца сотні імёнаў

памяць
таксама любіць

## Pamiać

pamiać
lubić pavučka
što žyvie za starym hadzińnikam
pamiać
lubić žaŭtlavuju muzyku
«Beatles»
pamiać
lubić matylkoŭ
na pylnym padvokańni

pamiać
lubić suchija haračyja ruki
pamiać
lubić vusny
što ŭmiejuć pić da dna
pamiać
lubić imia
u jakim tojacca sotni imionaŭ

pamiać
taksama lubić

## Майстэрня

баюся гасіць сьвятло —
абступяць мяне скульптуры
нясьцерпна холадна ім
самотна
ў цемры
без чалавечых рук і вачэй

так было і раней
але тады
ў туманным цемрыве
ратавалі мяне
твае рукі і
твае вусны —
цяпер
раскрывае абдымкі
толькі сылюмінавая Маргарыта

ноч навылёт
буду бавіцца
у гэтым безгалосым натоўпе
пакуль не адчую:
вярнуўшыся раніцой
сябар убачыць
сярод сваіх скульптураў
яшчэ адну
паміж Вітаўтам
і безыменным жабраком

## Majsternia

bajusia hasić śviatło —
abstupiać mianie skulptury
niaścierpna choładna jim
samotna
ŭ ciemry
biez čałaviečych ruk i vačej

tak było i raniej
ale tady
ŭ tumannym ciemryvie
ratavali mianie
tvaje ruki i
tvaje vusny —
ciapier
raskryvaje abdymki
tolki syluminavaja Marharyta

noč navylot
budu bavicca
u hetym biezhałosym natoŭpie
pakul nie adčuju:
viarnuŭšysia ranicoj
siabar ubačyć
siarod svajich skulpturaŭ
jašče adnu
pamiž Vitaŭtam
i biezymiennym žabrakom

## Гарышча

ня лазь на гарышча
наказвае бабуля
дзіўнае чыніцца там:
няма нікога
ды гавораць нейкія людзі
плача дзіця
а ўчора
круціўся сам сабою
калаўротак

дзень навылёт
сяджу ціхутка на печы
слухаю гарышча:
сьмяюцца там дзеці
гігоча прыцішана конь
стоена дыхае хтосьці
слухаючы хату
або птушак на вільчыку

мы жывем у хаце
над намі жыве гарышча
над гарышчам — неба

## Haryšča

nia łaź na haryšča
nakazvaje babula
dziŭnaje čynicca tam:
niama nikoha
dy havorać niejkija ludzi
płača dzicia
a ŭčora
kruciŭsia sam saboju
kałaŭrotak

dzień navylot
siadžu cichutka na piečy
słuchaju haryšča: śmiajucca
tam dzieci hihoča
prycišana koń stojena
dychaje chtości słuchajučy
chatu
abo ptušak na vilčyku

my žyviem u chacie
nad nami žyvie haryšča
nad haryščam — nieba

## Тое лета

тое лета
зь першым пацалункам у духмяную макаўку
з уважлівым позіркам сьмерці
з адзінокаю срэбнай кудзеркаю
з ласанькай што любіла цалавацца
з зацьвілаю азярынай
якая памятае тваё цела з тых часоў
калі вада ў ёй была празрыстая
як твае сны...

тое лета
будзе доўжыцца
даўжэй за нас

## Toje leta

toje leta
ź pieršym pacałunkam u duchmianuju makaŭku
z uvažlivym pozirkam śmierci
z adzinokaju srebnaj kudzierkaju
z łasańkaj što lubiła całavacca
z zaćviłaju aziarynaj
jakaja pamiataje tvajo cieła z tych časoŭ
kali vada ŭ joj była prazrystaja
jak tvaje sny...

toje leta
budzie doŭžycca
daŭžej za nas

## Падарожнікі

трое мужчын
ідуць паўзь мяне
па чыстым сьнезе —
тры ланцужкі сьлядоў
цягнуцца за імі

трое маіх сяброў
ідуць па белай нерушы
і ланцужкі іх сьлядоў
абрываюцца
спачатку за адным
потым за другім
потым за трэцім

трое маіх сяброў
ідуць па сьнезе
не пакідаючы сьлядоў

чаму за вамі няма сьлядоў?
спалохана крычу я

я маўчаў
калі трэба было гаварыць
адказвае першы
я гаварыў
калі трэба было маўчаць
адказвае другі

а ты мой самы дарагі сябра
чаму ты не азірнуўся?

ён глухі
адказвае першы
ён нямы
адказвае другі

трое падарожнікаў
ідуць паўзь мяне
па чыстым сьнезе

## Padarožniki

troje mužčyn
iduć paŭź mianie
pa čystym śniezie —
try łancužki śladoŭ
ciahnucca za jimi

troje majich siabroŭ
iduć pa biełaj nierušy
i łancužki jich śladoŭ
abryvajucca
spačatku za adnym
potym za druhim
potym za trecim

troje majich siabroŭ
iduć pa śniezie
nie pakidajučy śladoŭ

čamu za vami niama śladoŭ?
spałochana kryču ja

ja maŭčaŭ
kali treba było havaryć
adkazvaje pieršy
ja havaryŭ
kali treba było maŭčać
adkazvaje druhi

a ty moj samy darahi siabra
čamu ty nie azirnuŭsia?

jon hłuchi
adkazvaje pieršy
jon niamy
adkazvaje druhi

troje padarožnikaŭ
iduć paŭź mianie
pa čystym śniezie

## Згадка пра мора

калі зрастуцца
нашы нэрвовыя валаконцы
калі мае леўкацыты
пабягуць па тваіх хрызалітавых жылках
калі салёныя рукі
ператворацца ў плаўнікі
і
мы сьлізганём
у аквамарынавыя глыбіні
з тэрасы ўвойдзе
паважная чайка і
нахіліўшы набок галаву
строга прамовіць:
запомніце гэты дзень
сёньня —
сьвята найкарацейшага ценю

## Zhadka pra mora

kali zrastucca
našy nervovyja vałakoncy
kali maje leŭkacyty
pabiahuć pa tvajich chryzalitavych žyłkach
kali salonyja ruki
pieratvoracca ŭ płaŭniki
i
my ślizganiom
u akvamarynavyja hłybini
z terasy ŭvojdzie
pavažnaja čajka i
nachiliŭšy nabok hałavu
stroha pramović:
zapomnicie hety dzień
siońnia —
śviata najkaraciejšaha cieniu

## Цягнік

дзіўны цягнік
спыняецца штоночы
на нашым ліпнёвым паўстанку:
сьвецяцца вокны
ды не відаць людзей за імі

там нікога няма
шэпчаш спалохана ты
і завешваеш вакно фіранкаю
мы з табою
апошнія людзі на сьвеце

чакае цягнік нібы лёс
вабіць як бездань
сьветлай сваёй пустэчаю
каб павезьці ў невараць

вусны ратуюць вусны
цела ратуе цела
душа ратуе душу
зьнікаем у полымі паратунку
каб памерці разам
і разам уваскрэснуць

уваскрэсну на досьвітку
сьпіць за вакном
студзеньскі горад
чужое дыханьне
кранае шчаку

ты ўваскрэсьнеш
у тое ж імгненьне
на нечым плячы
скажаш камусьці ў одуме
дзіўны цягнік прысьніўся мне:
сьвецяцца вокны
ды няма нікога за імі

## Ciahnik

dziŭny ciahnik
spyniajecca štonočy
na našym lipniovym paŭstanku:
śvieciacca vokny
dy nie vidać ludziej za jimi

tam nikoha niama
šepčaš spałochana ty
i zaviešvaješ vakno frankaju my
z taboju
apošnija ludzi na śviecie

čakaje ciahnik niby los
vabić jak biezdań
śvietłaj svajoj pustečaju
kab pavieźci ŭ nievarać

vusny ratujuć vusny
cieła ratuje cieła
duša ratuje dušu
źnikajem u połymi paratunku
kab pamierci razam
i razam uvaskresnuć

uvaskresnu na dośvitku
śpić za vaknom
studzieński horad
čužoje dychańnie
kranaje ščaku

ty ŭvaskreśnieš
u toje ž imhnieńnie
na niečym plačy
skažaš kamuści ŭ odumie
dziŭny ciahnik pryśniŭsia mnie:
śvieciacca vokny
dy niama nikoha za jimi

## Закаханыя глуханямыя

у гэты дажджлівы дзень
успомні кавярню
з багемнаю рэпутацыяй
куды мы заходзілі
на філіжанку кавы
зь мігдалавым лікёрам
(постскрыптум спатканьня)
кавярню
куды завітвалі
парачка лесьбіянак
і здабытчык дыямэнтаў зь Якутыі
штораз з новаю дамай

успомні
закаханыя сядзелі за столікам
пад нязграбным пэйзажам
з парушанаю пэрспэктывай
мы не адразу заўважылі
што яны гавораць
рукамі
бо нашы рукі таксама
ніколі не маўчалі
прычым іх лексычны запас
здаваўся нам бязьмежным

мы крыху паспрачаліся на тэму
як глуханямыя
клічуць адно аднаго
і як называюць нас
калі мы завём іх
глуханямымі?

успомні
яго доўгія пальцы
нашэптвалі штосьці такое
ад чаго яе профіль
быў падведзены чырваньню
і ты сказала што
слова «кахаю» на іхняй мове
вынайшаў самы закаханы
з усіх глуханямых
мы думалі
яны зайздросьцяць нам
бо на іх мову не перакладаюцца
ні радасьць
тэлефоннага званка
ні «Yesterday»
ні музыка апошніх ускрыкаў
калі вусны
ўтрапёна ловяць
сваю здабычу

успомні тых закаханых
з дажджлівага гораду
ты не зайздросьціш ім
зараз?

**Zakachanyja hłuchaniamyja**

u hety daždžlivy dzień
uspomni kaviarniu
z bahiemnaju reputacyjaj
kudy my zachodzili
na fližanku kavy
ź mihdałavym likioram
(post scriptum spatkańnia)
kaviarniu
kudy zavitvali
paračka leśbijanak
i zdabytčyk dyjamentaŭ ź Jakutyi
štoraz z novaju damaj

uspomni
zakachanyja siadzieli za stolikam
pad niazhrabnym pejzažam
z parušanaju perspektyvaj
my nie adrazu zaŭvažyli
što jany havorać
rukami
bo našy ruki taksama
nikoli nie maŭčali
pryčym jich leksyčny zapas
zdavaŭsia nam biaźmiežnym

my krychu paspračalisia na temu
jak hłuchaniamyja
kličuć adno adnaho
i jak nazyvajuć nas
kali my zaviom jich
hłuchaniamymi?

uspomni
jaho doŭhija palcy
našeptvali štości takoje ad
čaho jaje profl
byŭ padviedzieny čyrvańniu
i ty skazała što
słova «kachaju» na jichniaj movie
vynajšaŭ samy zakachany
z usich hłuchaniamych
my dumali
jany zajzdrościać nam
bo na jich movu nie pierakładajucca
ni radaść
telefonnaha zvanka
ni «Yesterday»
ni muzyka apošnich uskrykaŭ
kali vusny
ŭtrapiona łoviać
svaju zdabyču

uspomni tych zakachanych
z daždžlivaha horadu
ty nie zajzdrościš jim
zaraz?

## Я рыфмую

рыфмую
свае вызваленыя
зь вязьніцы канонаў
радкі
з трывожным крыкам сойкі
з залатой лотацьцю
і кветкаю эстэрдэліі
з Калядамі і Купальлем
з тваёй вядзьмарскай душою
і тваім геніяльным целам
з аварыйнай сытуацыяй
на міжнародным авіярэйсе
і пагрозаю
нацыянальнае катастрофы
зь Беларусьсю
і штатам Пэнсыльванія

рыфмую з усім
што ўдаецца адваяваць
у гэтай сусьветнай звалкі
рыфмаў
набліжаючы дзень
калі з маімі радкамі
назаўсёды зарыфмуецца
цішыня

## Ja ryfmuju

ryfmuju
svaje vyzvalenyja
ź viaźnicy kanonaŭ
radki
z tryvožnym krykam sojki
z załatoj łotaćciu
i kvietkaju esterdeliji
z Kaladami i Kupallem
z tvajoj viadźmarskaj dušoju
i tvajim hienijalnym ciełam
z avaryjnaj sytuacyjaj
na mižnarodnym avijarejsie
i pahrozaju
nacyjanalnaje katastrofy
ź Biełaruśsiu
i štatam Pensylvanija

ryfmuju z usim
što ŭdajecca advajavać u
hetaj suśvietnaj zvałki
ryfmaŭ
nabližajučy dzień
kali z majimi radkami
nazaŭsiody zaryfmujecca
cišynia

## Нявеста інсургента

...а ўвечары
пагасіўшы кандэлябры
ён будзе любіць яе
да дзьмухаўцовай бязважкасьці
у іх народзяцца
дзьве белагаловыя дзяўчынкі
і яго ўзнагародзяць
ордэнам Сьвятога Станіслава...

яна ратавала яго
параненага расейскаю куляй і
шчыплючы корпію
атручвала сваю кроў
нянавісьцю
да нейкага Каліноўскага
зь яго газэткай
друкаванай для тых самых
мужыкоў
што выдавалі інсургентаў
атрымліваючы
па пяць царскіх рублёў
за жывога
і па тры — за мёртвага

аднойчы ўраньні
ён папрасіў
суніцаў зь вяршкамі
і памёр
вінавата адвёўшы позірк

на таемным пахаваньні
яна назаўсёды пракляла
гэтую зямлю
не патрэбны ёй
вецер свабоды
і яе мову
якая пахне
арыштамі і кроўю

абдымаючы іншых
яна ўсё жыцьцё ўспамінала
ягоную радзімку
ў патайным месцы
і малілася
каб Бог пакараў тых
хто
страляючы ў маскалёў
зьбіваў яблыкі
яе залатых мрояў

ягоныя біёграфы напішуць:
да апошняга ўдару сэрца
яна заставалася
палымянаю патрыёткай

## Niaviesta insurhienta

...a ŭviečary pahasiŭšy
kandelabry jon budzie
lubić jaje
da dźmuchaŭcovaj biazvažkaści
u jich narodziacca
dźvie biełahałovyja dziaŭčynki
i jaho ŭznaharodziać
ordenam Śviatoha Stanisłava...

jana ratavała jaho
paranienaha rasiejskaju kulaj i
ščyplučy korpiju
atručvała svaju kroŭ
nianaviściu
da niejkaha Kalinoŭskaha
ź jaho hazetkaj
drukavanaj dla tych samych
mužykoŭ
što vydavali insurhientaŭ
atrymlivajučy
pa piać carskich rubloŭ
za žyvoha
i pa try — za miortvaha

adnojčy ŭrańni
jon paprasiŭ
sunicaŭ ź viarškami
i pamior
vinavata advioŭšy pozirk

na tajemnym pachavańni
jana nazaŭsiody praklała
hetuju ziamlu
nie patrebny joj
viecier svabody
i jaje movu
jakaja pachnie
aryštami i kroŭju

abdymajučy jinšych
jana ŭsio žyćcio ŭspaminała
jahonuju radzimku
ŭ patajnym miescy
i maliłasia
kab Boh pakaraŭ tych
chto
stralajučy ŭ maskaloŭ
źbivaŭ jabłyki
jaje załatych mrojaŭ

jahonyja bijohrafy napišuć:
da apošniaha ŭdaru serca
jana zastavałasia
pałymianaju patryjotkaj

## 25 сакавіка

у краіне
на вуліцах якой
ідзе паляваньне
на паэтаў
і проста на людзей
што гавораць на мове
сваіх продкаў
пачынаеш асабліва цаніць
смак віна
і сьвежага хлеба
талент жаночых вуснаў
і тое што сёньня
зноў удалося
своечасова прыйсьці
на спатканьне

## 25 sakavika

u krajinie
na vulicach jakoj
idzie palavańnie
na paetaŭ
i prosta na ludziej što
havorać na movie
svajich prodkaŭ
pačynaješ asabliva canić
smak vina
i śviežaha chleba
talent žanočych vusnaŭ
i toje što sionńnia
znoŭ udałosia
svaječasova pryjšci
na spatkańnie

## Горад якога няма

*Валянціну Акудовічу*

ты сьцьвярджаеш
гэтага гораду няма
бо ён
ня вабіць мітамі і
не абавязвае мэтамі
напэўна таму
адусюль я вяртаюся
менавіта сюды

гэта так файна:
піць віно
цалаваць жанчыну і
пісаць вершы
ў горадзе
якога няма
як няма
ні лепшых ні горшых
часін і гарадоў
ні для паэзіі
ні для каханьня
ні для нашага з табой
пункцірнага сяброўства
бо ты сьцьвярджаеш
цябе таксама няма
а я маю нахабства
сумнявацца ў гэтым
ў горадзе
якога няма

## Horad jakoha niama

*Valancinu Akudoviču*

ty śćviardžaješ hetaha
horadu niama bo jon
nia vabić mitami i
nie abaviazvaje metami
napeŭna tamu
adusiul ja viartajusia
mienavita siudy

heta tak fajna:
pić vino
całavać žančynu i
pisać vieršy
ŭ horadzie
jakoha niama
jak niama
ni lepšych ni horšych časin
i haradoŭ
ni dla paeziji
ni dla kachańnia
ni dla našaha z taboj
punkcirnaha siabroŭstva
bo ty śćviardžaješ
ciabie taksama niama
a ja maju nachabstva
sumniavacca ŭ hetym
ŭ horadzie
jakoha niama

## **Ранішні верш пра твае грудкі**

у панядзелак
сьвяціла сонца і
твае грудкі
пахлі лявандаю
а прыклаўшы да іх вуха
можна было пачуць
бурштынавую музыку
Грыга

у аўторак
церусіў дождж і
твае грудкі
купаліся ў водары язьміну
а смочкі
таілі смак
вішнёвага лікёру

у сераду
было хмурна і
я параўнаў
твае грудкі
зь дзьвюма козачкамі
на зялёным схіле
вінаградніка
бо яны частавалі мяне
мускатным віном

у чацьвер
усхадзіўся вецер
а пад атласнай скураю
тваіх грудак

пераліваласяя
лютневая мэлёдыя
невядомага кампазытара
XVI стагодзьдзя
кантрапунктам якой
быў дымок
ляснога вогнішча
якім цягнула
з-пад пашак

сёньня
грудкі ня пахлі нічым —
напэўна таму
што гэта былі
не твае грудкі

## **Ranišni vierš pra tvaje hrudki**

u paniadziełak
śviaciła sonca i
tvaje hrudki
pachli lavandaju
a prykłaŭšy da jich vucha
možna było pačuć
burštynavuju muzyku
Gryga

u aŭtorak
cierusiŭ doždž i
tvaje hrudki
kupalisia ŭ vodary jaźminu
a smočki
tajili smak
višniovaha likioru

u sieradu
było chmurna i
ja paraŭnaŭ
tvaje hrudki
ź dźviuma kozačkami
na zialonym schile
vinahradnika
bo jany častavali mianie
muskatnym vinom

u čaćvier
uschadziŭsia viecier
a pad atłasnaj skuraju
tvajich hrudak

pieralivałasia
lutnievaja melodyja
nieviadomaha kampazytara
XVI stahodździa
kantrapunktam jakoj
byŭ dymok
lasnoha vohnišča
jakim ciahnuła
z-pad pašak

siońnia
hrudki nia pachli ničym —
napeŭna tamu
što heta byli nie
tvaje hrudki

## **Дзьвінскі вецер**

надзейны смак маміных цыцаў
ля вакна зь відам на
ператвораны ў вар'ятню
кляштар францысканаў

смак вады дзьвінскае лукавіны
якая рыхтавала мне
цёплае месца сярод сваіх
тапельцаў

ледзянцовы смак вуснаў
юнай распусьніцы
пад перакуленым у вербалозе
чоўнам

смак першага глытку
схаванай бабулінай самагонкі
горды смак крыві
з разьбітых у бойцы
з зарэчнай шпаною
кулакоў

гаючы смак ветру —
адной зь нешматлікіх
як зазначыў калега Камю
чыстых рэчаў

марскі смак жаночага лона
смак бясконцасьці
што кладзецца на вусны
ў зімовыя месяцавыя ночы…

а з будучыні
ўжо ляціць насустрач
тая
чый пацалунак
тоіць у сабе
ўсе знаёмыя і нязьведаныя
смакі зь іх адценьнямі
тая
якой вядомыя ўсе мае шляхі й сховы
тая
што кожную хвілю гатовая
грацыёзна апусьціцца
на маё плячо

## Dźvinski viecier

nadziejny smak maminych cycaŭ
la vakna ź vidam na
pieratvorany ŭ varjatniu
klaštar francyskanaŭ

smak vady dźvinskaje łukaviny
jakaja rychtavała mnie
ciopłaje miesca siarod svajich
tapielcaŭ

ledziancovy smak vusnaŭ
junaj raspuśnicy
pad pierakulenym u vierbałozie
čoŭnam

smak pieršaha hłytku schavanaj
babulinaj samahonki hordy
smak kryvi
z raźbitych u bojcy
z zarečnaj španoju
kułakoŭ

hajučy smak vietru —
adnoj ź niešmatlikich
jak zaznačyŭ kaleha Kamiu
čystych rečaŭ

marski smak žanočaha łona
smak biaskoncaści
što kładziecca na vusny
ŭ zimovyja miesiacavyja nočy…

a z budučyni
ŭžo lacić nasustrač
taja
čyj pacałunak
tojić u sabie
ŭsie znajomyja i niaźviedanyja
smaki ź jich adcieńniami
taja
jakoj viadomyja ŭsie maje šlachi j schovy
taja
što kožnuju chvilu hatovaja
hracyjozna apuścicca
na majo plačo

## Вестка пра нас

даўно няма нашай
ўтравелае сьцежкі
а цёплая антэна
сьпічастага валуна
дагэтуль пасылае ў сусьвет
тое самае паведамленьне
пра
белыя мяцёлкі
адцьвілага скрыпеню
расплаўленае ў сонцы лісьцё
маладой арабіны
двух рудых мурашоў
на вузкай далоні
і халаднаватыя клубы
дарослай дзяўчынкі
якую ніколі не кахаў
якую ніколі не забуду

## Viestka pra nas

daŭno niama našaj
ŭtravielaje ściežki
a ciopłaja antena
śpičastaha vałuna
dahetul pasyłaje ŭ suśviet
toje samaje paviedamleńnie
pra
biełyja miaciołki
adćviłaha skrypieniu
raspłaŭlenaje ŭ soncy liścio
maładoj arabiny
dvuch rudych murašoŭ
na vuzkaj dałoni
i chaładnavatyja kłuby
darosłaj dziaŭčynki
jakuju nikoli nie kachaŭ
jakuju nikoli nie zabudu

## Трохі інфантыльная размова з бабуляй

сам-насам з ноччу
гатую кактэйль
дзе прапорцыі
штораз мяняюцца
але інгрэдыенты тыя ж:
пляшка «Мядзьведжае крыві»
мая беларуская кроў
кропля крыві цыганскай
(вынік задаўненага граху
шклоўскай прабабкі па кудзелі)

першае каханьне
ў першай клясе
якое клічуць Ірачкай
(у пэрсікавым пушку
на худзенькай шыйцы
заблытаўся камарык
недаробленай радзімкі)
зімовыя мроі пра лета:
Ірачка патоне ў Дзьвіне
а я пасьпею
выцягнуць каханую
на парослы гусінай лапкаю
бязьлюдны пляж і
зраблю ёй штучнае дыханьне
як намалявана на
выратавальнай станцыі

калі з вуснаў у вусны
ўдзьмуваеш паветра
сэрца вырастае і
выпраўляецца ў падарожжа па
зьдзіўленым дзіцячым целе
бессаромна адгукаючыся
ў самых розных органах

аднекуль вылупляюцца
птушаняты першых вершаў
(яшчэ ня ведаю што гэта
называецца натхненьнем)

поўная адсутнасьць
тэлефонаў і тэлевізараў
вечная прысутнасьць гіпсу
на зламаных руках
пошукі полацкіх скарбаў
найлепшы археоляг — Дзьвіна
зь яе падарункам
манэтаю багаслаўлёных часоў
Жыгімонта Аўгуста
з «Пагоняй» на рэвэрсе
якую
(сьцёртую бацькам на парашок)
неўпрыцям зьем
бо ў ломкіх юных костачках
бракуе медзі

добрая вядзьмарка
бабуля Аўгіньня
маміна мама
яна ўмее замаўляць зубы
і выводзіць «каціную драпу»
яна вучыць што няможна хлусіць
бо пачуе сьвяты Мікола і
будзеш сікацца ўначы

бабуля а ты таксама сікалася
калі казала што дзед Максім
памёр ад сухоткі
а насамрэч яго ў трыццатыя
расстралялі ў магілеўскіх кар’ерах
а за дзень да свайго скону
ты гнала ў лазьні самагонку
хоць афіцыйна пайшла ў маліну

ты кажаш
мне ўжо досыць
але ж гэта ўсяго сухое чырвонае
а ня твой пяршак
празрысты як вада
ў сьвятой Ільлюцінай крыніцы
і відаць гэткі самы карысны
для арганізму

калі ты загаварыла *адтуль*

скажы мне
ці ёсьць там Беларусь
і ці разумеюць там
па-беларуску
і як я пазнаю цябе
хоць магчыма заслужыў
іншае месца дзе мы
ніколі не сустрэнемся

а хочаш я пакажу табе
сваю кватэру:
вось лазенка а вось прыбіральня
а гаўбца няма
(можаш не хваляватца
што я грымнуся з высачыні)

а тут забагацеўшы
зраблю камін
з такой самай «Пагоняй»
якую зьеў разам з профілем
Жыгімонта Аўгуста
на камінную дошку
буду ставіць зялёную пляшку і
піць за той дзень
калі ты не пусьціла ў свой ложак
п’янага бальшавічка з раёну і
засталася вечнай удавой

а хочаш уключу тэлевізар
і ты ўбачыш

як расейскія бомбы
забіваюць чачэнскіх дзяцей
пэўна дзеля таго
каб ня сікаліся ад страху

а тваіх улюбёных «падушачак»
сёньня няма
я прынясу іх табе пад бярэзіну
дзе ты бываеш на Сёмуху
ў аблічны заўсёднае пчолкі

чаму ты так рана
адляцела ў Вечны вырай
назаўсёды пакінуўшы мяне
трохі інфантыльным полацкім мальцам
які пачаў пісаць верш
і адразу зблытаўся?

**Trochi infantylnaja razmova z babulaj**

sam-nasam z nočču
hatuju kaktejl
dzie praporcyji
štoraz mianiajucca
ale inhredyjenty tyja ž:
plaška «Miadźviedžaje kryvi»
maja biełaruskaja kroŭ
kropla kryvi cyhanskaj
(vynik zadaŭnienaha hrachu
škłoŭskaj prababki pa kudzieli)

pieršaje kachańnie ŭ
pieršaj klasie jakoje
kličuć Iračkaj
(u persikavym pušku
na chudzieńkaj šyjcy
zabłytaŭsia kamaryk
niedaroblenaj radzimki)
zimovyja mroji pra leta:
Iračka patonie ŭ Dźvinie
a ja paśpieju
vyciahnuć kachanuju
na parosły husinaj łapkaju
biaźludny plaž i
zrablu joj štučnaje dychańnie
jak namalavana na
vyratavalnaj stancyji

kali z vusnaŭ u vusny
ŭdźmuvaješ pavietra
serca vyrastaje i
vypraŭlajecca ŭ padarožža pa
ździŭlenym dziciačym ciele
biessaromna adhukajučysia
ŭ samych roznych orhanach

adniekul vyłuplajucca
ptušaniaty pieršych vieršaŭ
(jaščče nia viedaju što heta
nazyvajecca natchnieńniem)

poŭnaja adsutnaść
telefonaŭ i televizaraŭ
viečnaja prysutnaść hipsu
na złamanych rukach
pošuki połackich skarbaŭ
najlepšy archieolah — Dźvina
ź jaje padarunkam
manetaju bahasłavionych časoŭ
žygimonta Aŭhusta
z «Pahoniaj» na reversie
jakuju
(ściortuju baćkam na parašok)
nieŭpryciam źjem
bo ŭ łomkich junych kostačkach
brakuje miedzi

dobraja viadźmarka
babula Aŭhińnia
mamina mama
jana ŭmieje zamaŭlać zuby
i vyvodzić «kacinuju drapu»
jana vučyć što niamožna chłusić
bo pačuje śviaty Mikoła i
budzieš sikacca ŭnačy

babula a ty taksama sikałasia
kali kazała što dzied Maksim
pamior ad suchotki
a nasamreč jaho ŭ tryccatyja
rasstralali ŭ mahileŭskich karjerach
a za dzień da svajho skonu
ty hnała ŭ łaźni samahonku
choć afcyjna pajšła ŭ malinu

ty kažaš
mnie ŭžo dosyć
ale ž heta ŭsiaho suchoje čyrvonaje
a nia tvoj piaršak
prazrysty jak vada
ŭ śviatoj Illucinaj krynicy
i vidać hetki samy karysny
dla arhanizmu

kali ty zahavaryła *adtul*

skažy mnie
ci jošć tam Biełaruś
i ci razumiejuć tam
pa-biełarusku
i jak ja paznaju ciabie
choć mahčyma zasłužyŭ
jinšaje miesca dzie my
nikoli nie sustreniemsia

a chočaš ja pakažu tabie
svaju kvateru:
voś łazienka a voś prybiralnia
a haŭbca niama
(možaš nie chvalavacca
što ja hrymnusia z vysačyni)

a tut zabahacieŭšy
zrablu kamin
z takoj samaj «Pahoniaj»
jakuju źjeŭ razam z proflem
žygimonta Aŭhusta
na kaminnuju došku
budu stavić zialonuju plašku i
pić za toj dzień
kali ty nie puściła ŭ svoj łožak
pjanaha balšavička z rajonu i
zastałasia viečnaj udavoj

a chočaš ukluču televizar
i ty ŭbačyš
jak rasiejskija bomby
zabivajuć čačenskich dziaciej
peŭna dziela taho
kab nia sikalisia ad strachu

a tvajich ulubionych «padušačak»
siońnia niama
ja pryniasu jich tabie pad biarezinu
dzie ty byvaješ na Siomuchu
ŭ abliččy zaŭsiodnaje pčołki

čamu ty tak rana
adlacieła ŭ Viečny vyraj
nazaŭsiody pakinuŭšy mianie
trochi infantylnym połackim malcam
jaki pačaŭ pisać vierš
i adrazu zbłytaŭsia?

## У Англіі

у Англіі
ёсьць каралева
і ветлівыя палісмэны
у Англіі
жывуць шэрыя вавёркі
і гарадзкія лісіцы
у Англіі
смачныя пірагі з ныркамі

у Англіі
ёсьць магіла Карла Маркса
якую можна заслаць
газэтай «Советская Б.»
і выпіць
каб капіталісты ўсіх краінаў
зьядналіся

у Англіі
растуць магноліі
а на сьняданак бываюць
сьвежыя суніцы

але ў Англіі
няма цябе
і твайго
зьлёгку санлівага позірку
і тэлефонаў з тваім голасам

у Англіі
няма прэзыдэнта
і Таварыства ангельскай мовы
імя Ўільяма Шэксьпіра

у Англіі
няма плаўленых сыркоў
і бурштынавага напою «Крыжачок»

але ў Англіі
няма цябе
і тваіх нестандартных ножак
і адважнай фрызуркі
што марыць
зусім не пра грабеньчыкі

у Англіі
ёсьць магчымасьць застацца
і піць каву на Пікадылі
стаць сваім сярод галубоў
Трафалгарскага пляцу
і паіць «Гінэсам»
знаёмую лісіцу
ў раёне Фінчлі

але ў Англіі
няма цябе
і твайго шэпціку

сатканага з самых пяшчотных
і самых грубых слоў
што казычуць вуха
пёркамі дзівосных фантазій

а таму
я купляю для нас зь лісіцай
пляшку ірляндзкага лікёру
і мы абыходзімся
бяз закусі
лісіцы ня плачуць
толькі даверліва глядзяць у вочы

пад белымі скаламі Дуўру
нецярпліва чакае паром
дзе я вып’ю за тое
што пада мною свойскі Ля-Манш
які рыфмуецца з словам «наш»
а тады накіруюся ў WC каб
пабыўшы алегорыяй крыніцы
учыніць дэфлярацыю
цнатліва белай ангельскай сьцяны
аднак гэта ўжо зробяць да мяне

о жывы подых радзімага кантынэнту!
на ім няма Англіі
але ёсьць ты
і дзесьці за Францыяй і Галяндыяй
за Бэрлінам і Варшавай
за Івацэвічамі й Койданавам

ты стаіш ля вакна
з келіхам у тонкай
цёплай руцэ
і чуеш як родны памежнік
кажа мне
«Здравствуйте!»

## U Anhliji

u Anhliji
jość karaleva
i vietlivyja palismeny
u Anhliji
žyvuć šeryja vaviorki
i haradzkija lisicy
u Anhliji
smačnyja pirahi z nyrkami

u Anhliji
jość mahiła Karła Marksa
jakuju možna zasłać
hazetaj «Sovietskaja B.»
i vypić
kab kapitalisty ŭsich krajinaŭ
źjadnalisia

u Anhliji
rastuć mahnoliji
a na śniadanak byvajuć
śviežyja sunicy

ale ŭ Anhliji
niama ciabie
i tvajho
źlohku sanlivaha pozirku
i telefonaŭ z tvajim hołasam

u Anhliji
niama prezydenta
i Tavarystva anhielskaj movy
imia Ŭiljama Šekśpira

u Anhliji
niama płaŭlenych syrkoŭ
i burštynavaha napoju «Kryžačok»

ale ŭ Anhliji
niama ciabie
i tvajich niestandartnych nožak
i advažnaj fryzurki
što maryć
zusim nie pra hrabieńčyki

u Anhliji
jość mahčymaść zastacca
i pić kavu na Pikadyli
stać svajim siarod hałuboŭ
Trafalgarskaha placu
i pajić «Guinnessam»
znajomuju lisicu
ŭ rajonie Finčli

ale ŭ Anhliji
niama ciabie
i tvajho šepciku

satkanaha z samych piaščotnych
i samych hrubych słoŭ
što kazyčuć vucha
piorkami dzivosnych fantazij

a tamu
ja kuplaju dla nas ź lisicaj
plašku irlandzkaha likioru
i my abychodzimsia
biaz zakusi
lisicy nia płačuć
tolki davierliva hladziać u vočy

pad biełymi skałami Duŭru
nieciarpliva čakaje parom
dzie ja vypju za toje
što pada mnoju svojski La-Manš
jaki ryfmujecca z słovam «naš» a
tady nakirujusia ŭ WC kab
pabyŭšy alehoryjaj krynicy
učynić defaracyju
cnatliva biełaj anhielskaj ściany
adnak heta ŭžo zrobiać da mianie

o žyvy podych radzimaha kantynentu!
na jim niama Anhliji
ale jość ty
i dzieści za Francyjaj i Halandyjaj
za Berlinam i Varšavaj
za Ivacevičami j Kojdanavam

ty stajiš la vakna
z kielicham u tonkaj
ciopłaj ruce
i čuješ jak rodny pamiežnik
kaža mnie
«Zdravstvujtie!»

## **Сачу твае знакі Свабода**

у спакоі тваіх вачэй
у смутку тваіх сьлёз
у таемнасьці тваіх слоў
на дне твайго маўчаньня
на ўзьмежках спатканьняў і ростаняў
у плыні рэк і аўтастрадаў
на вуліцы Ніжнепакроўскай у Полацку
і на бэрлінскай Unter den Linden
на старонках старых фаліянтаў
і пад вокладкамі новых кніг
у палёце птушак
і ў сьпевах марцовых катоў
у вершах і нэкралёгах
у водары тваёй парфумы
і ў глыбінях твайго лона —
паўсюль
сачу знакі таго
што павінна зьдзейсьніцца
ў гэтым стагодзьдзі
паўсюль
дзень пры дні
сачу твае знакі
Свабода

## **Saču tvaje znaki Svaboda**

u spakoji tvajich vačej
u smutku tvajich śloz
u tajemnaści tvajich słoŭ
na dnie tvajho maŭčańnia
na ŭźmiežkach spatkańniaŭ i rostaniaŭ
u płyni rek i aŭtastradaŭ
na vulicy Nižniepakroŭskaj u Połacku
i na berlinskaj Unter den Linden
na staronkach starych falijantaŭ
i pad vokładkami novych knih
u palocie ptušak
i ŭ śpievach marcovych katoŭ
u vieršach i nekralohach
u vodary tvajoj parfumy
i ŭ hłybiniach tvajho łona —
paŭsiul
saču znaki taho
što pavinna ździejśnicca
ŭ hetym stahodździ
paŭsiul
dzień pry dni
saču tvaje znaki
Svaboda

**Усё па-ранейшаму толькі імёны зьмяніліся**

**Usio pa-raniejšamu tolki imiony źmianilisia**

**Полацак**

у даўкім віне
восеньскага паветра
іду па бруку
сярод старых камяніц
пад сьцягам адзіноты

**Połacak**

u daŭkim vinie
vosieńskaha pavietra
idu pa bruku
siarod starych kamianic
pad ściaham adzinoty

## Апошняя жанчына Казановы

*Сьвятлане й Алесю*

потым ён пазіраў у столь
пакуль яна ціха плакала
глядзела на акуратную плямку
памерам зь вішню гэткага ж колеру
кратала яе пальчыкам
павольна апраналася

потым ён сказаў
*запомні дзіця маё*
*быць жанчынаю значыць умець*
*уцякаць так каб цябе злавілі*
яна зноў заплакала
каб высушыць яе сьлёзы ён працягваў
*а ўзаемнасьць гэта калі любіш сябе*

потым яшчэ адчуваючы
козыт яе залатога руна
халаднаваты згустак яе цела
сьвежага як адпрасаваная кашуля
ён думаў
Даротка
апэтытная чарнявая козачка
дваццаць адзін год
дачка замкавага прыбрамніка
такіх выпраўляюць у плаваньне
гадоў у дванаццаць
хто б мог уявіць

потым ён адчыніў вакно
падаў надакучлівы багемскі дождж
але мокрая лістота панядзелка
пахла лепей за рэчыва якім у пятніцу

нехта намаляваў ягоны партрэт
што прыляпілі тым самым рэчывам
да сьцяны гарадзкой прыбіральні
гаўняны мастак меў несумнеўныя здольнасьці

потым сэрца сьціснулася ад згадкі пра
ўлюбёнага сабаку якога забілі ў суботу
падкінуўшы яшчэ цёплага яму пад дзьверы
але ўчарашняя думка пра самагубства
ўжо згарэла ў каміне
разам з балючым успамінам аб тым
як учора з нагоды нядзелі
фаварыт замкавага аканома зьбіў яго
Джакома Казанову
знаёмага з каралямі ды імпэратарамі
сукаватым друкам пасярод вуліцы
Даротка — цудоўны рэванш калі табе 66

потым быў судовы працэс
у напятай вусьцішы Даротка абвясьціла што
яе пазбавіў нявіннасьці

не бібліятэкар графа Вальдштайна
Джакома Казанова
як сьцьвярджаюць розныя недасьведчаныя асобы
а малады мастак які два тыдні таму
ўцёк нягоднік у Італію
фаварыт аканома гучна вылаяўся а ён зразумеў
што не згадае дачку прыбрамніка ў мэмуарах
дзе між іншага піша пра ўсіх сваіх жанчын
памятаючы кожную на імя на вусны на лоні

потым ён вярнуўся да запаветнага манускрыпту
каб схіляцца над ім яшчэ сем гадоў
3700 старонак і толькі трацiна пра любоўныя гульні
47 італіек (ён быў патрыётам)
19 францужанак 10 швайцарак
24 служанкі (ён быў дэмакратам)
18 дам высакароднага паходжаньня
7 актрак 1 рабыня (дала б фору тром графіням)
3 манашкі (ён быў хрысьціянінам)
уласная даруй Божа пляменьніца etc.

потым ён памёр
круцячы катрынку ўспамінаў
думаючы што патрэба кахаць
гэтаксама як патрэба быць каханым —
праява чалавечага эгаізму
згадваючы Даротку
гэта здарылася ў ягоным фатэлі
ложак быў толькі крышачку даўжэйшы
у тыя часы спалі амаль седзячы
каб адпалохваць сьмерць
быццам яна ня ведае гэткіх хітрыкаў

потым Даротка выйшла замуж
праславілася сярод сябровак сваёй мудрасьцю
бо ўмела да месца сказаць сэнтэнцыю
пачутую ад колішняга графскага бібліятэкара
*ня варта распранацца там дзе нявартa распранацца*
або
*калі ваш муж рагаты гэта ня значыць што ён д’ябал*
часам у яе пыталіся што чуваць пра
ейнага першага мужчыну які ўцёк у Італію
тады на Даротчыных вуснах
доўга ня гасла цёплая ўсьмешка

потым я пытаўся колькі жанчын было ў Казановы
10 000 не задумваючыся адказаў адзін сябар
365 пасьля складаных падлікаў падсумаваў другі
900 летуценна ўзьняла вочы адна знаёмая
20 засьмяялася другая апынуўшыся найбліжэй да праўды
дадай 112 сказаў я і яшчэ Даротку

потым я прыехаў у замак Вальдштайнаў у

Духцаве
цяпер гэта Чэхія
там усё засталося па-ранейшаму
няма толькі партрэту ў прыбіральні
а шкада бо пах выветрыўся дзьвесьце гадоў таму
затое ў замку павесілі празрыстую паштовую скрынку
НАПІШЫЦЕ КАЗАНОВУ І ЁН ВАМ АДКАЖА
поўную лістоў з жаночымі імёнамі й дакладнымі адрасамі
усе спрэс па-расейску
потым я зайшоў у пансіён КАЗАНОВА
замовіў келіх франкоўкі
нейкі пструг на рошту з брамбарамі
разгарнуў нататнік і напісаў
*потым ён пазіраў у столь*

потым я прачытаў імя чарнявай афіцыянткі
Даротка

потым я пазіраў у столь

**Apošniaja žančyna Kazanovy**

*Śviatłanie j Alesiu*

potym jon paziraŭ u stol
pakul jana cicha płakała
hladzieła na akuratnuju plamku
pamieram ź višniu hetkaha ž koleru
kratała jaje palčykam
pavolna apranałasia

potym jon skazaŭ
*zapomni dzicia majo*
*być žančynaju značyć umieć*
*uciakać tak kab ciabie złavili*
jana znoŭ zapłakała
kab vysušyć jaje ślozy jon praciahvaŭ
*a ŭzajemnaść heta kali lubiš siabie*

potym jašče adčuvajučy
kozyt jaje załatoha runa
chaładnavaty zhustak jaje cieła
śviežaha jak adprasavanaja kašula
jon dumaŭ
Darotka
apetytnaja čarniavaja kozačka
dvaccać adzin hod
dačka zamkavaha prybramnika
takich vypraŭlajuć u pławańnie

hadoŭ u dvanaccać
chto b moh ujavić

potym jon adčyniŭ vakno
padaŭ nadakučlivy bahiemski doždž
ale mokraja listota paniadziełka
pachła lepiej za rečyva jakim u piatnicu

niechta namalavaŭ jahony partret
što prylapili tym samym rečyvam
da ściany haradzkoj prybiralni
haŭniany mastak mieŭ niesumnieŭnyja zdolnaści

potym serca ścisnułasia ad zhadki pra
ŭlubionaha sabaku jakoha zabili ŭ subotu
padkinuŭšy jašče ciopłaha jamu pad dźviery ale
ŭčarašniaja dumka pra samahubstva
ŭžo zhareła ŭ kaminie
razam z balučym uspaminam ab tym
jak učora z nahody niadzieli
favaryt zamkavaha akanoma źbiŭ jaho
Džakoma Kazanovu
znajomaha z karalami dy imperatarami
sukavatym drukam pasiarod vulicy
Darotka — cudoŭny revanš kali tabie 66

potym byŭ sudovy praces
u napiataj vuścišy Darotka abviaściła što
jaje pazbaviŭ niavinnaści
nie biblijatekar hrafa Valdštajna
Džakoma Kazanova
jak śćviardžajuć roznyja niedaśviedčanyja asoby
a małady mastak jaki dva tydni tamu
ŭciok niahodnik u Italiju
favaryt akanoma hučna vyłajaŭsia a jon zrazumieŭ
što nie zhadaje dačku prybramnika ŭ memuarach
dzie miž jinšaha piša pra ŭsich svajich žančyn
pamiatajučy kožnuju na imia na vusny na łoni

potym jon viarnuŭsia da zapavietnaha
manuskryptu
kab schilacca nad jim jašče siem hadoŭ
3700 staronak i tolki tracina pra luboŭnyja hulni
47 italijek (jon byŭ patryjotam)
19 francužanak 10 švajcarak
24 słužanki (jon byŭ demakratam)
18 dam vysakarodnaha pachodžańnia
7 aktorak 1 rabynia (dała b foru trom hrafniam)
3 manaški (jon byŭ chryścijaninam)
ułasnaja daruj Boža plamieńnica etc.

potym jon pamior
kruciačy katrynku ŭspaminaŭ
dumajučy što patreba kachać hetaksama
jak patreba być kachanym — prajava
čałaviečaha ehajizmu zhadvajučy
Darotku
heta zdaryłasia ŭ jahonym fateli
łožak byŭ tolki kryšačku daŭžejšy u

tyja časy spali amal siedziačy kab
adpałochvać śmierć
byccam jana nia viedaje hetkich chitrykaŭ

potym Darotka vyjšła zamuž
prasłaviłasia siarod siabrovak svajoj mudraściu
bo ŭmieła da miesca skazać sentencyju
pačutuju ad kališniaha hrafskaha biblijatekara
*nia varta raspranacca tam dzie niavarta raspranacca*
abo
*kali vaš muž rahaty heta nia značyć što jon djabał*
časam u jaje pytalisia što čuvać pra
jejnaha pieršaha mužčynu jaki ŭciok u Italiju
tady na Darotčynych vusnach
doŭha nia hasła ciopłaja ŭśmieška

potym ja pytaŭsia kolki žančyn było ŭ Kazanovy
10 000 nie zadumvajučysia adkazaŭ adzin siabar
365 paśla składanych padlikaŭ padsumavaŭ druhi
900 letucienna ŭźniała vočy adna znajomaja
20 zaśmiajałasia druhaja apynuŭšysia najbližej da praŭdy
dadaj 112 skazaŭ ja i jašče Darotku

potym ja pryjechaŭ u zamak Valdštajnaŭ u
Duchcavie ciapier
heta Čechija
tam usio zastałosia pa-raniejšamu
niama tolki partretu ŭ prybiralni
a škada bo pach vyvietryŭsia dźvieście hadoŭ tamu
zatoje ŭ zamku paviesili prazrystuju paštovuju skrynku
NAPIŠYCIE KAZANOVU I JON VAM ADKAžA
poŭnuju listoŭ z žanočymi imionami j dakładnymi adrasami
usie spres pa-rasiejsku
potym ja zajšoŭ u pansijon KAZANOVA
zamoviŭ kielich frankoŭki
niejki pstruh na roštu s bramboramy
razharnuŭ natatnik i napisaŭ
*potym jon paziraŭ u stol*

potym ja pračytaŭ imia čarniavaj afcyjantki
Darotka

potym ja paziraŭ u stol

## Вецер

вецер — ды гэта ўсяго толькі розьніца ціскаў
дзе тая дзева якую за школай ты ціскаў?
жыць — гэта йсьці супраць ветру адкрыўшы
забрала?
дзе тая рэчка што ледзьве цябе не забрала?

дзева памерла пасьпеўшы паняньчыць унука
рэчка зьніцела — сама без усякай прынукі
ты паглядзіш у яе перасохлае люстра
нешта згадаеш з таго што казаў Заратустра

можа вось гэта: адны паміраюць зарана
ну а другія запозна… адкрыецца рана
ў памяці соннай зьнячэўку: філёзаф засраны!
як яе клікалі? Аня… Ганулечка… Ганна!

## Viecier

viecier — dy heta ŭsiaho tolki roźnica ciskaŭ
dzie taja dzieva jakuju za školaj ty ciskaŭ?
žyć — heta jšci suprać vietru adkryŭšy zabrała?
dzie taja rečka što ledźvie ciabie nie zabrała?

dzieva pamierła paśpieŭšy paniańčyć unuka
rečka źniciełа — sama biez usiakaj prynuki
ty pahladziš u jaje pierasochłaje lustra niešta
zhadaješ z taho što kazaŭ Zaratustra

moža voś heta: adny pamirajuć zarana
nu a druhija zapozna… adkryjecca rana
ŭ pamiaci sonnaj źniačeŭku: flozaf zasrany!
jak jaje klikali? Ania… Hanulečka… Hanna!

## **It’s all the same…**

*Яну Максімюку*

у паўпустым вечаровым мэтро
зь ленаватым позехам жніўня
і рэклямаю контрацэптываў
ператвараесься ў гледача
вандроўнага тэатру на рэйках

у спэктаклі занятыя
дзьве парачкі закаханых
зусім юная і сталая
з заручальнымі пярсьцёнкамі
відавочна падараванымі
не адно аднаму
былы паэт а цяпер
пітушчы ціхі вар’ят
з пляшкаю ў кішэні
маладая мама зь немаўлёнкам
хлопец з плэерам

юныя закаханыя
ўзасмокт цалуюцца
сталыя пераплятаюцца пальцамі
былы паэт выцягвае ня пляшку
а зашмальцаваную кніжку
немаўлёнак шукае цыцу
хлопец умыкае плэер

інтрыга залежыць
ад тваёй фантазіі
уладальнік плэера
пазнае ў адным з каханкаў
роднага бацьку

былы паэт пазнае
ў спадарожніцы апазнанага бацькі
сваё першае каханьне
ты пазнаеш песьню Бон Джові
*it’s all the same…*
юная закаханая
пазнае ў гаспадару плэера
таго хто ўвесну
пазбавіў яе нявіннасьці
*only the names have changed…*
немаўлёнак пазнае пакуль
толькі маміны цыцы
якія здаецца не пазнае
ніводны з астатніх прысутных
улучна з табой

*it’s all the same*
*only the names have changed…*
сьпявае Бон Джові
словы нарэшце даплываюць
да твае сьвядомасьці
усё па-ранейшаму
толькі імёны зьмяніліся…

клясная песьня думаеш ты
усьцешана ўяўляючы як

гадоў празь семдзесят пяць
у гэтым мэтро зноў
будзе ехаць вечар
у кампаніі з жніўнем
і сёньняшні немаўлёнак
(адзіны у каго ня зьменіцца імя)
зьявіцца на сцэне ў ролі
былога паэта
(калі бываюць былыя паэты)
з пляшкаю і

зашмальцаванай кніжкаю
(калі тады яшчэ будуць кніжкі
якія можна зашмальцаваць)
а нейкі маладзён умкне
які-небудзь тагачасны плэер
што дзівам захавае мэлёдыю
якая цяпер атручвае цябе
неадольным аптымізмам

і ты ўжо верыш быццам
пакуль на тваім месцы ўладкуецца
хтосьці зь іншым імем
яшчэ пасьпееш стварыць
геніяльны раман
наведаць Новую Зэляндыю
а таксама

выпіць зь Міланам Кундэрам
дасхочу нагаварыўшыся зь ім
пра гэтую невыносную
лёгкасьць быцьця

**It’s all the same...**

*Janu Maksimiuku*

u paŭpustym viečarovym metro
ź lenavatym poziecham žniŭnia
i reklamaju kontraceptyvaŭ
pieratvarajeśsia ŭ hledača
vandroŭnaha teatru na rejkach

u spektakli zaniatyja
dźvie parački zakachanych
zusim junaja i stałaja
z zaručalnymi piarścionkami
vidavočna padaravanymi
nie adno adnamu
były paet a ciapier
pitušččy cichi varjat
z plaškaju ŭ kišeni
maładaja mama ź niemaŭlonkam
chłopiec z płejeram

junyja zakachanyja
ŭzasmokt całujucca
stałyja pieraplatajucca palcami
były paet vyciahvaje nia plašku
a zašmalcavanuju knižku
niemaŭlonak šukaje cycu
chłopiec umykaje płejer

intryha zaležyć
ad tvajoj fantaziji
uładalnik płejera
paznaje ŭ adnym z kachankaŭ
rodnaha baćku

były paet paznaje
ŭ spadaroznicy apaznanaha baćki
svajo pieršaje kachańnie
ty paznaješ pieśniu *Bon Jovi*
*it’s all the same...*
junaja zakachanaja
paznaje ŭ haspadaru płejera
taho chto ŭviesnu
pazbaviŭ jaje niavinnaści
*only the names have changed...*
niemaŭlonak paznaje pakul
tolki maminy cycy
jakija zdajecca nie paznaje
nivodny z astatnich prysutnych
ułučna z taboj

*it’s all the same*
*only the names have changed...*
śpiavaje *Bon Jovi*
słovy narešcie dapłyvajuć
da tvaje śviadomaści
usio pa-raniejšamu
tolki imiony źmianilisia…

klasnaja pieśnia dumaješ ty
uściešana ŭjaŭlajučy jak

hadoŭ praź siemdziesiat piać
u hetym metro znoŭ
budzie jechać viečar
u kampaniji z žniŭniem
i siońniašni niemaŭlonak
(adziny u kaho nia źmienicca imia)
źjavicca na scenie ŭ roli
byłoha paeta
(kali byvajuć byłyja paety)
z plaškaju i

zašmalcavanaj knižkaju (kali
tady jašče buduć knižki jakija
možna zašmalcavać)
a niejki maładzion umknie jaki-
niebudź tahačasny płejer
što dzivam zachavaje melodyju
jakaja ciapier atručvaje ciabie
nieadolnym aptymizmam

i ty ŭžo vieryš byccam
pakul na tvajim miescy ŭładkujecca
chtości ź jinšym jimiem
jašče paśpieješ stvaryć
hienijalny raman
naviedać Novuju Zelandyju
a taksama
vypić ź Miłanam Kunderam
daschoču nahavaryŭšysia ź jim
pra hetuju nievynosnuju
lohkaść byćcia

## Талінская галубка

талінская галубка
жыве на царкве Олевістэ
зь якой у яснае надвор'е
пасьля пляшкі лікёру «Vana Tallinn»
добра відаць Беларусь
асабліва Полацак
ажно да кавярні «Даміян»
з мачанкаю на стале
праўда потым баліць галава
за ўсё трэба плаціць

гэта я размаўляю
з талінскай галубкаю
яна даведваецца што
іхняе сыбэр
па-нашаму будзе сябар
а як па-іхняму сяброўка
трэба ўдакладніць
зрэшты ня так істотна
жанчына можа быць
ня толькі сяброўкай
але і сябрам

а вось підар па-эстонску
значыць зусім іншае
аднак расейскія турысты
не гавораць па-эстонску

*слушай пидор*
кажа адзін свайму спадарожніку
*ты едал голубей?*
*сам ты пидор*
*вот и голубей*
дасьціпна адказвае другі

талінская галубка
крыху разумее па-расейску
ў яе ў вачах
успыхвае трывога
я раблю знак
каб яна не баялася
разам нас таксама двое
галубка не зусім давярае і
прабачліва міргнуўшы
адлятае
гатэль Мэрытон 402
пасьпяваю я крыкнуць наўздагон

*ты это кому?*
пагрозьліва пытаецца аматар галубоў
у яго на вуснах круціцца *пидор*
*ты что не местный?*
галубка лётае над намі
але што яна можа зрабіць
хіба адно тое што робіць:
капае на галаву аматару галубоў

*вот блядь*
*у них даже птицы русских не любят*
я адступаю да вітых сходаў
на іх можна адбараніцца
ад цэлай зграі
турыстаў з братняй краіны

па дарозе ў гатэль
шанцуе вывучыць яшчэ адно
вельмі патрэбнае эстонскае слова
terviseks
як ні дзіўна
ніякі гэта ня сэкс а тое што па-нашаму
будзьма!

талінская галубка
чакае на падвоканьні
чысьціць пёркі
вострыць дзюбку
разводзіць крылы
я адчыняю вакно
у мяне ёсьць
хлеб сыр віно
дзьве шклянкі
яна адмаўляецца ад віна
пагаджаецца на сыр з хлебам
terviseks!

я маю
два ложкі
душ
shower тлумачу я па-ангельску
шэсьць ручнікоў
сушылку для валасоў
і пёраў
terviseks!
я маю
тэлевізар
пяцьдзясят каналаў
можам глядзець эстонскія
напрыклад гэты фільм
пра гарадзкіх катоў
пра катоў ёй не падабаецца
няўжо эстонскія каты
ядуць эстонскіх галубак?
terviseks!

эстонскі сыбэр казаў што
terviseks трэба вымаўляць хутка
безь пярэрваў
іначай атрымаецца нешта
сапраўды пра сэкс

а чаму б не паспрабаваць?
спачатку адажыё
tervi-seks
а цяпер алегра
terviseks!

пляшак таксама дзьве
яшчэ ў мяне ў нумары
ёсьць інтэрнэт
вось мой адрас
а як там у вас з галубінаю поштай?
terviseks!

ня трэба так дакорліва
хітаць шызай галоўкаю
з бэзавым каўнерыкам
давай лепей пагаворым
пра Эдгара Алана По
між іншага я адзначаю
ягоныя дні народзінаў
нядаўна мэтру споўнілася дзьвесце
да яго таксама прылятала птушка
толькі вялікая й чорная
карацей крумкач
змрачнюга й жахальнік
сядзеў на пагрудзьдзі Паляды
ды крумкаў зараза:
nevermore!
do you understand my darling?
terviseks!

ты магла б мне сказаць:
forever
ці прынамсі
sometimes
а ты дакорліва хітаеш
шызай галоўкаю

я ўбачу твае вочкі
на дне апошняе шклянкі
terviseks!

слухай а як цябе клічуць?
я Ўладзімер
лепей Уладзя
скарочана Ула
так мяне кліча адзін чалавек
там дзе ядуць мачанку
а цябе мне хочацца назваць
Таля
ад імя твайго гораду
ці яшчэ ад якога-небудзь імя
скарочана будзе
Та

аднекуль пачынае гучаць
Summertime
ў выкананьні Элы Фіцджэралд
заябацельская рэч
відаць ты ўмкнула MTV
а хто ўмкнуў расейскіх турыстаў?
*открывай пидор*
зараз я ім пакажу
хто тут підар
здаецца па-эстонску

прыкладна так вымаўляецца алень
часам мне маніцца
ператварыцца акурат у яго
але сёньня — толькі ў голуба

*открывай пидор*
зараз адчыню
нас жа двое праўда?
хаця б sometimes
terviseks!

**Talinskaja hałubka**

talinskaja hałubka
žyvie na carkvie Oleviste
ź jakoj u jasnaje nadvorje
paśla plaški likioru «Vana Tallinn»
dobra vidać Biełaruś
asabliva Połacak
ažno da kaviarni «Damijan»
z mačankaju na stale
praŭda potym balić hałava
za ŭsio treba płacić

heta ja razmaŭlaju
z talinskaj hałubkaju
jana daviedvajecca što
jichniaje *sxber*
pa-našamu budzie siabar
a jak pa-jichniamu siabroŭka
treba ŭdakładnić
zrešty nia tak istotna
žančyna moža być
nia tolki siabroŭkaj
ale i siabram

a voś pidar pa-estonsku
značyć zusim jinšaje
adnak rasiejskija turysty
nie havorać pa-estonsku

*słušaj pidor*
kaža adzin svajmu spadarožniku
*ty jedał gołubiej?*
*sam ty pidor*
*vot i gołubiej*
daścipna adkazvaje druhi

talinskaja hałubka
krychu razumieje pa-rasiejsku
ŭ jaje ŭ vačach
uspychvaje tryvoha
ja rablu znak
kab jana nie bajałasia
razam nas taksama dvoje
hałubka nie zusim daviaraje i
prabačliva mirhnuŭšy adlataje
hatel *Meriton* 402
paśpiavaju ja kryknuć naŭzdahon

*ty eto komu?*
pahroźliva pytajecca amatar hałuboŭ
u jaho na vusnach krucicca *pidor*
*ty čto nie miestnyj?*
hałubka lotaje nad nami
ale što jana moža zrabić
chiba adno toje što robić:
kapaje na hałavu amataru hałuboŭ
*vot blad'*

*u nich daže pticy russkich nie lubiat*
ja adstupaju da vitych schodaŭ
na jich možna adbaranicca
ad cełaj zhraji
turystaŭ z bratniaj krajiny

pa darozie ŭ hatel
šancuje vyvučyć jašče adno vielmi
patrebnaje estonskaje słova
*terviseks*
jak ni dziŭna
nijaki heta nia seks a toje što pa-našamu
budźma!

talinskaja hałubka
čakaje na padvokańni
čyścić piorki
vostryć dziubku
razvodzić kryły
ja adčyniaju vakno
u mianie jość
chleb syr vino
dźvie šklanki
jana admaŭlajecca ad vina
pahadžajecca na syr z chlebam
*terviseks!*

ja maju
dva łožki

duš
*shower* tłumaču ja pa-anhielsku
šeść ručnikoŭ
sušyłku dla vałasoŭ
i pioraŭ
*terviseks!*
ja maju
televizar
piaćdziasiat kanałaŭ
možam hladzieć estonskija
naprykład hety flm
pra haradzkich katoŭ
pra katoŭ joj nie padabajecca
niaŭžo estonskija katy
jaduć estonskich hałubak?
*terviseks!*

estonski *sxber* kazaŭ što
*terviseks* treba vymaŭlać chutka
bieź piarervaŭ
inačaj atrymajecca niešta
sapraŭdy pra seks

a čamu b nie pasprabavać?
spačatku adažyjo
*tervi-seks*
a ciapier alehra
*terviseks!*

plašak taksama dźvie
jašče ŭ mianie ŭ numary
jość internet
voś moj adras
a jak tam u vas z hałubinaju poštaj?
*terviseks!*

nia treba tak dakorliva
chitać šyzaj hałoŭkaju
z bezavym kaŭnierykam
davaj lepiej pahavorym
pra Edhara Ałana Po
miž jinšaha ja adznačaju
jahonyja dni narodzinaŭ
niadaŭna metru spoŭniłasia dźviescie
da jaho taksama prylatała ptuška tolki
vialikaja j čornaja
karaciej krumkač
zmračniuha j žachalnik
siadzieŭ na pahrudździ Palady
dy krumkaŭ zaraza:
*nevermore*!
*do you understand my darling?*
*terviseks!*

ty mahła b mnie skazać:
*forever*
ci prynamsi
*sometimes*

a ty dakorliva chitaješ šyzaj
hałoŭkaju

ja ŭbaču tvaje vočki
na dnie apošniaje šklanki
*terviseks*!

słuchaj a jak ciabie kličuć?
ja Ŭładzimier
lepiej Uładzia
skaročana Uła
tak mianie kliča adzin čałaviek
tam dzie jaduć mačanku
a ciabie mnie chočacca nazvać
Tala
ad imia tvajho horadu
ci jašče ad jakoha-niebudź imia
skaročana budzie
Ta

adniekul pačynaje hučać
*Summertime*
ŭ vykanańni Eły Ficdžerałd
zajabacielskaja reč
vidać ty ŭmknuła MTV
a chto ŭmknuŭ rasiejskich turystaŭ?
*otkryvaj pidor*
zaraz ja jim pakažu
chto tut pidar

zdajecca pa-estonsku
prykładna tak vymaŭlajecca aleń
časam mnie manicca
pieratvarycca akurat u jaho
ale siońnia — tolki ŭ hołuba
*otkryvaj pidor*
zaraz adčyniu
nas ža dvoje praŭda?
chacia b *sometimes*
*terviseks!*

## Карэктура

зноў вычытваю
карэктуру твайго цела

тэкст
штораз зьлёгку іначыцца
зьдзіўляючы
сьвежымі сэнсамі
рухомай пунктуацыі радзімак
неспадзяванай зноскаю
новай папілёмкі
адсутным учора курсівам
незнаёмай парфумы

чытаю
вейкі
вочы
вусны
даю падзагалоўкі
дзьвюм ружовым паўкулям
з сакаўным двукроп'ем
дзе бясконца пераліваюцца
водары й смакі
шыпшыны
глогу
ажыны
райскіх яблычкаў
дурніцаў

чытаю радок за радком
уважліва
пяшчотна
бесцырымонна
нахабна
няўпэўнена
радасна
каб урэшце

ўвайсьці ў падтэкст
кінуцца ў яго плынь
плысьці супроць яе
мяняючы стылі
выкіроўваючыся на строму
адпачываючы ў завоінах
даючы нырца
захлынаючыся
глыбінёю
асалодаю
нечалавечай самотаю
дыханьнем вечнасьці
набліжаючыся да
кропкі невяртаньня
чакаючы хвалю якая
падхопіць мяне і

аглухлы
выснажаны
бязважкі

я апынуся на высьпе
населенай мной і табою
дзе ўжо ты
будзеш чытаць
карэктуру майго цела
шэпчучы нешта пра
двухтомнік нашага выбранага
рэдактарку пасьля якой
немагчыма нічога паправіць
молячы
як мага даўжэй
не ператварацца
ў кнігу

## Karektura

znoŭ vyčytvaju
karekturu tvajho cieła

tekst
štoraz źlohku inačycca
ździŭlajučy
śviežymi sensami
ruchomaj punktuacyji radzimak
niespadziavanaj znoskaju
novaj papilomki
adsutnym učora kursivam
nieznajomaj parfumy

čytaju
viejki
vočy
vusny
daju padzahałoŭki
dźvium ružovym paŭkulam
z sakaŭnym dvukropjem
dzie biaskonca pieralivajucca
vodary j smaki
šypšyny
hłohu
ažyny
rajskich jabłyčkaŭ
durnicaŭ

čytaju radok za radkom
uvažliva
piaščotna
biescyrymonna
nachabna
niaŭpeŭniena

radasna
kab urešcie

ŭvajšci ŭ padtekst
kinucca ŭ jaho płyń
płyšci suproć jaje
mianiajučy styli
vykiroŭvajučysia na stromu
adpačyvajučy ŭ zavojinach
dajučy nyrca
zachłynajučysia
hłybinioju
asałodaju
niečałaviečaj samotaju
dychańniem viečnaści
nabližajučysia da
kropki nieviartańnia
čakajučy chvalu jakaja
padchopić mianie i

ahłuchły
vysnažany
biazvažki
ja apynusia na vyśpie
nasielenaj mnoj i taboju
dzie ŭžo ty
budzieš čytać
karekturu majho cieła
šepčučy niešta pra
dvuchtomnik našaha vybranaha
redaktarku paśla jakoj
niemahčyma ničoha papravić
molačy
jak maha daŭžej
nie pieratvaracca
ŭ knihu

**11 дзён**

усьмешка ад вушка да вушка
першая кава ўдваіх
акторства ў ролях самiх сябе

так блізка было ўжо
да цёплых бэрак
у кроне швэдрыка
да шчасьця спалоханага ложка
да кармінавай мятлушкі
майточкаў на сьвяцільні
да кучаравых плавачак
паміж нагамі жанчыны
і целам малалеткі
да купэ ў ваколіцах Пампэяў
яшчэ не накрытых попелам
да крылатага сну
на вастрыі пляча
ў маршрутцы нявызначанага маршруту

потым званкі
раз на тыдзень
на месяц
на год

ці можна быць
самым дарагім чалавекам
толькі 11 дзён?
аказваецца можна

**11 dzion**

uśmieška ad vuška da vuška pieršaja
kava ŭdvajich
aktorstva ŭ rolach samich siabie

tak blizka było ŭžo
da ciopłych berak
u kronie švedryka
da ščaścia spałochanaha łožka
da karminavaj miatłuški
majtočkaŭ na śviacilni
da kučaravych płavačak
pamiž nahami žančyny
i ciełam małaletki
da kupe ŭ vakolicach Pampejaŭ
jašče nie nakrytych popiełam da
kryłataha snu
na vastryji plača
ŭ maršrutcy niavyznačanaha maršrutu

potym zvanki
raz na tydzień
na miesiac
na hod

ci možna być
samym darahim čałaviekam
tolki 11 dzion?
akazvajecca možna

## **Дзень сьвятога Валянціна ў Вільні**

у Вільні
на дзень сьвятога Валянціна
шукаю ў каго закахацца

у хударлявую вязаную котачку
з сувэнірнае крамы?
у юную манашку
што саромеецца галінкі мімозы
ў пасінелай руцэ?
(які сюжэт зьнікае
зь яе хуткімі крокамі!)
у італійскую турыстку
зь неверагодна лазуркавымі вачыма і
антрацытавай каронаю валасоў?
(што яна фарбуе: вочы ці валасы?)
у пляшку медавухі-сукцінісу?
у Маці Божую Вастрабрамскую?
(даруй Госпадзе!)

палявыя дасьледаваньні
прыводзяць на мост цераз Вялейку
за касьцёлам Сьвятой Ганны
на парэнчах сотні замкоў
кожны замкнёны
на сваю таямніцу
за ўсё жыцьцё столькі ня ўбачыш

замочак-лілея замок-
брама
(напэўна ў сад асалоды)
замок-фаляс з усім прычындальлем
(што безь яго рабіць у тым садзе?)
замок-тварык
з роцікам-адтулінай да ключа

замок-дупця
(памаўчым ужо пра іншыя адтуліны)
замок-сэрца
насамрэч яно не такое
прынамсі маё
падобнае да васьмінога з мацунамі
сам бачыў на маніторы
калі рабілі апэрацыю

на кожным замку па два імені
мужчынскае й жаночае
пераважае лацініца
раз-пораз вытыркаецца кірыліца
у тым ліку беларуская
ёсьць герогліфы
грузінская вязь
Божа!
колькі ў навакольлі закаханых!
гэта грэе лепей за сукцініс

калі ўчытацца ў замкі
сёе-тое даведаесься
вось два жаночыя імені

Яніна й Альдона
а вось Яцак і Ярык
побач тры імені
прычым толькі адно жаночае
а тут наадварот
адно мужчынскае затое тры жаночыя
(трымайся Алекс!)
страшна падумаць што там у герогліфах
і па-грузінску
o tempora o mores!

якія цнатлівыя замкі
з адным-аднюткім імем!
іх пачапілі
яшчэ адзін Алекс
(а мо той самы на адпачынку?)
мой аднайменьнік
зацяты апалягет лацінкі Vova
Нона (гэта ў яе замок-задніца)
Анджаліка (праз «д»)
вось і ўсе

на маёй валізцы
ажно два замочкі
ня богведама што
ні сэрцаў ні дупцяў
аднак можна надрапаць
колькі літар сьцізорыкам

але

каб напісаць сваё імя
трэба любіць прынамсі сябе
сёньня я не люблю сябе
мабыць за тое што
не люблю наогул нікога
дакладней не кахаю
яно страшней чым
калі ніхто не кахае цябе
няўжо дактары пашкодзілі судзінку
адказную за каханьне?
хірург-кардыёляг супакойваў:
цяпер рэнэсанс
потым будзе барока
(гэта я падараваў яму сваю кніжку)

адзін замочак
застанецца ў Вільні
грэцца паміж Янінаю й Альдонай
ды Яцакам зь Ярыкам
другі прымкну
на мосьце цераз Палату
паміж Сьвятой Сафіяй
і ціхім Запалоцьцем
шырока раскіну я нерат
пісаў калега які
даўно рыбаліць у нябесных азёрах

ці ёсьць у іх там дзень закаханых?
думаю ў Вільні
на дзень сьвятога Валянціна

на мосьце
паміж Ужупісам* і Запалоцьцем
паміж рэнэсансам і барока
паміж мной і табой

* Ужупіс — Зарэчча (літ.).

**Dzień śviatoha Valancina ŭ Vilni**

u Vilni
na dzień śviatoha Valancina
šukaju ŭ kaho zakachacca

u chudarlavuju viazanuju kotačku
z suvenirnaje kramy?
u junuju manašku
što saromiejecca halinki mimozy
ŭ pasiniełaj ruce?
(jaki siužet źnikaje
ź jaje chutkimi krokami!)
u italijskuju turystku
ź nievierajemna łazurkavymi vačyma i
antracytavaj karonaju vałasoŭ?
(što jana farbuje: vočy ci vałasy?)
u plašku miedavuchi-*suktinisu*? u
Maci Božuju Vastrabramskuju?
(daruj Hospadzie!)

palavyja daśledavańni
pryvodziać na most cieraź Vialejku
za kaściołam Śviatoj Hanny
na parenčach sotni zamkoŭ
kožny zamkniony
na svaju tajamnicu
za ŭsio žyćcio stolki nia ŭbačyš

zamočak-lileja
zamok-brama
(napeŭna ŭ sad asałody)
zamok-falas z usim pryčyndallem
(što bieź jaho rabić u tym sadzie?)

zamok-tvaryk
z rocikam-adtulinaj da kluča

zamok-dupcia
(pamaŭčym užo pra jinšyja adtuliny)
zamok-serca
nasamreč jano nie takoje
prynamsi majo
padobnaje da vaśminoha z macunami
sam bačyŭ na manitory
kali rabili aperacyju

na kožnym zamku pa dva jimieni
mužčynskaje j žanočaje
pieravažaje łacinica
raz-poraz vytyrkajecca kirylica
u tym liku biełaruskaja
jość hierohlify
hruzinskaja viaź
Boža!
kolki ŭ navakolli zakachanych!
heta hreje lepiej za *suktinis*

kali ŭčytacca ŭ zamki

sioje-toje daviedaješsia
voś dva žanočyja jimieni
Janina j Aldona
a voś Jacak i Jaryk
pobač try jimieni
pryčym tolki adno žanočaje
a tut naadvarot
adno mužčynskaje zatoje try žanočyja
(trymajsia Aleks!)
strašna padumać što tam u hierohlifach i
pa-hruzinsku
*o tempora o mores!*

jakija cnatlivyja zamki
z adnym-adniutkim jimiem!
jich pačapili
jašče adzin Aleks
(a mo toj samy na adpačynku?)
moj adnajmieńnik
zaciaty apalahiet łacinki Vova
Nona (heta ŭ jaje zamok-zadnica)
Andžalika (praz «d»)
voś i ŭsie

na majoj valizcy
ažno dva zamočki
nia bohviedama što
ni sercaŭ ni dupciaŭ

adnak možna nadrapać
kolki litar ścizorykam

ale
kab napisać svajo imia
treba lubić prynamsi siabie
siońnia ja nie lublu siabie
mabyć za toje što
nie lublu naohuł nikoha
dakładniej nie kachaju
jano strašniej čym
kali nichto nie kachaje ciabie
niaŭžo daktary paškodzili sudzinku
adkaznuju za kachańnie?
chirurh-kardyjolah supakojvaŭ:
ciapier renesans
potym budzie baroka
(heta ja padaravaŭ jamu svaju knižku)

adzin zamočak
zastaniecca ŭ Vilni
hrecca pamiž Janinaju j Aldonaj
dy Jacakam ź Jarykam
druhi prymknu
na moście cieraz Pałatu
pamiž Śviatoj Safjaj
i cichim Zapałoćciem
šyroka raskinu ja nierat
pisaŭ kaleha jaki
daŭno rybalić u niabiesnych aziorach

ci jość u jich tam dzień zakachanych?
dumaju ŭ Vilni
na dzień śviatoha Valancina
na moście
pamiž Užupisam* i Zapałoćciem
pamiž renesansam i baroka
pamiž mnoj i taboj

Užupis — Zarečča *(lit.).*

## **Астатняе каханьне дзядулі Хведара**

дзядуля Хведар
85
арытмія
стэнакардыя
трэці інфаркт

дзядуля
забывае памыцца
выпіць лекі
змыць у прыбіральні
прагна есьць нешта нясьвежае
з бальнічнай тумбачкі
баіцца нашага восьмага паверху

дзядуля
трохі ўмее чытаць
скончыў дзьве клясы ў вайну
беларускую школку спалілі партызаны
юную настаўніцу дружна згвалцілі
і расстралялі
пачаліся вечныя вакацыі

дзядуля
чытае па складах
пакінуты некім глянцавы часопіс
чытае з дня ў дзень на адной старонцы
там Тына Тэрнэр
на поўны рост
у міні
мікрафон ля вуснаў
здымак крыху зьнізу

дзядуля
ня мае расавых забабонаў
хавае часопіс пад падушку
ўмыкае ўначы лямпу
глядзіць на Тыну
лашчыць фота
каструбаватымі пальцамі

аднойчы мне сьніцца сон
у палату заходзіць спадарыня Тына
ў азонавай віхуры
ў міні
зь мікрафонам
зь целаахоўнікамі
такія целы трэба ахоўваць

прачынаюся
ад эрэкцыі
азону
бальнічнае беганіны
на вуснах у дзядулі Хведара
застыла шчасьлівая ўсьмешка
значыць Тына
сапраўды прыходзіла

## **Astatniaje kachańnie dziaduli Chviedara**

dziadula Chviedar
85
arytmija
stenakardyja
treci infarkt

dziadula
zabyvaje pamycca
vypić leki
zmyć u prybiralni
prahna jeść niešta niaśviežaje
z balničnaj tumbački
bajicca našaha vośmaha pavierchu

dziadula
trochi ŭmieje čytać
skončyŭ dźvie klasy ŭ vajnu
biełaruskuju školku spalili partyzany
junuju nastaŭnicu družna zgvałcili
i rasstralali
pačalisia viečnyja vakacyji

dziadula
čytaje pa składach
pakinuty niekim hlancavy časopis
čytaje z dnia ŭ dzień na adnoj staroncy
*tam Tina Turner*
na poŭny rost
u mini
mikrafon la vusnaŭ
zdymak krychu źnizu

dziadula
nia maje rasavych zababonaŭ
chavaje časopis pad padušku
ŭmykaje ŭnačy lampu
hladzić na Tinu
łaščyć fota
kastrubavatymi palcami

adnojčy mnie śnicca son
u pałatu zachodzić spadarynia Tina
ŭ azonavaj vichury
ŭ mini
ź mikrafonam
ź ciełaachoŭnikami
takija ciełу treba achoŭvać

pračynajusia
ad erekcyji
azonu
balničnaje biehaniny
na vusnach u dziaduli Chviedara
zastyła ščaślivaja ŭśmieška značyć
Tina
sapraŭdy prychodziła

## **Андэрсэн і ты**

Андэрсэн
(той які напісаў «Дзюймовачку»
і «Брыдкае качаня»)
быў баязьліўцам і недарэкам:
жыў у страху што яго
спакусяць
атруцяць
абрабуюць

Андэрсэн
ня мог пазбыцца жуды
што будзе пахаваны жывым
(пры ложку нязьменна
ляжала цыдулка:
«насамрэч я не памёр»)
што згарыць у пажары
(з сабою заўсёды была вяроўка
каб вылезьці ў вакно)
што загіне ў марскіх хвалях
(зьвестак пра ратавальнае кола
не захавалася)

Андэрсэн
баяўся памерці ад трыхінэлёзу
адно марачы пра
залацісты кавалак сьвежаніны

Андэрсэн
ведаў што
боязь адкрытай прасторы
дактары называюць агарафобіяй

Андэрсэн
вечна пераймаўся тым што
згубіў пашпарт
дрэнна заклеіў канвэрт
пераплаціў за білет

Андэрсэн
усё жыцьцё пакутаваў што
непрыгожы
не падабаецца жанчынам
ня ведае што зь імі рабіць

Андэрсэн
памёр цнатлівым
зь ціхай радасьцю што
нарэшце вызваліўся
ад болю
ў сваіх і ў штучных зубах

ты
добра заклейваеш канвэрты
(хоць у тваёй краіне
таямніца ліставаньня
ад гэтага не залежыць)

ты
не баісься пляцаў
(нават ачэпленых спэцназам)

ты
ясі сьвініну
і вычвараючыся
аддаеш перавагу
вушам і лычыкам

ты
не баісься што цябе спакусяць

ты
ведаеш што цябе пахаваюць
надзвычай надзейна
(дакладней безнадзейна)
памерлым
і зусім не цнатлівым

цяпер зразумела
чаму ты не напісаў
ні «Сьнежнае каралевы»
ні «Новага ўбраньня караля»

## Andersen i ty

Andersen
(toj jaki napisaŭ «Dziujmovačku»
i «Brydkaje kačania»)
byŭ bajaźliŭcam i niedarekam:
žyŭ u strachu što jaho
spakusiać
atruciać
abrabujuć

Andersen
nia moh pazbycca žudy
što budzie pachavany žyvym
(pry łožku niaźmienna
lažała cydułka:
«nasamreč ja nie pamior»)
što zharyć u pažary
(z saboju zaŭsiody była viaroŭka
kab vyleźci ŭ vakno)
što zahinie ŭ marskich chvalach
(źviestak pra ratavalnaje koła
nie zachavałasia)

Andersen
bajaŭsia pamierci ad trychinelozu
adno maračy pra
załacisty kavałak śviežaniny

Andersen
viedaŭ što
bojaź adkrytaj prastory
daktary nazyvajuć aharafobijaj

Andersen
viečna pierajmaŭsia tym što
zhubiŭ pašpart
drenna zaklejiŭ kanvert
pierapłaciŭ za bilet

Andersen
usio žyćcio pakutavaŭ što
niepryhožy
nie padabajecca žančynam
nia viedaje što ź jimi rabić

Andersen
pamior cnatlivym
ź cichaj radaściu što
nareščie vyzvaliŭsia
ad bolu
ŭ svajich i ŭ štučnych zubach

ty
dobra zaklejvaješ kanverty
(choć u tvajoj krajinie
tajamnica listavańnia
ad hetaha nie zaležyć)

ty
nie bajiśsia placaŭ
(navat ačeplenych specnazam)

ty
jasi śvininu
i vyčvarajučysia
addaješ pieravahu
vušam i łyčykam

ty
nie bajiśsia što ciabie spakusiać

ty
viedaješ što ciabie pachavajuć
nadzvyčaj nadziejna
(dakładniej bieznadziejna)
pamierłym
i zusim nie cnatlivym

ciapier zrazumieła
čamu ty nie napisaŭ
ni «Śniežnaje karalevy»
ni «Novaha ŭbrańnia karala»

**Вялікадне**

перад Вялікаднем
мама пякла
салодкіх птушачак
зь вясёлымі вочкамі-разынкамі

я выкалупваў вочкі
зь цёплых булачак
потым плакаў
што мае птушачкі сьляпыя
а пасьля
старанна еў гаротніц
мама казала што
птушачкам вельмі балюча
але калі ты іх зьясі
знойдуць яны свае вочкі
і — уваскрэснуць

*мама, а што такое ўваскрэснуць?*
*а яны сынок ажывуць і*
*паляцяць да Божачкі*

яшчэ цяпер памятаю
як шчасьліва засынаў
узброены недзіцячай ведаю:
уваскрэсьне той
каму напачатку
выкалупаюць вочкі

**Vialikadnie**

pierad Vialikadniem
mama piakła
sałodkich ptušačak
ź viasiołymi vočkami-razynkami

ja vykałupvaŭ vočki
ź ciopłych bułačak
potym płakaŭ
što maje ptušački ślapyja a
paśla
staranna jeŭ harotnic
mama kazała što
ptušačkam vielmi baluča
ale kali ty jich źjasi
znojduć jany svaje vočki
i — uvaskresnuć

*mama, a što takoje ŭvaskresnuć?*
*a jany synok ažyvuć i*
*palaciać da Božački*

jašče ciapier pamiataju
jak ščaśliva zasynaŭ
uzbrojeny niedziciačaj viedaju:
uvaskreśnie toj
kamu napačatku
vykałupajuć vočki

## **Кат Бальтазар**

зьбіраюся пісаць
раман пра сучаснае каханьне
а бяссоннымі начамі мрояцца
часы вялікага князя і караля
Яна Сабескага і
полацкі кат Бальтазар

у юнацтве кат Бальтазар
ратаваў Эўропу ад туркаў
у бітве пад Венай
цяпер ратуе Полацак ад злачынцаў
жыве каля Чорнай рэчкі
кожнага дня ходзіць на працу
катаваць

кат Бальтазар важная пэрсона
працуе з забойцамі
ведзьмамі
блюзьнерамі
старымі
маладзенькімі
прыгожымі
страхалюднымі
Трэці Літоўскі статут
дазваляе катаваць чалавека
тройчы на дзень
вольнага часу няшмат

кат Бальтазар забівае
валачашчых сабак раз-
пораз людзей
людзі падабаюцца болей
зь імі цікава паразмаўляць

## Kat Baltazar

źbirajusia pisać
raman pra sučasnaje kachańnie
a biassonnymi načami mrojacca
časy vialikaha kniazia i karala
Jana Sabieskaha i
połacki kat Baltazar

u junactvie kat Baltazar
ratavaŭ Eŭropu ad turkaŭ
u bitvie pad Vienaj
ciapier ratuje Połacak ad złačyncaŭ
žyvie kala Čornaj rečki
kožnaha dnia chodzić na pracu
katavać

kat Baltazar važnaja persona
pracuje z zabojcami
viedźmami
bluźnierami
starymi
maładzieńkimi
pryhožymi
strachaludnymi
Treci Litoŭski statut
dazvalaje katavać čałavieka
trojčy na dzień
volnaha času niašmat

kat Baltazar zabivaje
vałačaščych sabak raz-
poraz ludziej
ludzi padabajucca bolej
ź jimi cikava parazmaŭlać

asoby pieravažna nieardynarnyja
tamu j prysudy roznyja
adnych treba paviesić
druhich čvartavać
trecich pasadzić na palu
kali zrabić usio ŭmieła
z tym chto na pali
jašče doŭha havoryš

kat Baltazar znajomy z anatomijaj
tamu maje dazvoł
lekavać pałačanaŭ
nia tolki tych što ŭ viaźnicy
vojt prynosiŭ jamu knihu
niejkaha zamiežca Vezalija
kat znajšoŭ tam
adzinaccać niedakładnaściaŭ
kalehu jaŭna brakavała praktyki

kat Baltazar druhi tydzień
katuje viadźmarku Justu
z Młynavaha zavułku
praz try stahodździ tam
nojmie dom z sadam i harodčykam

paet Aleh Minkin
peŭna ŭ tym samym viadźmarskim kancy
inačaj nie pisaŭ by takich vieršaŭ
źjechaŭ i vieršy skončylisia

katu Baltazaru daspadoby Justa
zialonyja vočy
čornaja kasa
biełyja hrudzi j krumianki
hołas jakim śpiavała
«Zialonuju višniu»
śpiavała padčas tarturaŭ

byccam hulała pa-nad Pałatoj
viedźma jana i jośċ viedźma

kat Baltazar maje prava
ažanicca z asudžanaj na śmierć
uratavać ad płachi ci šybienicy
jaje vočy vałasy hrudzi
zasynać ź jimi i pračynacca
źbirajeśsia na pracu a jana piaje
ale

kat Baltazar žanaty
piać hadoŭ tamu paškadavaŭ Adarku
udavu miečnika Niamiry
sama j zrabiła siabie ŭdavoj
jaje ž nikudy nie padzienieš

choć pobač ź joju śniacca sny
pra hostruju alebardu
jakraz takoj i raźvitałasia
z kachanym mužam

kat Baltazar viedaje ŭ Justy
kožnuju kostačku
kožnuju radzimuju plamku
pach potki
kudzierki nad joju
kožny šnaryk
što parobiš kali takaja praca

kat Baltazar pakutliva razvažaje
kali jon dapamoža Juście ŭciačy
samoha voźmuć na tartury
kali Justu apraŭdajuć
jana źjedzie na Ŭkrajinu
kali Justa pryznajecca
jaje zasudziać i jon

zrobić usio jak naležyć
a što kali žonka pamre?
chvareje ad samych Kaladaŭ
i dzietak u jich niama

kat Baltazar praciraje instrumenty
raskładvaje jich pa šufadkach

staranna myje ruki
hladzić na doŭhija palcy
maci nadta chacieła
kab syn staŭ lekaram
možna ličyć mara ździejśniłasia

kat Baltazar padychodzić da vakna
sonca kranajecca Dźviny
jano takoha ž koleru
jak raspalenyja abcuhi
jakimi jon zredźčas kranajecca płoci
samych niehavarkich
zdajecca zaraz nad Dźvinoj
taksama zapachnie palenym

kat Baltazar hladzić udaleč
sioleta vysokaja pavodka
adnaho razu na kryzie płyŭ kot
druhoha razu pievień
a treci raz płyła na kryzie
čałaviečaja hałava
hladzieła na Połacak nibyta žyvaja
ruki paadsiakaŭ by hetym žartaŭnikam

kat Baltazar choča Justu
trymcić ad žadańnia
vylivaje na hołaŭ karec vady
vylivaje ŭ harlak kuchal miodu-trajniaku
jak ža katavać jaje Boža!
u kožnaj prafesiji svaje niedachopy

huškajusia na arelach snu j biassońnia
kat Baltazar stajić pry vaknie
ŭtulnaha ofsu z arhtechnikaj
hladzić na vysokuju Dźvinu
zhadvaje što daŭno nia bačyŭ
paeta Aleha Minkina
adkazvaje na zvanok ź Londanu
dumaje ci nie napisać jamu
raman pra sučasnaje kachańnie

## Між берагамі

*Ірыне*

*на дадзены час абанэнт недаступны*
*жыцьцё — наогул працэс падступны*
*так нібы тонеш ля самых буйкоў*

*сьмерць твая невялікая страта*
*проста мяняецца апэратар*
*і усё менш уваходных званкоў*[1]

*Сяргій Жадан*

кропельніца —
вясёлая клепсыдра
з срэбнымі бурбалкамі
ня факт
што іх пускаеш ня ты

хвіліну таму
табе не дазвалялі нічога
нават не казалі
выніку футболу
раптам
дазволена амаль усё
нашы прадулі 0:2
сам ідзеш у WC
звоніш з мабільніка

1Пераклад з украінскай Андрэя Хадановіча.

напэўна ты
рэзка ачуняў
дынаміка адмоўная
супакойвае доктар

аўтограф у блянку
пра згоду на апэрацыю
мае неблагія шанцы
стаць апошнім

яшчэ дзесяць хвілінаў
пасьпець напісаць
верш
ліст
запавет?
рэанімацыя —
не натарыяльная кантора
згадваеш
імёны
аблічча
жаночых прыкметна болей
котку Басоту
котку

Полацак
возера Люхава
Прагу
мора пад Барсэлёнаю

паром празь Ля-Манш
паром

трэба распрануцца
зусім
прыйшоў на сьвет
такім самым
гэта суцяшае

хутка можаш даведацца
чаго вартыя
размовы пра той сьвет
молісься
ня хочаш
жыцьця вечнага
хочаш
таго самага цела

гутарыць зручней
калі бачыш суразмоўцу
*не спыняйся*
сэрца на маніторы
сутаргава ківае
плывеш
плывеш у моры
Міжземным
міжсьветным
між берагамі —
казала знаёмая паэтка

не відаць
ні паэтак
ні берагоў

мора зьліваецца зь небам
ты зьліваесься зь небам
памятаеш
табе трэба мора
плывеш
да берагоў
да паэтак

бераг
зялёная выцінанка
абрысы тваіх сяброў —
два дубы
ясень
вольха
недапалены маланкаю клён
недапалены

у зялёным сутоньні
сьвеціцца твар жанчыны
прывезла цябе ў шпіталь
прабілася на апэрацыю
толькі крыху знаёмая

падаруеш ёй

букет ружаў
колькі кветак —
на столькі гадоў
пагадзілася сэрца
колькі?
якая зязюля накувае
ў лістападзе?

голас аднекуль кажа
*дваццаць сем*

## Miž bierahami

*Irynie*

*na dadzieny čas abanent niedastupny*
*žyćcio — naohuł praces padstupny*
*tak niby tonieš la samych bujkoŭ*

*śmierć tvaja nievialikaja strata*
*prosta mianiajecca aperatar*
*i usio mienš uvachodnych zvankoŭ*

*Siarhij žadan*

kropielnica —
viasiołaja klepsydra
z srebnymi burbałkami
nia fakt
što jich puskaješ nia ty

chvilinu tamu
tabie nie dazvalali ničoha
navat nie kazali
vyniku futbołu
raptam
dazvolena amal usio
našy praduli 0:2 sam
idzieš u WC zvoniš z

mabilnika

napeŭna ty
rezka ačuniaŭ
dynamika admoŭnaja
supakojvaje doktar

Pierakład z ukrajinskaj Andreja Chadanoviča.

aŭtohraf u blanku
pra zhodu na aperacyju
maje niebłahija šancy
stać apošnim

jašče dziesiać chvilinaŭ
paśpieć napisać
vierš
list
zapaviet?
reanimacyja —
nie nataryjalnaja kantora
zhadvaješ
imiony
abliččy
žanočych prykmietna bolej
kotku Basotu
kotku

Połacak
voziera Luchava
Prahu
mora pad Barselonaju
parom praź La-Manš
parom

treba raspranucca
zusim
pryjšoŭ na śviet
takim samym
heta suciašaje

chutka možaš daviedacca
čaho vartyja
razmovy pra toj śviet
moliśsia
nia chočaš žyćcia
viečnaha chočaš
taho samaha cieła

hutaryć zručniej
kali bačyš surazmoŭcu
*nie spyniajsia*
serca na manitory
sutarhava kivaje

pływieš

pływieš u mory

Mižziemnym
mižśvietnym
miž bierahami —
kazała znajomaja paetka

nie vidać
ni paetak
ni bierahoŭ

mora źlivajecca ź niebam
ty źlivaješsia ź niebam
pamiataješ
tabie treba mora
pływieš
da bierahoŭ
da paetak

bierah
zialonaja vycinanka
abrysy tvajich siabroŭ —
dva duby
jasień
volcha
niedapaleny małankaju klon
niedapaleny

u zialonym sutońni
śviecicca tvar žančyny
pryviezła ciabie ŭ špital
prabiłasia na aperacyju
tolki krychu znajomaja

padaruješ joj
bukiet ružaŭ
kolki kvietak —
na stolki hadoŭ
pahadziłasia serca
kolki?
jakaja ziaziula nakuvaje
ŭ listapadzie?

hołas adniekul kaža
*dvaccać siem*

## Размова з Стрындбэргам

у Стакгольме на вуліцы Дротнінггатан па-
наску Каралевы
проста пад нагамі растуць скрозь брук
жалезныя літары цытатаў аднаго тубыльца
што меў вясёлыя кашэчыя вусікі

з прачытанага безьліччу чаравікаў
цытатніка
запісваю ўсяго тры сказы
пераплеценыя хвастамі ды іншымі органамі
рызыкоўных асацыяцыяў і падтэкстаў

*кахаць значыць даваць*
*маё вогнішча самае вялікае ў Швэцыі*
*разумны пацук мусіць мець шмат дзірак*

з парога дому № 85 задаволена пазірае
паласатая рэінкарнацыя аўтара
ён жыў тут у «Блакітнай вежы»
(тады гэты эпітэт азначаў адно колер сьценаў)
кіраваў сваім «Інтымным тэатрам»
бавіўся альхіміяй ды спакушэньнем жанчын
навукамі падобнымі міжсобку бо і там і там
шукаеш філязофскі камень і вечную маладосьць

цяперашні музэй
вартуе сам уладальнік найвялікшага вогнішча
ў куртатым аблічча пагрудзьдзя
на нехлямяжым пастамэнце
нібыта сьпяшаўся сваімі рукамі
зладзіць яго зь негабляваных дошак
перад нечаканым сыходам

гаспадар улешчана слухае
што ягоныя карціны
прадаюцца за шалёныя грошы
юрліва разглядвае
ножкі юных экскурсаводак і наведніц
падазрона касавурыцца на маю бараду

застаўшыся зь ім сам-насам я
адрэкамэндоўваюся
кладу на пастамэнт візытоўку з «Пагоняй»
дадаю што меў дачыненьне да
беларускага «Эрыка XIV»

выяўляючы пэўную абазнанасьць
або інтуіцыю
ён кажа што ў 1948-м у Польшчы
забаранілі ўсе пастаноўкі ягонага «Бацькі»
празь пяцьдзясят гадоў
падхопліваю я
арыштавалі маю дзіцячую кніжку
*а самога звольнілі за выпуск исторической*
*и другой сомнительной литературы*
(канец цытаты)

затое палякі нічога не забаранялі і
паставілі мне ў пашпарт шэнгенскую візу

а ў мяне ніколі не было ніякага пашпарту
ганарліва адзываецца ўладальнік шматлікіх
дзірак
дадаючы што
ў апошні дзень нараджэньня ўзімку 1912-га
пад гэтымі вокнамі прайшло 15 тысяч
ягоных прыхільнікаў
не ўдакладняючы што
дэманстрацыю арганізавалі прафсаюзы

буду задаволены проста пятнаццацьцю
з выклікам адказваю я
(хоць думаю чалавек пра 150)
удакладняючы што
даўно выгнаны з прафсаюзу
з прычыны зламыснай няплаты складак

ты ўяўляеш? 15 тысяч
фамільярна падрахоўвае ён размову
пераводзячы позірк на танклявую мулатку
з «Споведзьдзю вар’ята» пад пашкай
змушаючы мяне разьвітацца
зларадным абяцаньнем
склеіць шакалядавую экскурсантку якой
натхняючыся цытатамі з Дротнінггатан
буду цытаваць
крыху адрэдагаванага для такога выпадку

айчыннага клясыка
маўляў хацеў бы спаткацца з вамі
зусім не на вуліцы
чаму б у нейкай зацішнай мясьцінцы
нам не стварыць свой уласны
інтымны тэатар?

## **Razmova z Stryndbergam**

u Stakholmie na vulicy *Drottninggatan*
pa-nasku Karalevy
prosta pad nahami rastuć skroź bruk
žaleznyja litary cytataŭ adnaho tubylca
što mieŭ viasiołyja kašečyja vusiki

z pračytanaha bieźličču čaravikaŭ
cytatnika
zapisvaju ŭsiaho try skazy
pieraplecienyja chvastami dy jinšymi orhanami
ryzykoŭnych asacyjacyjaŭ i padtekstaŭ

*kachać značyć davać*
*majo vohnišča samaje vialikaje ŭ Švecyji*
*razumny pacuk musić mieć šmat dzirak*

z paroha domu № 85 zadavolena paziraje
pałasataja reinkarnacyja aŭtara
jon žyŭ tut u «Błakitnaj viežy»
(tady hety epitet aznačaŭ adno koler ścienaŭ)
kiravaŭ svajim «Intymnym teatram»
baviŭsia alchimijaj dy spakušeńniem žančyn
navukami padobnymi mižsobku bo i tam i tam
šukaješ flazofski kamień i viečnuju maładość

ciapierašni muzej
vartuje sam uładalnik najvialikšaha vohnišča ŭ
kurtatym abliččy pahrudździa
na niechlamiažym pastamencie
nibyta śpiašaŭsia svajimi rukami
zładzić jaho ź niehablavanych došak
pierad niečakanym sychodam

haspadar uleščana słuchaje
što jahonyja karciny
pradajucca za šalonyja hrošy
jurliva razhladvaje
nožki junych ekskursavodak i naviednic
padazrona kasavurycca na maju baradu

zastaŭšysia ź jim sam-nasam ja
adrekamendoŭvajusia
kładu na pastament vizytoŭku z «Pahoniaj»
dadaju što mieŭ dačynieńnie da biełaruskaha
«Eryka XIV»

vyjaŭlajučy peŭnuju abaznanaść
abo intujicyju
jon kaža što ŭ 1948-m u Polščy
zabaranili ŭsie pastanoŭki jahonaha «Baćki»
praź piaćdziasiat hadoŭ
padchoplivaju ja
aryštavali maju dziciačuju knižku
*a samoha zvolnili za vypusk istoričeskoj*
*i drugoj somnitielnoj litieratury*
(kaniec cytaty)

zatoje palaki ničoha nie zabaraniali i
pastavili mnie ŭ pašpart šenhienskuju vizu

a ŭ mianie nikoli nie było nijakaha pašpartu
hanarliva adzyvajecca ŭładalnik šmatlikich dzirak
dadajučy što
ŭ apošni dzień naradžeńnia ŭzimku 1912-ha
pad hetymi voknami prajšło 15 tysiač
jahonych prychilnikaŭ
nie ŭdakładniajučy što
demanstracyju arhanizavali prafsajuzy

budu zadavoleny prosta piatnaccaćciu
z vyklikam adkazvaju ja
(choć dumaju čałaviek pra 150)
udakładniajučy što
daŭno vyhnany z prafsajuzu
z pryčyny złamysnaj niapłaty składak

ty ŭjaŭlaješ? 15 tysiač
familjarna padrachoŭvaje jon razmovu
pieravodziačy pozirk na tanklavuju mułatku
z «Spoviedździu varjata» pad paškaj
zmušajučy mianie raźvitacca
złaradnym abiacańniem
sklejić šakaladavuju ekskursantku jakoj
natchniajučysia cytatami z *Drottninggatan*
budu cytavać
krychu adredahavanaha dla takoha vypadku
ajčynnaha klasyka

maŭlaŭ chacieŭ by spatkacca z vami
zusim nie na vulicy
čamu b u niejkaj zacišnaj miaścincy
nam nie stvaryć svoj ułasny
intymny teatar?

## Брат Ільля

сусед па палаце
праваслаўны манах
утульны акулярысты мядзьведзь
прасьветлены ісьціннай верай

прапаведуе слова Божае
штораніцы апавядае пра старца
якому дзікі казёл
спусьціўшыся з гораў цалаваў руку
ведае што
нельга трымаць удома катоў і сабак
беларускую мову прыдумалі антыхрысты
да рэвалюцыі продкі размаўлялі
па-царкоўнаславянску
памерці — шчасьце
усе каталікі ў пекле
папа Ян Павэл II
у самым страшным агні

ляжыць брат Ільля
прасьветлены
як кавалак бурштыну сонечным промнем
ратуе нашы душы
ад аблуды

## Brat Illa

susied pa pałacie
pravasłaŭny manach
utulny akularysty miadźviedź
praśvietleny jiścinnaj vieraj

prapavieduje słova Božaje
štoranicy apaviadaje pra starca
jakomu dziki kazioł
spuściŭšysia z horaŭ całavaŭ ruku
viedaje što
nielha trymać udoma katoŭ i sabak
biełaruskuju movu prydumali antychrysty
da revalucyji prodki razmaŭlali
pa-carkoŭnasłaviansku
pamierci — ščaście
usie katoliki ŭ piekle
papa Jan Paveł II
u samym strašnym ahni

lažyć brat Illa
praśvietleny
jak kavałak burštynu soniečnym promniem
ratuje našy dušy
ad abłudy

## **Барсэлёна**

калі добра прыгледзецца
вакол сьпічакоў сабору Саграда Фамільля
як і над вежамі Полацкай Сафіі
амаль заўсёды ўбачыш анёлаў
бывае зьлятуцца дзясяткі тры
гэткі маленькі белы рой
адно што не гудзе
а можа проста не чуваць зьнізу

анёлы не карыстаюцца парасонамі
у дождж іхнія крылы намакаюць
анёлы апускаюцца на дол
таўсматыя хутчэй
тыя што трымаюцца гіпахалестэрынавай
або яшчэ якой-небудзь дыеты
мякка пляніруюць

крануўшыся зямлі
анёлы адразу перакідаюцца
ў мінакоў
будаўнікоў сабору
турыстаў экскурсаводаў
гавораць па-каталёнску
а таксама на розных іншых мовах
зь імі можна пазнаёміцца
выпіць вінчыку
зьесьці ў кавярні паэлью
паразважаць

калі Каталёнія стане незалежнай
кім быў Антоніё Гаўдзі
архітэктарам або скульптарам
калі дабудуюць Сарграду Фамілью

ды прыбяруць пад'ёмныя краны
што пнуцца да Бога
навыперадкі зь вежамі
ужо задралі

адзін з анёлаў
ператвараецца ў чалавека
падобнага да недагледжанага анёла
амаль абадранца
з запаленымі вачыма
ў зьбітых чаравіках
зь дзірчастым парасонам

абадранец падазрона доўга
круціцца вакол сабору
пры гэтым не жабруе
не чапляецца да экскурсантаў
заводзіць размовы выключна з будаўнікамі
адмаўляецца гаварыць па-гішпанску
выходзіць на бульвар Рамбляс
абыякава глядзіць на кумпякі
ў вітрыне мясной крамы
купляе булку
пакет малака
пару зялёных яблыкаў

панічна баіцца трамваяў
кіруе да парку Гуэль
у парку абадранец уладкоўваецца
на неабсяжнай лаве
над Заляю ста калёнаў
(насамрэч іх восемдзесят шэсьць
але якая розьніца калі ты геній)
сушыць парасон
п’е малако з булкай
крышыць яе белым галубам

шкада што ня ведаеш каталёнскай
зрэшты анёлы павінны разумець па-нашаму
магчыма там у іх нават ёсьць
беларускія школы ці прынамсі курсы
але запытацца ты хочаш не пра гэта
ты хочаш запытацца
калі ўсё ж дабудуюць Саграду Фамілью
Бог мусіць ведаць
раптам недзе прагаварыўся
абадранец рагоча
прапануе табе малака
прамаўляе скрозь сьмех
ты раптам пачынаеш разумець па-каталёнску:
прычым тут Бог
будоўля завершыцца
калі анёлы развучацца лётаць

у ягонага малака смак абсэнту
цікава які смак у булкі?

**Barselona**

kali dobra pryhledziecca
vakoł špičakoŭ saboru *Sagrada Famнlia*
jak i nad viežami Połackaj Safji
amal zaŭsiody ŭbačyš aniołaŭ
byvaje źlatucca dziasiatki try
hetki maleńki bieły roj
adno što nie hudzie
a moža prosta nie čuvać źnizu

anioły nie karystajucca parasonami
u doždž jichnija kryły namakajuć
anioły apuskajucca na doł
taŭsmatyja chutčej
tyja što trymajucca hipachalesterynavaj
abo jašče jakoj-niebudź dyjety
miakka planirujuć

kranuŭšysia ziamli
anioły adrazu pierakidajucca
ŭ minakoŭ
budaŭnikoŭ saboru
turystaŭ
ekskursavodaŭ
havorać pa-katalonsku
a taksama na roznych jinšych movach
ź jimi možna paznajomicca
vypić vinčyku
źješci ŭ kaviarni paelju

parazvažać
kali Katalonija stanie niezaležnaj
kim byŭ Antonijo Haŭdzi
architektaram abo skulptaram
kali dabudujuć *Sagrada Famнlia*
dy prybiaruć padjomnyja krany
što pnucca da Boha
navypieradki ź viežami
užo zadrali

adzin z aniołaŭ
pieratvarajecca ŭ čałavieka
padobnaha da niedahledžanaha anioła
amal abadranca
z zapalenymi vačyma
ŭ źbitych čaravikach
ź dzirčastym parasonam

abadraniec padazrona doŭha
krucicca vakoł saboru
pry hetym nie žabruje
nie čaplajecca da ekskursantaŭ
zavodzić razmovy vyklučna z budaŭnikami
admaŭlajecca havaryć pa-hišpansku
vychodzić na bulvar Ramblas
abyjakava hladzić na kumpiaki
ŭ vitrynie miasnoj kramy
kuplaje bułku
pakiet małaka
paru zialonych jabłykaŭ

panična bajicca tramvajaŭ
kiruje da parku Guel
u parku abadraniec uładkoŭvajecca
na nieabsiažnaj łavie
nad Zalaju sta kalonaŭ
(nasamreč jich vosiemdziesiat šeść
ale jakaja rožnica kali ty hienij)
sušyć parason
pje małako z bułkaj
kryšyć jaje biełym hałubam

škada što nia viedaješ katalonskaj
zrešty anioły pavinny razumieć pa-našamu
mahčyma tam u jich navat jość
biełaruskija škoły ci prynamsi kursy
ale zapytacca ty chočaš nie pra heta
ty chočaš zapytacca
kali ŭsio ž dabudujuć *Sagradu Famнlia*
Boh musić viedać
raptam niedzie prahavaryŭsia
abadraniec rahoča
prapanuje tabie małaka
pramaŭlaje skroź śmiech
ty raptam pačynaješ razumieć pa-katalonsku:
pryčym tut Boh
budoŭla zavieršycca
kali anioły razvučacca lotać

u jahonaha małaka smak absentu
cikava jaki smak u bułki?

**Мёд**

на цёплым серабрыстым бервяне
ў высокай траве
за бабулінай хатай
ямо сьвежы мёд з хлебам
я
Вова Патоцкі
Вова Таньчын
ды Нінка Тузава

мёд яшчэ не куплёны
хлеб яшчэ пякуць у печы
мне дванаццаць гадоў
Нінцы на год болей
Вовам па чатырнаццаць
нашая сьмерць
яшчэ не нарадзілася

у Вовы Патоцкага чорная галава
кажуць прабабка
саграшыла з цыганом
акурат як мая
Вова мне нібы брат
хоць у мяне галава рудая
карацей мы паважаем цыганоў
магчыма як вырасьцем
будзем красьці коней

Нінка ўсё перасаджваецца
паміж трыма Вовамі
круціцца загадвае жаданьні
*ведаем мы твае жаданьні*
кажа Вова Таньчын
мы таксама ведаем

хлеб яшчэ не астылы
мёд у белай талерцы
з арлом і свастыкай
малако ў парцалянавых кубках
таксама белых
таксама з арлом і свастыкай
бабуліна памяць пра немца Паўля

мёд крапае на Нінчыны грудзі
цячэ па равочку ніжэй
у ейныя таямніцы
вучоныя яшчэ не адкрылі што
рэгулярна назіраючы жаночыя грудзі
пажадана аголеныя
пажадана вялікія
значна менш рызыкуеш адхапіць
інфаркт ці інсульт

апрача таго любаваньне грудзямі
павялічвае працягласьць жыцьця
мужчыны
ў сярэднім на чатыры-пяць гадоў
наконт уплыву згаданага сродку

на жыцьцё ўладальніц грудзей
зьвестак няма
трэба вылучаць гэтых вучоных
на Нобэлеўскую прэмію

я пазнаёмлюся зь іхнім адкрыцьцём
ужо ў іншым стагодзьдзі
але інтуітыўна
яшчэ там на бервяне
хачу працягнуць жыцьцё
такім дзівосным чынам

ямо мёд з хлебам
хутка зьявяцца першыя гуркі
Вова Таньчын будзе даводзіць Нінку
што яна любіць больш
гуркі ці памідоры

мы ўжо каштавалі
крадзеныя ў лаўцы падушачкі
самагонку
папяросы «Беламорканал»
паўночную вусьціш на могілках
бабулін пранік
а колькі яшчэ пакаштуем

праз год пасьля таго мёду
Нінка спакусіць мяне ў лазьні
сьцягне праз голаў сукенку
скажа зь нявіннай усьмешкай
*пастаў мне палку*
у мяне атрымаецца цэлых дзьве

праз трыццаць пяць гадоў
пасьля таго мёду
Нінка памрэ ад раку грудзей
пасьпеўшы на чатыры-пяць гадоў
павялічыць жыцьцё
некалькім
а можа некалькім дзясяткам
а можа некалькім сотням
мужчынаў
грудзі былі сапраўды рэдкія

празь пяць гадоў пасьля таго мёду
Вова Патоцкі паступіць у інстытут
на апошнім курсе пачне пісаць вершы
будзе чытаць мне іх у піўбары

потым Вова Патоцкі
паступіць у асьпірантуру
і аднойчы
выйдзе ў вакно з інтэрнацкага пакою
на адзінаццатым паверсе
ня вытрываў гэтага сьвету
альбо таго што адкрываўся яму
на адлегласьці імгненьня
зрабіўшы зусім белай

маладую цыганскую галаву
так і ня ўкралі зь ім аніводнага каня

празь дзесяць гадоў пасьля таго мёду
Вова Таньчын ня будзе
пісаць і чытаць вершаў
будзе чытаць
пераважна налепкі на пляшках
стане клясычным альканаўтам

на дваццаць пятым годзе
жыцьцё Вовы Таньчынага
замерзьне ўзімку пад матчыным плотам
Танька будзе галасіць
каб сына не хавалі а
паклалі ёй у лядоўню

праз сорак тры гады пасьля таго мёду
ў мяне здарыцца інфаркт
відаць замала глядзеў
на жаночыя грудзі
зрэшты дастаткова каб
выжыць
купіць квіток

прыехаць
прайсьці пад дажджом
шэсьць кілямэтраў ад станцыі
знайсьці збуцьвелае бервяно
дастаць з заплечніка
белы кубак з арлом і свастыкай
выпіць зь яго ўдвая болей
дазволенай дактарамі дозы

Вова Патоцкі меў рацыю
усяго на адлегласьці імгненьня
мы
на цёплым серабрыстым бервяне
ў высокай траве
за бабулінай хатай
ямо сьвежы мёд з хлебам

чмель павялічвае сваё жыцьцё
лётаючы вакол Нінчыных грудзей
Воваў зноў трое
у аднаго галава чорная
у другога цьвярозая
у трэцяга кружыцца як зірне на Нінку
у штоніках нешта варушыцца

Нінка круціцца паміж намі
загадваючы жаданьні
Вова Таньчын выконвае іх у адрыне
на старым драўляным ложку
можа якраз там мая прабабка...
Вова Патоцкі
чытае нам вершы

*а можа побач з намі іншы сьвет*
*у часе на адлегласьці імгненьня*
*і можа іншы ты у ім жывеш*
*і можа ў цябе чыстае сумленьне*

## **Miod**

na ciopłym sierabrystym biervianie
ŭ vysokaj travie
za babulinaj chataj
jamo śviežy miod z chlebam
ja
Vova Patocki
Vova Tańčyn
dy Ninka Tuzava

miod jašče nie kuplony
chleb jašče piakuć u piečy
mnie dvanaccać hadoŭ
Nincy na hod bolej
Vovam pa čatyrnaccać
našaja śmierć
jašče nie naradziłasia

u Vovy Patockaha čornaja hałava
kažuć prababka
sahrašyła z cyhanom
akurat jak maja
Vova mnie niby brat
choć u mianie hałava rudaja
karaciej my pavažajem cyhanoŭ
mahčyma jak vyraściem
budziem kraści koniej

Ninka ŭsio pierasadžvajecca
pamiž tryma Vovami
krucicca zahadvaje žadańni
*viedajem my tvaje žadańni*
kaža Vova Tańčyn
my taksama viedajem

chleb jašče nie astyły
miod u biełaj talercy
z arłom i svastykaj
małako ŭ parcalanavych kubkach
taksama biełych
taksama z arłom i svastykaj
babulina pamiać pra niemca Paŭla

miod krapaje na Ninčyny hrudzi
ciače pa ravočku nižej
u jejnyja tajamnicy
vučonyja jašče nie adkryli što rehularna
nazirajučy žanočyja hrudzi pažadana
aholenyja
pažadana vialikija
značna mienš ryzykuješ adchapić
infarkt ci insult

apračа taho lubavańnie hrudziami
pavialičvaje praciahłaść žyćcia
mužčyny
ŭ siarednim na čatyry-piać hadoŭ
nakont upłyvu zhadanaha srodku

na žyćcio ŭładalnic hrudziej
źviestak niama
treba vyłučać hetych vučonych
na Nobeleŭskuju premiju

ja paznajomlusia ź jichnim adkryćciom
užo ŭ jinšym stahodździ
ale intuityŭna
jašče tam na biervianie
chaču praciahnuć žyćcio
takim dzivosnym čynam

jamo miod z chlebam
chutka źjaviacca pieršyja hurki
Vova Tańčyn budzie davodzić Ninku
što jana lubić bolš
hurki ci pamidory

my ŭžo kaštavali
kradzienyja ŭ łaŭcy padušački
samahonku
papiarosy «Biełamorkanał»
paŭnočnuju vuściš na mohiłkach
babulin pranik
a kolki jašče pakaštujem

praz hod paśla taho miodu
Ninka spakusić mianie ŭ łaźni
ściahnie praz hołaŭ sukienku
skaža ź niavinnaj uśmieškaj
*pastaŭ mnie pałku*
u mianie atrymajecca całych dźvie

praz tryccać piać hadoŭ
paśla taho miodu
Ninka pamre ad raku hrudziej
paśpieŭšy na čatyry-piać hadoŭ
pavialičyć žyćcio
niekalkim
a moža niekalkim dziasiatkam
a moža niekalkim sotniam
mužčynaŭ
hrudzi byli sapraŭdy redkija

praź piać hadoŭ paśla taho miodu
Vova Patocki pastupić u instytut
na apošnim kursie pačnie pisać vieršy
budzie čytać mnie jich u piŭbary

пра сьмерць і паралельны сьвет
на адлегласьці імгненьня
дзе мы таксама існуем

pra śmierć i paralelny śviet
na adlehłaści imhnieńnia
dzie my taksama isnujem

potym Vova Patocki

pastupić u aśpiranturu
i adnojčy
vyjdzie ŭ vakno z internackaha pakoju
na adzinaccatym paviersie
nia vytryvaŭ hetaha śvietu
albo taho što adkryvaŭsia jamu
na adlehłaści imhnieńnia
zrabiŭšy zusim biełaj
maładuju cyhanskuju hałavu
tak i nia ŭkrali ź jim anivodnaha kania

praź dziesiać hadoŭ paśla taho miodu
Vova Tańčyn nia budzie
pisać i čytać vieršaŭ
budzie čytać
pieravažna nalepki na plaškach
stanie klasyčnym alkanaŭtam

na dvaccać piatym hodzie
žyćcio Vovy Tańčynaha
zamierźnie ŭzimku pad matčynym płotam
Tańka budzie hałasić
kab syna nie chavali a
pakłali joj u ladoŭniu

praz sorak try hady paśla taho miodu
ŭ mianie zdarycca infarkt
vidać zamała hladzieŭ
na žanočyja hrudzi
zrešty dastatkova kab
vyžyć
kupić kvitok

pryjechać
prajści pad daždžom
šeść kilametraŭ ad stancyji
znajści zbućviełaje bierviano
dastać z zaplečnika
biełу kubak z arłom i svastykaj
vypić ź jaho ŭdvaja bolej
dazvolenaj daktarami dozy

Vova Patocki mieŭ racyju
usiaho na adlehłaści imhnieńnia
my
na ciopłym sierabrystym biervianie
ŭ vysokaj travie
za babulinaj chataj
jamo śviežy miod z chlebam

čmiel pavialičvaje svajo žyćcio
lotajučy vakoł Ninčynych hrudziej
Vovaŭ znoŭ troje
u adnaho hałava čornaja
u druhoha ćviarozaja
u treciaha kružycca jak zirnie na Ninku
u štonikach nieśta varušycca

Ninka krucicca pamiž nami

zahadvajučy žadańni
Vova Tańčyn vykonvaje jich u adrynie
na starym draŭlanym łožku
moža jakraz tam maja prababka...
Vova Patocki
čytaje nam vieršy

*a moža pobač z nami jinšy śviet u*
*časie na adlehłaści imhnieńnia i*
*moža jinšy ty u jim žyvieš*
*i moža ŭ ciabie čystaje sumleńnie*

## На Готляндзе

на Готляндзе мне сьніцца востраў Полацк
пакінуўшы Айчыны мацярык
плыве ён у нясьпешлівым Гальфстрыме
маіх гадоў падзеленых з самотай

то з вышыні крыла з падбоем сінім
то асядлаўшы калывасты плот
гляджу на дом і сад стары зьдзічэлы
куды зайцы завітвалі на моркву

каб абабегчы сьцежкаю шэсьць вокнаў
патрэбна босым ножкам адпачыць
найлепей дзе жыве мая стакротка
ў маленькай хатцы са страхой з травінак

яшчэ няма ні здрадаў ні каханьняў
і неўміручыя яшчэ бацькі
якіх засьпеў аднойчы ў ложку зраньня
ў занятку дзіўным… год праз дзесяць толькі

я зразумею што паспаўшы болей
тым днём дажджлівым мог бы атрымаць
сястручку зноўку ці малога брата
зь якім хадзіў бы разам падзівіцца

на дзецюкоў што брук кладуць да пляцу
вясёлы кожны і нібы мурын
ад сонца чорны… брукаванка ляжа
да храму Стэфана які спыніўся

каменным галіёнам па-над местам
а там увішныя дзядзькі кладуць
у алтары й на хоры выбухоўку
каб замаўчаў гадзіньнік старасьвецкі

які зацята час лічыў па-свойму
на Готляндзе мне сьніцца Полацк мой
хаваюць тату мушка на фіранцы
ў жалобе сьціхла… я ж так нецярпліва

чакаю ўжо: ці праўда ён пазвоніць
на дзень маіх народзін як сказаў?
бяжыць насустрач рыжая дзяўчынка
ляціць адтуль адкуль не дазваніцца

за ёю коціцца зялёны ровар
пусты хоць круціць нехта панажы
*сасі банан трапічаскага лесу*
злавесна цэдзіць мой сусед-аторва

у рыжую таксама закаханы
ля крамы сварыцца чарга па хлеб
вясёлка бруку зьзяе з-пад асфальту
а наша Дзьвінка як Дзьвіну мы звалі

цячэ ў сутоньні ранішнім у мора
далей на Готлянд проста ў сноў вітраж

дзе дом на скалах над гатычнай кірхай
дзе з мэзаніну дэндзі мармуровы

ў капелюшы сьціхотліва знаёмым
шматзначна па-сяброўску падміргне
з таго ня менш рэальнага сусьвету
там ружы на Каляды зацьвітаюць

там вокны як музэйныя вітрыны
што вечар ператворыць у вяртэп
з караблікамі дамамі чарцямі
жыцьця свайго павольнаю прасторай

дзе некалі і я знайдуся можа
нацубіўшы зялёны капялюш
міргну камусьці ўсьцешна з мэзаніну…
у Полацку мне сьніцца востраў Готлянд

**Na Gotlandzie**

na Gotlandzie mnie śnicca vostraŭ Połack
pakinuŭšy Ajčyny maciaryk
pływie jon u niaśpiešlivym Galfstrymie
majich hadoŭ padzielenych z samotaj

to z vyšyni kryła z padbojem sinim
to asiadłaŭšy kałyvasty płot
hladžu na dom i sad stary ździčeły
kudy zajcy zavitvali na morkvu

kab ababiehčy ścieżkaju šešć voknaŭ
patrebna bosym nožkam adpačyć
najlepiej dzie žyvie maja stakrotka
ŭ maleńkaj chatcy sa strachoj z travinak

jašče niama ni zdradaŭ ni kachańniaŭ
i nieŭmiručyja jašče baćki
jakich zaśpieŭ adnojčy ŭ łožku zrańnia
ŭ zaniatku dziŭnym… hod praź dziesiać tolki

ja zrazumieju što paspaŭšy bolej
tym dniom daždžlivym moh by atrymać
siastryčku znoŭku ci małoha brata
ź jakim chadziŭ by razam padzivicca

na dzieciukoŭ što bruk kładuć da placu
viasioły kožny i niby muryn
ad sonca čorny… brukavanka laža
da chramu Stefana jaki spyniŭsia

kamiennym halijonam pa-nad miestam
a tam uvišnyja dziadźki kładuć
u ałtary j na chory vybuchoŭku
kab zamaŭčaŭ hadzińnik staraśviecki

jaki zaciata čas ličyŭ pa-svojmu
na Gotlandzie mnie śnicca Połack moj
chavajuć tatu muška na francy
ŭ žałobie ścichła… ja ž tak nieciarpliva

čakaju ŭžo: ci praŭda jon pazvonić
na dzień majich narodzin jak skazaŭ?
biažyć nasustrač ryžaja dziaŭčynka
lacić adtul adkul nie dazvanicca

za joju kocicca zialony rovar
pusty choć krucić niechta panažy
*sasi banan trapičaskaha lesu*
złaviesna cedzić moj susied-atorva

u ryžuju taksama zakachany
la kramy svarycca čarha pa chleb
viasiołka bruku źziaje z-pad asfaltu
a naša Dźvinka jak Dźvinu my zvali

ciače ŭ sutońni ranišnim u mora dalej
na Gotland prosta ŭ snoŭ vitraž

dzie dom na skałach nad hatyčnaj kirchaj
dzie z mezaninu dendzi marmurovy

ŭ kapielušy ścichotliva znajomym
šmatznačna pa-siabroŭsku padmirhnie
z taho nia mienš realnaha suśvietu
tam ružy na Kalady zaćvitajuć

tam vokny jak muzejnyja vitryny
što viečar pieratvoryć u viartep z
karablikami damami čarciami
žyćcia svajho pavolnaju prastoraj

dzie niekali i ja znajdusia moža
nacubiŭšy zialony kapialuš
mirhnu kamuści ŭściešna z mezaninu... u
Połacku mnie śnicca vostraŭ Gotland

### У букініста

калі кнігі даведваюцца
што трапяць у букіністычную краму
яны паводзяцца па-рознаму
адны роспачна точацца ў другі шэраг
другія вытыркаюць забытыя закладкі
каб паказаць што яшчэ патрэбныя
трэція знаходзяць для цябе
паміж забытых старонак
інтымны ліст
ці прыхаваную купюру

толькі кнігі
якія напісаў ты сам
ганарліва касавурачыся
на тамы нобэлеўскіх ляўрэатаў
пачатку мінулага стагодзьдзя
і нават на трохвекавыя рарытэты
а таксама адна на адну
чуюцца ў небясьпецы

ім здаецца
што пакуль ты жывы
іхні гаспадар ня зьменіцца
а можа і пазьней
не давядзецца мяняць
утульнага месца
на пыльнай палічцы за фатаздымкамі
бо гаспадар
добра выхоўваў нашчадкаў

наіўныя! сёньня
томікі з гэтай паліцы
я занясу знаёмаму букіністу
каб зьбіць зь іх фанабэрыю

каб паназіраць
як яны будуць пачувацца
ў кампаніі з сваімі блізьнятамі
што ўжо здадзеныя ў краму
маімі сябрамі якім некалі
напісаў на тытуле
колькі прачулых словаў

каб мае кнігі
былі ў роўных умовах
на разьвітаньне я таксама
пакіну на іх аўтографы —
самому сабе

**U bukinista**

kali knihi daviedvajucca
što trapiać u bukinistyčnuju kramu
jany pavodziacca pa-roznamu
adny rospačna točacca ŭ druhi šerah
druhija vytyrkajuć zabytyja zakładki
kab pakazać što jašče patrebnyja
trecija znachodziać dla ciabie
pamiž zabytych staronak
intymny list
ci prychavanuju kupiuru

tolki knihi
jakija napisaŭ ty sam
hanarliva kasavuračysia
na tamy nobeleŭskich laŭreataŭ
pačatku minułaha stahodździa
i navat na trochviekavyja rarytety
a taksama adna na adnu
čujucca ŭ niebiaśpiecy

jim zdajecca
što pakul ty žyvy
jichni haspadar nia źmienicca
a moža i paźniej
nie daviadziecca mianiać
utulnaha miesca
na pylnaj paličcy za fatazdymkami
bo haspadar
dobra vychoŭvaŭ naščadkaŭ

najiŭnyja! siońnia
tomiki z hetaj palicy
ja zaniasu znajomamu bukinistu
kab źbić ź jich fanaberyju

kab panazirać
jak jany buduć pačuvacca
ŭ kampaniji z svajimi bliźniatami
što ŭžo zdadzienyja ŭ kramu
majimi siabrami jakim niekali
napisaŭ na tytule
kolki pračułych słovaŭ

kab maje knihi
byli ŭ roŭnych umovach
na raźvitańnie ja taksama
pakinu na jich aŭtohrafy —
samomu sabie

## **Мае самагубствы**

*чалавецтва падзяляецца на*
*тых каго наведвала думка пра самагубства*
*тых да каго яна яшчэ завітае*
*тых хто зь ёю так і не сустрэнецца*
*апошнім ніколі не зайздросьціў*

*Аўтар*

першы раз
я меўся зьвесьці падрахункі з жыцьцём
як мне споўнілася сем гадоў
а бацькі не падаравалі сыночку ровар

сцэнар быў бліскучы
пайсьці ўвечары ў задзьвінскі лес
каб тамтэйшыя ваўкі
са смакам зьелі мяне да белых костачак
якія мама зьбярэ ў кашолку
а тата завязе на могілкі ў маленькай труне
на навюткім ровары
ваўкі не ўхвалілі задумку
апоўначы тата знайшоў мяне ў лесе
ўначы адлупцаваў
сваёй пракурорскай папругай
ўраньні купіў ровар
зваліўшыся зь якога праз тыдзень
я зламаў руку і болей ніколі
на яго не садзіўся
так дагэтуль і ня ўмею езьдзіць

другі раз
я самахоць сабраўся памяняць сьвет
адсьвяткаваўшы пяцьдзясят
прычыны доўга тлумачыць
але яны былі важкія

хацелася быць арыгінальным аднак
амаль усё выглядала плягіятам
Сакрат пасьпеў выпіць цыкуту
Сэнэка — намацаць найлепшыя жылы
Грабал — выпадкова выпасьці з вакна
закаханая (не ў мяне) знаёмая —
залезьці на дах дванаццаціпавярховіка і
зрабіць упэўнены крок насустрач
ранішняму сонцу

мяне вабіла водная стыхія
Дзьвіна выглядала спакусьлівай але
ласкавая плынь магла па знаёмстве
аднесьці занадта далёка
між тым трэба было паклапаціцца
пра пахавальную працэсію
якая мусіць за нечым ісьці

выбар быў зроблены на карысьць
азёрнай затокі
млявы плёс атрымліваў магчымасьць

палюляць разам зь лілеямі й мяне
утульна заблытаўшыся ў сьцяблінах
зь якіх дзяўчаткі робяць пацеркі
я чакаў бы сваіх вызваліцеляў
і дух мой ганяўся б над вадою
за самотнаю чапляй ды
віхлястым і бялявым
пялёсткам белым — матыльком
(жывы клясык ацаніў бы мой сыход
каскадам новых алітэрацыяў)

плян быў прадуманы да драбніцаў
Харон адпачываў
човен напракат каштаваў 5 тысяч
беларускіх рублёў за гадзіну
плюс пашпарт у заклад
туды зручна было пакласьці
цыдулку з апошнімі наказамі
пашпарт забіраў Вася
ягоную жанчыну клікалі Таня
яны жылі пры возеры
глядзелі за саўнай і трэнажорнай заляй
у меру выпівалі
былі загарэлыя й маладыя

генэральная рэпэтыцыя
была прызначаная на пятніцу
Вася з Таняй
прыбіраліся ў саўне й вырашылі што
гэты куток радзімы зусім някепскі для
самі разумееце чаго

сонца было зь імі ў змове
бітлы таксама
Пол так сьпяваў *Let It Be*
што парачка шэрых чапляў
зрабіла плаўны разварот і вярнулася
я нячутна прычыніў дзьверы й падумаў
пайшло яно на…
гэтае самагубства

**Maje samahubstvy**

*čałaviectva padzialajecca na*
*tych kaho naviedvała dumka pra samahubstva*
*tych da kaho jana jašče zavitaje*
*tych chto ź joju tak i nie sustreniecca*
*apošnim nikoli nie zajzdrościŭ*

*Aŭtar*

pieršy raz
ja mieŭsia źvieści padrachunki z žyćciom
jak mnie spoŭniłasia siem hadoŭ
a baćki nie padaravali synočku rovar

scenar byŭ bliskučy
pajšci ŭviečary ŭ zadźvinski les
kab tamtejšyja vaŭki
sa smakam źjeli mianie da biełych kostačak
jakija mama źbiare ŭ kašołku
a tata zaviazie na mohiłki ŭ maleńkaj trunie
na naviutkim rovary
vaŭki nie ŭchvalili zadumku
apoŭnačy tata znajšoŭ mianie ŭ lesie
ŭnačy adłupcavaŭ
svajoj prakurorskaj papruhaj
ŭrańni kupiŭ rovar
zvaliŭšysia ź jakoha praz tydzień
ja złamaŭ ruku i bolej nikoli
na jaho nie sadziŭsia
tak dahetul i nia ŭmieju jeździć

druhi raz
ja samachoć sabraŭsia pamianiać śviet
adśviatkavaŭšy piaćdziasiat
pryčyny doŭha tłumačyć
ale jany byli važkija

chacielasia być aryhinalnym adnak
amal usio vyhladała plahijatam
Sakrat paśpieŭ vypić cykutu
Seneka — namacać najlepšyja žyły
Hrabał — vypadkova vypaści z vakna
zakachanaja (nie ŭ mianie) znajomaja —
zaleźci na dach dvanaccacipaviarchovika i
zrabić upeŭnieny krok nasustrač
ranišniamu soncu

mianie vabiła vodnaja stychija
Dźvina vyhladała spakuślivaj ale
łaskavaja płyń mahła pa znajomstvie
adnieści zanadta daloka
miž tym treba było pakłapacicca
pra pachavalnuju pracesiju
jakaja musić za niečym iści

vybar byŭ zrobleny na karyść
aziornaj zatoki
mlavy plos atrymlivaŭ mahčymaść

palulać razam ź lilejami j mianie
utulna zabłytaŭšysia ŭ ściablinach
ź jakich dziaŭčatki robiać pacierki
ja čakaŭ by svajich vyzvalicielaŭ
i duch moj haniaŭsia b nad vadoju
za samotnaju čaplaj dy
vichlastym i bialavym
pialostkam biełym — matylkom
(žyvy klasyk acaniŭ by moj sychod
kaskadam novych aliteracyjaŭ)

plan byŭ pradumany da drabnicaŭ
Charon adpačyvaŭ
čovien naprakat kaštavaŭ 5 tysiač
biełaruskich rubloŭ za hadzinu
plus pašpart u zakład
tudy zručna było pakłaści
cydułku z apošnimi nakazami
pašpart zabiraŭ Vasia jahonuju
žančynu klikali Tania jany žyli
pry voziery
hladzieli za saŭnaj i trenažornaj zalaj
u mieru vypivali
byli zaharełyja j maładyja

hieneralnaja repetycyja
była pryznačanaja na piatnicu
Vasia z Taniaj
prybiralisia ŭ saŭnie j vyrašyli što
hety kutok radzimy zusim niakiepski dla
sami razumiejecie čaho

sonca było ź jimi ŭ zmovie
bitły taksama
Poł tak śpiavaŭ *Let It Be*
što paračka šerych čaplaŭ
zrabiła płaŭny razvarot i viarnułasia
ja niačutna pryčyniŭ dźviery j padumaŭ
pajšło jano na…
hetaje samahubstva

## **Асьвея**

Асьвея
дарога ў сьвеі
ці можа якраз са сьвеяў
або да сябе самога
ці да цябе як зазвычай

Асьвея
возера ў сквары
нашая fata morgana
лайбаю на небакраі
ў чаротавых хвалях плыве

Асьвея
намёт на ўзлобку
стрэча з ваўком — маім братам
які тут мае радзіну
ваўчыцу і двух ваўчанят

Асьвея
поўнач на высьпе
поўня ў паўнюткім зацьменьні
таму й мабільная сувязь
зь Вялікай зямлёю маўчыць

Асьвея
агонь на строме
водбліз зьдзічэлага саду
нячутна выйдуць з-за яблынь
душы былых астраўлянаў

Асьвея
душы прысядуць
хто з коткаю на каленях
а хто з дварняком каля ног
босых парэпаных вечных

Асьвея
сьціхота й радасьць
мама прысьніцца пад раньне
насыпле кішэнь ірысак
*прамовіць ваўчо ты Вова*

Асьвея
зноўку прыеду
скочу з маторкі на бераг
чакацьме на строме брат мой
які тут жыве з радзінай

## Aśvieja

Aśvieja daroha
ŭ śvieji
ci moža jakraz sa śviejaŭ
abo da siabie samoha
ci da ciabie jak zazvyčaj

Aśvieja
voziera ŭ skvary
našaja fata morgana
łajbaju na niebakraji
ŭ čarotavych chvalach pływie

Aśvieja
namiot na ŭzłobku
streča z vaŭkom — majim bratam
jaki tut maje radzinu
vaŭčycu i dvuch vaŭčaniat

Aśvieja
poŭnač na vyśpie
poŭnia ŭ paŭniutkim zaćmieńni
tamu j mabilnaja suviaź
ź Vialikaj ziamloju maŭčyć

Aśvieja
ahoń na stromie
vodbliz ździčełaha sadu
niačutna vyjduć z-za jabłyń
dušy byłych astraŭlanaŭ

Aśvieja
dušy prysiaduć
chto z kotkaju na kaleniach
a chto z dvarniakom kala noh
bosych parepanych viečnych

Aśvieja
ścichota j radaść
mama pryśnicca pad rańnie
nasyple kišeń irysak
*pramović vaŭčo ty Vova*

Aśvieja
znoŭku pryjedu
skoču z matorki na bierah
čakaćmie na stromie brat moj
jaki tut žyvie z radzinaj

## Я марыў стаць паталягаанатамам

калі я быў неўміручым
меў сонечную мару
стаць паталягаанатамам
нават навучыўся вымаўляць гэтае слова без памылак

паталягаанатамам
быў наш сусед дзядзя Жэня
вясёлы габрэй з сумнымі вачыма
мой найлепшы сябар дзяцінства
ён заўсёды пахнуў парфумаю
яна з дня ў дзень мянялася
струменячы сярод духменяў
смажанае цыбулі ды іншых цымусаў
водарамі язьміну бэзу канваліяў і нейкага шыпру
водары ў бутліках
рабілі на засакрэчанай дзядзіжэневай працы
куды не пускалі дзяцей

калі я зрабіўся сьмяротным і
спасьціг таемную сутнасьць
запаветнай дзіцячае мары
дзядзя Жэня раскрыў мне колькі важных сакрэтаў
свайго патрэбнага людзям занятку
я даведаўся што
за дзьвярыма трупярні жыцьцё не канчаецца
некаторыя паміраюць толькі там
ад ускрыцьця
некаторыя ад ускрыцьця ўваскрасаюць
другіх болей
таму ўсім рэкамэндавана запісацца
на прыём да паталягаанатама

каб ня здарылася як з Гогалем
што ўваскрэс на пару мэтраў ніжэй чым трэба
рабі высновы сказаў дзядзя Жэня
ад'яжджаючы на гістарычную радзіму
(што ні кажыце прыемней мець справу з суайчыньнікамі)

вакантную пасаду заняў дзядзя Грыша
сумны габрэй зь вясёлымі вачыма
які пацьвердзіў што
жыцьцё доўжыцца і ў ягоных уладаньнях
за абабітымі бляхай дзьвярыма
негаваркія насельнікі
радыя ўсім наведнікам
жывым і такім як самі
апошнім болей бо
іх зьяўленьне надае астатнім аптымізму
нядаўна прыехала парачка
што кахалася ў гаражы з уключаным маторам і
мясцовая публіка адразу павесялела

дзядзя Грыша вадзіў мяне на экскурсію
ўражаньні самыя сьветлыя
паміж ягонымі пацыентамі

бываюць нават раманы бо
мужчыны і там цэняць жаночае хараство
а жанчыны мужчынскую сьмеласьць
і зусім не фрыгідныя
бачыш — паказаў дзядзя Грыша — за ноч
прафэсар пасунуўся бліжэй да студэнткі
я пераканаўся што
ў трупярні таксама можна жыць
асабліва як выжлукціш з гаспадаром
літровую пляшку ўіскі

калі я стаў пісьменьнікам
дзядзя Грыша зьехаў на гістарычную радзіму
(што ні кажыце прыемней мець справу з
суайчыньнікамі)

вакантную пасаду заняў спадар Мікола
(сяродсуайчыньнікаўёнмаесантымэнтдабеларуск
амоўных)
нашчадак роду Дарагастайскіх
яны працавалі полацкімі ваяводамі
надворнымі маршалкамі
стольнікамі літоўскімі
а цяпер зарабляюць на хлеб патолягаанатамамі
крыху выпіваючы з дапытлівымі літаратарамі
што любяць забаўныя гісторыі й сюжэты
да прыкладу адзін зарэзаны бандзюган
уваскрэс уначы акурат напярэдадні Вялікадня
знайшоў на стале ў санітараў карты
ды пасадзіў рахманых суседзяў гуляць у «тысячу»

або прыехаў сваяк
а можа і сам забойца забітага
дае спадару Міколу сто баксаў з мабільнікам
ды просіць мудак
перад ускрыцьцём прывязаць мабільнік
нябожчыку да рукі

наогул цяпер нярэдка перад хаўтурамі
кладуць наўцу ў кішэню тэлефон зь
перадаплатай
каб у выпадку чаго пазваніў ці паслаў sms
невядома яшчэ ці кінуцца гэтыя мудакі
каго-небудзь адкопваць
мо проста хочуць пераканацца што
ўсё зроблена як мае быць і
жывы нябожчык не ўзбаламуціць вяртаньнем
набыты пасьля яго сыходу спакой

я пакуль ня вырашыў
ці браць з сабой мабілу
але дакладна ведаю што
калі за мною зачыняцца
абабітыя бляхаю дзьверы
буду не самотны
ды яшчэ атрымаю ўзнагароду
ў выглядзе сустрэчы з увасабленьнем
сваёй сонечнай мары

## Ja maryŭ stać patolahaanatamam

kali ja byŭ nieŭmiručym
mieŭ soniečnuju maru
stać patolahaanatamam
navat navučyŭsia vymaŭlać hetaje słova biez
pamyłak

patolahaanatamam
byŭ naš susied dziadzia ženia
viasioły habrej z sumnymi vačyma
moj najlepšy siabar dziacinstva jon
zaŭsiody pachnuŭ parfumaju jana
z dnia ŭ dzień mianiałasia
strumieniačy siarod duchmieniaŭ
smažanaje cybuli dy jinšych cymusaŭ
vodarami jaźminu bezu kanvalijaŭ i niejkaha šypru
vodary ŭ butlikach
rabili na zasakrečanaj dziadziženievaj pracy
kudy nie puskali dziaciej

kali ja zrabiŭsia śmiarotnym i
spaścih tajemnuju sutnaść
zapavietnaj dziciačaje mary
dziadzia ženia raskryŭ mnie kolki važnych sakretaŭ
svajho patrebnaha ludziam zaniatku
ja daviedaŭsia što
za dźviaryma trupiarni žyćcio nie kančajecca
niekatoryja pamirajuć tolki tam
ad uskryćcia
niekatoryja ad uskryćcia ŭvaskrasajuć
druhich bolej
tamu ŭsim rekamendavana zapisacca
na pryjom da patolahaanatama

kab nia zdaryłasia jak z Hohalem
što ŭvaskres na paru metraŭ nižej čym treba
rabi vysnovy skazaŭ dziadzia ženia
adjaždžajučy na histaryčnuju radzimu
(što ni každycie pryjemniej mieć spravu z
suajčyńnikami)

vakantnuju pasadu zaniaŭ dziadzia Hryša
sumny habrej ź viasiołymi vačyma
jaki paćvierdziŭ što
žyćcio doŭžycca i ŭ jahonych uładańniach
za ababitymi blachaj dźviaryma
niehavarkija nasielniki
radyja ŭsim naviednikam
žyvym i takim jak sami
apošnim bolej bo
jich źjaŭleńnie nadaje astatnim aptymizmu
niadaŭna pryjechała paračka
što kachałasia ŭ haražy z ukľučanym matoram i
miascovaja publika adrazu paviesialeła

dziadzia Hryša vadziŭ mianie na ekskursiju
ŭražańni samyja śvietłyja
pamiž jahonymi pacyjentami
byvajuć navat ramany bo

mužčyny i tam ceniać žanočaje charastvo
a žančyny mužčynskuju śmiełaść
i zusim nie fryhidnyja
bačyš — pakazaŭ dziadzia Hryša — za noč prafesar
pasunuŭsia bližej da studentki
ja pierakanaŭsia što
ŭ trupiarni taksama možna žyć
asabliva jak vyžłukciš z haspadarom
litrovuju plašku ŭiski

kali ja staŭ piśmieńnikam
dziadzia Hryša źjechaŭ na histaryčnuju radzimu
(što ni kažycie pryjemniej mieć spravu z
suajčyńnikami)

vakantnuju pasadu zaniaŭ spadar Mikoła
(siarodsuajčyńnikaŭjonmajesantymentdabiełaruska
moŭnych)
naščadak rodu Darahastajskich
jany pracavali połackimi vajavodami
nadvornymi maršałkami
stolnikami litoŭskimi
a ciapier zarablajuć na chleb patolahaanatamami
krychu vypivajučy z dapytlivymi litaratarami
što lubiać zabaŭnyja historyi j siužety da
prykładu adzin zarezany bandziuhan
uvaskres unačy akurat napiaredadni Vialikadnia
znajšoŭ na stale ŭ sanitaraŭ karty
dy pasadziŭ rachmanych susiedziaŭ hulać u
«tysiaču»

abo pryjechaŭ svajak
a moža i sam zabojca zabitaha
daje spadaru Mikołu sto baksaŭ z mabilnikam
dy prosić mudak
pierad uskryćciom pryviazać mabilnik niabožčyku
da ruki

naohuł ciapier niaredka pierad chaŭturami
kładuć naŭcu ŭ kišeniu telefon ź pieradapłataj
kab u vypadku čaho pazvaniŭ ci pasłaŭ sms
nieviadoma jašče ci kinucca hetyja mudaki kaho-
niebudź adkopvać
mo prosta chočuć pierakanacca što ŭsio
zroblena jak maje być i
žyvy niabožčyk nie ŭzbałamucić viartańniem
nabyty paśla jaho sychodu spakoj

ja pakul nia vyrašyŭ ci
brać z saboj mabiłu
ale dakładna viedaju što
kali za mnoju začyniacca
ababityja blachaju dźviery
budu nie samotny
dy jašče atrymaju ŭznaharodu
ŭ vyhladzie sustrečy z uvasableńniem
svajoj soniečnaj mary

## Мне прысьніўся Хадановіч

мне прысьніўся Хадановіч
велічны нібы сэнатар
недарэзаны Нэронам
іранічны як Свэтоній
заклапочаны як Брут
можа сам каго зарэзаў
можа вершык марыў скласьці
а магчыма проста піва
прагнуў выпіць насупроць
Камітэту дзяржбясьпекі
дзе цікавяцца здаўна
нашым паэтычным словам
і напэўна нездарма

ён ішоў па вулцы Маркса
ў Менску стомленым і сонным
між кавярняй «Эльдарада»
і ангельскай амбасадай
(там у будцы мент сядзіць)
рухаўся накіравана
не хістаўся не губляўся
павітаўся з нарпаэтам
з рэдкім іменем на «Н»
даўганогай прыгажуні
мімаходзь прызначыў стрэлку
і сказаў бамжу «банжур»

ён ішоў... гракі крычалі
ў навакольлі Нацтэатру
(ну чаму не груганы?)
бомж чытаў паэта Ніцку
плакаў... языком мянціў
даўганогая бляндынка
набыла контрацэптыў
бо навокал СНІД лютуе
а Андрэй — за ўсіх мудрэй

я прачнуўся і падумаў
вось прысьніцца Хадановіч
цёмнай ночкай на Каляды
без усякіх там прыколаў
заклапочаны як Брут
будзе йсьці па вулцы Маркса
з томам Малярмэ ў партфэлі
і часопісам «Arche»
і з сухім ляшчом пад пахай
што адгэтуль вынікае?
што паэту трэба муза
а часамі прагне піва
ўкрай асьмяглы арганізм
і ляшчы яшчэ вядуцца
у вірох маёй Радзімы
КДБ шануе мову
і «Arche» выходзіць спраўна
а бамжы чытаюць кнігі
знойдзеныя на памыйках
гэта значыць што пісьменства
наша краснае — жыве!

**Mnie pryśniŭsia Chadanovič**

mnie pryśniŭsia Chadanovič
vieličny niby senatar
niedarezany Neronam
iraničny jak Svetonij
zakłapočany jak Brut
moža sam kaho zarezaŭ
moža vieršyk maryŭ skłaści
a mahčyma prosta piva
prahnuŭ vypić nasuproć
Kamitetu dziaržbiaśpieki
dzie cikaviacca zdaŭna
našym paetyčnym słovam
i napeŭna niezdarma
jon išoŭ pa vułcy Marksa
ŭ Miensku stomlenym i sonnym
miž kaviarniaj «Eldarada»
i anhielskaj ambasadaj
(tam u budcy mient siadzić)
ruchaŭsia nakiravana
nie chistaŭsia nie hublaŭsia
pavitaŭsia z narpaetam
z redkim jimieniem na «N»
daŭhanohaj pryhažuni
mimachodź pryznačyŭ strełku
i skazaŭ bamžu *«bonjour»*

jon išoŭ… hraki kryčali ŭ
navakolli Nacteatru (nu
čamu nie hruhany?)
bomž čytaŭ paeta Nicku
płakaŭ… jazykom mianciŭ

daŭhanohaja blandynka
nabyła kontraceptyŭ
bo navokał SNID lutuje
a Andrej — za ŭsich mudrej

ja pračnuŭsia i padumaŭ
voś pryśnicca Chadanovič
ciomnaj nočkaj na Kalady
biez usiakich tam prykołaŭ
zakłapočany jak Brut
budzie jšci pa vułcy Marksa
z tomam Mallarmé ŭ partfeli
i časopisam «Arche»
i z suchim laščom pad pachaj što
adhetul vynikaje?
što paetu treba muza
a časami prahnie piva
ŭkraj aśmiahły arhanizm
i laščy jašče viaducca
u viroch majoj Radzimy
KDB šanuje movu
i «Arche» vychodzić spraŭna
a bamžy čytajuć knihi
znojdzienyja na pamyjkach
heta značyć što piśmienstva
naša krasnaje — žyvie!

## **В**

ваба
вабачка
вабка
вабнотка
вакханка

в*а*ва
в*а*вачка
ваўка
ваванка
вагантка

вагавінка
вагінка
вагнітка
вазёрніца
вальпургіянка

вадзяніца
вадохрыстка
в*а*дачка
в*а*да
ванзэйка

вадаліўка
важ*а*чка
валожынка
ваза

вафлістка

васднальжніца
ватэрпалістка
валошка
валтузьніца
вануацянка

вакалістка
ванзэльніца
валейбалістка
вампірка
вандалка

валтарністка
валхвіца
валашка
ванкувэрка
вайдэлётка

валачобніца
варшавянка
варшанка
валютніца
валюнтарыстка

валавочка
вакзальніца
валенсіянка

вахцёрка
валюстаманка

валадушка
валянка
вальфрамка
ва-банкаўка
варлівочка

валынянка
ваярка
ваўчыца
вальготка
валькірыя

валянтэрка
вандроўніца
валентыянка
вавёрка
вакацыя

валянцінка
варкотка
варголка
варгатка
вальтэрыянка

вальтыжорка
вальсоўніца

валька
варгіня
ваўчынка

валміерка
вар’ятка
васалка
варажка
васпанка

варакушка
варонка
варанка
варштатка
вархольніца

вастразубка
вальжынка
вастрылка
варсінка
вальготніца

васьміножка
варожка
валэнда
вал*е*чніца
ваўкавысянка

васьміклясьніца

васілінка
ваалка
варэнька
васьміактоўка

ваўкалачка
ваўкіня
валодка
валдайка
валякардынка

веда
ведачка
веечка
ведзьма
вэлясыпэдыстка
ведрычанка
вялікадушніца
вежачка
велька
вялесьніца

велягурачка
векапомніца
веліжанка
вялікапышніца
вялікабрытанка

венцаноска

вэрм*у*тніца
вэнэсуэлька
вэнэрыянка
вялікабераставічанка

вера
вербачка
венка
вернападданьніца
вэнэцыянка

вераемніца
верагодніца
веравызнанка
вэрб*а*лка
верхнепалеалітка

верасовачка
верасьнёвачка
велясовачка
верніца
вераадступніца

вербалозка
вэльботка
верацярпіміца
в*е*рунка
в*е*трынка

вераломніца
вэрбавальніца
вэраналка
вэрбэна
вэстыбулярка

верашчалка
вялікасьветніца
векша
вялікапакутніца
в*е*рцы

верхалазка
вэронка
вэстготка
верашукальніца
вэст-індыянка

верціхвостка
вэсталка
вялікаліцьвінка
вяртэпніца
ветліца

вераценьніца
верхаводка
вэргіліянка
вэндэтка
вэрыфікатарка

вернідубка
в’етнамка
вэстэрнаманка
вэст-эндка
вэб-вумэнка

верцідупка
вятроўка
вяртушка
вярзунка
верцігалоўка

вэльзэвульвачка
вершашукальніца
вершавызнаньніца
вершніца
вэрлібрыкоска

вэраніка
вэнэра
вэнэтка
вэльвэтка
вяшчальніца

вечавальніца
вечароўніца
вечарніца
вядзьмедзіца

вялікаполька

верхнядзьвінка
вэрвольфаўка
вэрсія
вейка
вэрсыфікатарка

вівіянка
віватка
вінярніца
відзэмка
відзаўка

відавочніца
віка
вікторыя
віралеістка
вільгурка

візэруньніца
візытаманка
віёля
віжоўка
вікуньня

візытэрка
вільнянка
вільнярка

віньетка
віндсэрфінгістка

вікінгіня
вігоня
вік*у*ша
візытніца
візіяністка

вікантэса
вігвамніца
вівальдыманка
вів*е*ра
вібрафаністка

вінаградзінка
віначэрпіца
вінаваўніца
віньнічанка
віні-пухоўка

вірлавочка
вітражніца
вішанька
вікця
вішнёўка

віртуозка
вірлівіца

вітка
віялянчэлька
віялянчэлістка

віртуалка
віроўніца
віуэлістка
вітрыньніца
вісуска

вісагінка
віхурка
віталечка
вітачка
віктарыянка

віцяблянка
віражніца
віта
віцінка
вівакубінка

віскуценьніца
віскіманачка
вівісэктарка
віталістка
віцэ-мастачка

вогнепаклоньніца

водаваротніца
войтачка
воечка
востраканфліктніца

вокамгненьніца
восьпінка
восенька
воленька
воска

вольнанаёмніца
вольхачка
волатка
ворліца
вольця

воля
вольніца
волечка
вольвачка
вольнаадпушчанка

вуалетка
вугорка
вудыстка
вужалка
вуаерыстка

вузкаплечка
вужачка
вуалеахвостка
вульгарніца
вулька

вуркагантка
вупырка
вусатка
вучыцелька
вульванаўтка

вуніятка
вульлянка
вушатка
вучнёўка
вузкадупенцыя

вузкавочка
вузкапізьдзёнка
вудзільніца
в*у*сьцішка
вузкакалейка

выблуканка
выбранка
выбраньніца
выдра
выданьніца

выбуянка
выдранка
вырочніца
выдма
выдатніца

выбухоўка
вызнанка
вызвольніца
в*ы*струнка
вундэркідалка

выблядушка
вызволька
выспавяданка
выслоўніца
выспачка

вываланка
выведніца
вырайка
выйка
выжарынка

выдумляльніца
выжліца
выжлукта
выйгра
выкрутніца

выкапнёўка
выключніца
вырачка
вынятка
высокамаралка

выкруцёлка
высмажанка
вытлумачальніца
выпраменьніца
выкрасалка

выляжанка
высмокта
выёбка
выёбніца
высакаклясьніца

вымуштроўніца
вымудроўніца
выхаваначка
вырахаваначка
вырваска

вынаходніца
выхавальніца
в*ы*рвачка
выратавальніца
выратаванка

выпястунка
вылежніца
высакалётка
вычварніца
высакавольтка

высакоўка
выслужніца
высакамоўніца
высакагорніца
высачка

вычварэнка
выёбушка
выебаманка
высочніца
высокачастотніца

вышаградка
вышагародка
выюрачка
выцалоўніца
высакагрудка

вярцёлка
вядзьмарка
вядунка

вяршыцелька
вязьніца

вярсталка
вястунка
вясьлярка
вясьнянка
вясельніца

вяргіня
вяскоўка
вяхірка
вялебніца
вянка

вятошка
вятружка
вяльможніца
вята
вяшчунка

в…

## v

vaba
vabačka
vabka
vabnotka
vakchanka

v*a*va
v*a*vačka
vaŭka
vavanka
vahantka

vahavinka
vahinka
vahnitka
vaziornica
valpurhijanka

vadzianica
vadochrystka
v*a*dačka v*a*da
vanzejka

vadaliŭka
važ*a*čka
vałožynka
vaza
vafistka

vadnałyžnica
vaterpalistka
vałoška
vałtuźnica
vanuacianka

vakalistka
vanzelnica
valejbalistka
vampirka
vandałka

vałtarnistka
vałchvica
vałaška
vankuverka
vajdelotka

vałačobnica
varšavianka
varšanka
valutnica
valuntarystka

vałavočka
vakzalnica
valensijanka
vachciorka

valustamanka

vaładuška
valanka
valframka va-
bankaŭka
varlivočka

vałynianka
vajarka
vaŭčyca
valhotka
valkiryja

valanterka
vandroŭnica
valentyjanka
vaviorka
vakacyja

valancinka
varkotka
varhołka
varhatka
valteryjanka

valtyžorka
valsoŭnica
valka

varhinia
vaŭčynka

vałmijerka
varjatka
vasałka
varažka
vaspanka

varakuška
varonka
varanka
varštatka
varcholnica

vastrazubka
valžynka
vastryłka
varsinka
valhotnica

vaśminožka
varožka
vałenda
val*e*čnica
vaŭkavysianka

vaśmiklaśnica
vasilinka

vaałka
vareńka
vaśmiaktoŭka

vaŭkałačka
vaŭkinia
vałodka
vałdajka
valakardynka

vieda
viedačka
vieječka
viedźma
velasypedystka
viedryčanka
vialikadušnica
viežačka
vielka
vialeśnica

vielahuračka
viekapomnica
vieližanka
vialikapyšnica
vialikabrytanka

viencanoska
verm*u*tnica

venesuelka
veneryjanka
vialikabierastavičanka

viera
vierbačka
vienka
viernapaddańnica
venecyjanka

vierajemnica
vierahodnica
vieravyznanka
verb*a*łka
vierchniepalealitka

vierasovačka
vieraśniovačka
vielasovačka
viernica
vieraadstupnica

vierbałozka
velbotka
vieraciarpimica
v*ie*runka
v*ie*trynka

vierałomnica

verbavalnica
veranałka
verbena
vestybularka

vieraščałka
vialikaśvietnica
viekša
vialikapakutnica
v*ie*rcia

vierchałazka
veronka
vesthotka
vierašukalnica
vest-indyjanka

viercichvostka
vestałka
vialikalićvinka
viartepnica
vietlica

vieracieńnica
vierchavodka
verhilijanka
vendetka
veryfkatarka

viernidubka
vjetnamka
vesternamanka
vest-endka
veb-vumenka

viercidupka
viatroŭka
viartuška
viarzunka
viercihałoŭka

velzevulvačka
vieršašukalnica
vieršavyznańnica
vieršnica
verlibrykoska

veranika
venera
venetka
velvetka
viaščalnica

viečavalnica
viečaroŭnica
viečarnica
viadźmiedzica
vialikapolka

vierchniadźvinka
vervolfaŭka
versija
viejka
versyfkatarka

vivijanka
vivatka
viniarnica
vidzemka
vidzaŭka

vidavočnica
vika
viktoryja
viralejistka
vilhurka

vizeruńnica
vizytamanka
vijola
vižoŭka
vikuńnia

vizyterka
vilnianka
vilniarka
vińjetka

vindserfnhistka

vikinhinia
vihonia
vik*u*ša
vizytnica
vizijanistka

vikantesa
vihvamnica
vivaldymanka
viv*ie*ra
vibrafanistka

vinahradzinka
vinačerpica
vinavaŭnica
vińničanka vini-
puchoŭka

virłavočka
vitražnica
višańka
vikcia
višnioŭka

virtuozka
virlivica
vitka

vijalančelka
vijalančelistka

virtuałka
viroŭnica
viuelistka
vitryńnica
visuska

visahinka
vichurka
vitalečka
vitačka
viktaryjanka

viciablanka
viražnica
vita
vicinka
vivakubinka

viskucieńnica
viskimanačka
vivisektarka
vitalistka
vice-mastačka

vohniepakłońnica
vodavarotnica

vojtačka
viječka
vostrakanfiktnica

vokamhnieńnica
vośpinka
vosieńka
voleńka
voska

volnanajomnica
volchačka
vołatka
vorlica
volcia

vola
volnica
volečka
volvačka
volnaadpuščanka

vualetka
vuhorka
vudystka
vužałka
vuajerystka

vuzkaplečka

vužačka
vualeachvostka
vulharnica
vulka

vurkahantka
vupyrka
vusatka
vučycielka
vulvanaŭtka

vunijatka
vullanka
vušatka
vučnioŭka
vuzkadupiencyja

vuzkavočka
vuzkapiździonka
vudzilnica
v*u*ściška
vuzkakalejka

vybłukanka
vybranka
vybrańnica
vydra
vydańnica
vybujanka

vydranka
vyročnica
vydma
vydatnica

vybuchoŭka
vyznanka
vyzvolnica
v*y*strunka
vunderkidałka

vybladuška
vyzvolka
vyspaviadanka
vysłoŭnica
vyspačka

vyvałanka
vyviednica
vyrajka
vyjka
vyžarynka

vydumlalnica
vyžlica
vyžłukta
vyjhra
vykrutnica

vykapnioŭka
vykľučnica
vyračka
vyniatka
vysokamarałka

vykruciołka
vysmažanka
vytłumačalnica
vypramieńnica
vykrasałka

vylažanka
vysmokta
vyjobka
vyjobnica
vysakaklaśnica

vymuštroŭnica
vymudroŭnica
vychavanačka
vyrachavanačka
vyrvaska

vynachodnica
vychavalnica
v*y*rvačka
vyratavalnica
vyratavanka

vypiastunka
vyležnica
vysakalotka
vyčvarnica
vysakavoltka

vysakoŭka
vysłužnica
vysakamoŭnica
vysakahornica
vysačka

vyčvarenka
vyjobuška
vyjebamanka
vysočnica
vysokačastotnica

vyšahradka
vyšaharodka
vyjuračka
vycałoŭnica
vysakahrudka

viarciołka
viadźmarka
viadunka
viaršycielka

v*iaź*nica

viarstałka
viastunka
viaślarka
viaśnianka
viasielnica

viarhinia
viaskoŭka
viachirka
vialebnica
vianka

viatoška
viatružka
vialmožnica
viata
viaščunka

v…

## Ёсьць гарады прыдуманыя Богам

ёсьць гарады прыдуманыя Богам
ёсьць гарады прыдуманыя д’яблам
а хто цябе прыдумаў горад мой?

хто сьніў цябе такім якім ніколі
ты не прачнесься раніцай туманнай
каб у Дзьвіне памыць заспаны твар?

што сьнілася табе ў тваіх кашмарах
і ў прыцемным бурштынавым бяссоньні
і ў сьветлых снах што спавівае сум?

хто зь сьвечкай йшоў па гулкіх сутарэньнях
палохаючы вусьцішныя цені
ўладыкаў звар’яцелых і цароў?

хто летапіс твой скраў крывёй паліты
хто расьцягнуў тваю бібліятэку
зьвёз хто ў чужыну жыватворны крыж?

ты прышласьці званіў Сафійскім звонам
ты нашым сьніў сябе Ерусалімам
ды трэці Рым прызначыў іншы лёс

о як мне часам прагнецца ўваскрэснуць
у тагасьвеце у які ня веру
дзе містыка і тайніцы твае

са мной няхай давеку застануцца
у вандраваньнях па чыстцы і раі
а лепш усё ж па пекле: цікавей...

я не ўваскрэсну а вось ты — ўваскрэсьнеш!

## Jość harady prydumanyja Boham

jość harady prydumanyja Boham
jość harady prydumanyja djabłam
a chto ciabie prydumaŭ horad moj?

chto śniŭ ciabie takim jakim nikoli
ty nie pračnieśsia ranicaj tumannaj
kab u Dźvinie pamyć zaspany tvar?

što śniłasia tabie ŭ tvajich kašmarach
i ŭ pryciemnym burštynavym biassońni
i ŭ śvietłych snach što spavivaje sum?

chto ź śviečkaj jšoŭ pa hułkich sutareńniach
pałochajučy vuścišnyja cieni
ŭładykaŭ zvarjaciełych i caroŭ?

chto letapis tvoj skraŭ kryvioj pality
chto raściahnuŭ tvaju biblijateku
źvioz chto ŭ čužynu žyvatvorny kryž?

ty pryšłaści zvaniŭ Safjskim zvonam
ty našym śniŭ siabie Jerusalimam
dy treci Rym pryznačyŭ jinšy los

o jak mnie časam prahniecca ŭvaskresnuć
u tahaśviecie u jaki nia vieru
dzie mistyka i tajnicy tvaje

sa mnoj niachaj davieku zastanucca
u vandravańniach pa čystcy i raji
a lepš usio ž pa piekle: cikaviej...

ja nie ŭvaskresnu a voś ty — ŭvaskreśnieš!

**Пазнаю сябе ў сыне**

пазнаю сябе ў сыне

у почырку зь літарамі
што падхмелена танчаць
на вольным паветры

у вясёлым мітынгу
папераў і кніжак
на пісьмовым стале

у нязводнай схільнасьці
да вострага і салодкага
асабліва да эклераў

у адчуваньні словаў
на смак і колер
на водар і дотык

у медзьведзяватай хадзе
па вуліцы
па цэлым сьвеце

у захапленьні школьніцай
што яшчэ проста малая
і не разумее

у любові да лацінаамэрыканцаў
пераважна да Хуліё Картасара і
Габрыеля Гарсія Маркеса

у цыганскіх вандраваньнях
з кароткімі прыпынкамі
на палубе роднай канапы

у празе адзіноты
што сьпеліцца як папяроўка і
абрынаецца як залева

ва ўчэпістых хваробах
(дай Божа каб не ўва ўсіх)
што адкрываюць новыя сутнасьці

ва ўменьні пакрыўдзіць
пакрыўдзіцца
дараваць

пазнаю сябе ў сыне

так хочацца пазнаць сябе і тады
калі прысяду яму на плячо
цёплым ветрам

**Paznaju siabie ŭ synie**

pazna*ju* siabie ŭ synie
u počyrku *ź* litarami
što padchmielena tančać
na volnym pavietry

u viasiołym mitynhu
papieraŭ i knižak
na piśmovym stale

u niazvodnaj schilnaści
da vostraha i sałodkaha
asabliva da ekleraŭ

u adčuvańni słovaŭ
na smak i koler
na vodar i dotyk

u miedźviedziavataj chadzie
pa vulicy
pa całym śviecie

u zachapleńni školnicaj
što jašče prosta małaja i
nie razumieje

u lubovi da łacinaamerykancaŭ
pieravažna da Chulijo Kartasara i
Gabryjela Garsija Markiesa

u cyhanskich vandravańniach
z karotkimi prypynkami
na pałubie rodnaj kanapy

u prazie adzinoty
što śpielicca jak papiaroŭka i
abrynajecca jak zaleva

va ŭčepistych chvarobach
(daj Boža kab nie ŭva ŭsich)
što adkryvajuć novyja sutnaści

va ŭmieńni pakryŭdzić
pakryŭdzicca
daravać

paznaju siabie ŭ synie

tak chočacca paznać siabie i tady
kali prysiadu jamu na plačo
ciopłym vietram

## На поўнач ад каханьня

на поўнач ад каханьня
жывуць успаміны

туляцца да вогнішча
пры лесьнічоўцы —
ганак з жорнаў
нечакана скупая
суседка зязюля

хаваюцца ад сьляпога дажджу
пад перакуленым баркасам —
балтыйскія ракаўкі
да крыві раняць сьпіну
рай для садамазахістаў

зьбіраюць ажыны
на вусьцішнай высьпе —
насельніцтва там
спрэс героі
Яна Баршчэўскага

на поўнач ад каханьня
насьценны гадзіньнік
і час
падпісалі
дамову —
хапае на кнігі
на сяброў
сяброўак
самоту
вандроўку ў горад N

на поўнач ад каханьня
ніхто ня звоніць
а трэцяй гадзіне ночы —
ня дыхае ў слухаўку
апякаючы мочку
ня шэпча
кахаю
ненавіджу
зараз мяне возьме іншы

на поўнач ад каханьня
парадкуеш архіў —
паперы
школьны гербарыюм
насоўка з ініцыяламі
пішаш электронныя й проста лісты
(апошніх усё меней)
вучыш ангельскую мову
*I you don't love*
*I sometimes you don't want*
*(put the words in the right order[2])*

на поўнач ад каханьня

---

2 Пастаўце словы ў патрэбным парадку *(анг.)*.

забываеш смак віна
выбіраеш у шафцы гарбату —
чорную
з бэргамотам
язьмінам
жэньшэневую
імбірную

на поўнач ад каханьня
стукаецца ў дзьверы
ветлівы маруда вечар —
знаходзіш у шафцы з гарбатай

клясычную зялёную
заварваеш
у тым самым кубку
з аленем сьвятога Губэрта
падыходзіш да вакна
доўга глядзіш
на поўдзень

**Na poŭnač ad kachańnia**

na poŭnač ad kachańnia
žyvuć uspaminy

tulacca da vohnišča
pry leśničoŭcy —
ganak z žornaŭ
niečakana skupaja
susiedka ziaziula

chavajucca ad ślapoha daždžu
pad pierakulenym barkasam —
bałtyjskija rakaŭki
da kryvi raniać śpinu
raj dla sadamazachistaŭ

źbirajuć ažyny
na vuścišnaj vyśpie —
nasielnictva tam
spres hieroji
Jana Barščeŭskaha

na poŭnač ad kachańnia
naścienny hadzińnik
i čas
padpisali
damovu —
chapaje na knihi
na siabroŭ

siabrovak
samotu
vandroŭku ŭ horad N

na poŭnač ad kachańnia
nichto nia zvonić
a treciaj hadzinie nočy —
nia dychaje ŭ słuchaŭku
apiakajučy močku
nia šepča
kachaju
nienavidžu
zaraz mianie voźmie jinšy

na poŭnač ad kachańnia
paradkuješ archiŭ — papiery
školny hierbaryjum
nasoŭka z inicyjałami
pišaš elektronnyja j prosta listy
(apošnich usio mieniej)
vučyš anhielskuju movu
*I you don't love*
*I sometimes you don't want*
*(put the words in the right order[3])*

na poŭnač ad kachańnia
zabyvaješ smak vina vybiraješ
u šafcy harbatu — čornuju
z berhamotam
jaźminam
žeńšenievuju
imbirnuju

na poŭnač ad kachańnia
stukajecca ŭ dźviery
vietlivy maruda viečar —
znachodziš u šafcy z harbataj

klasyčnuju zialonuju
zavarvaješ
u tym samym kubku
z aleniem śviatoha Huberta
padychodziš da vakna
doŭha hladziš
na poŭdzień

---

3 Pastaŭcie słovy ŭ patrebnym paradku *(anh.)*.

**Клава**

ты выходзіш на ганак
шчасьлівая
з Понтам Эўксінскім
глыбіня сустракаецца
тваіх чорных вачэй
вечар сіні
зусім

ты круціла раман
летась
з князем грузінскім
а цяпер
твой абраньнік
паэт зь Яраслаўлю
Максім

ён чытаў табе вершы
і прагна кахаўся
нібы заўтра зьбіраўся
ў тагасьвецьце пайсьці
ён такі вынаходнік
адважны
няўрымсьлівы вершнік
ён такі...

сонца ўпала на ходнік
быў херас дапіты
пах дурманна язьмін
навяваючы сум
ён шукаў сабе рыфму
да слова ланіты
ты прылегла ў падушкі
і ўздыхнула: вазьмі...

Божа!
што ён шаптаў табе
ў вушка
ў міжножжа
у водар
дзьвюх прасьцінак
салёных ад поту
і не...
захлыналася ты
і хацеў адвярнуцца
нечы цёмны партрэт
на зялёнай сьцяне

ён казаў табе потым
тут грэкі любілі
і готы
тут вачыма прахожых
пранікліва скіфы
глядзяць
і пытаюцца моўчкі
адкуль ты і хто ты
і за кожнага зь іх
буду брацьцябе я

буду браць як
рабыню
гетэру
наяду
як русалку
з падводнага саду
дай мне яду
каханая
ад самоты

ты названая Клавай
бацькамі
і муж гэтак кліча
ну а ён Балаклавай
цябе ахрысьціў
гэта бухта
у Крыме
ён кажа:
ты — бухта
у ягоным кароткім
як чэрвень
жыцьці

ты лічыла што ён
не паэт —
вершаплётнік альбомны
з тых
якіх легіёны
і сьвет
іх трымае сабе на забаву

ды ўчора
ён на мове сваёй
прачытаў трыялет

ты зьдзівілася
келіх паўнюткі
здрыгануўся
ў тваёй паўнаватай руцэ
зразумела?
амаль нічагуткі!
Лацінскае «цэ»
на рэцэпце ягоным
шматзначна маўчала

сарамлівы партрэт
быў уражаны
мовы чужой таямніцай:
што такое ліхтарня
спакуса
дзяньніца?
што такое пясьняр?
мо — паэт?

ён валодае
магіяй словаў
іх музыкай
колерам
пахам
ён з паветра табе
можа выткаць

санэт
зьзяе зорка Вэнэра
на чэрвеньскім даху
ён — паэт!

ён прамовіў нядаўна
ў кафейні
употай:
каб нам разам аднойчы
патрапіць у рай
хоць на лета
забудзем
пра нашы сухоты
хоць на лета...
пачула ты: Лета

кане
леташні князь з-пад Цхінвалу
у Лету
што апроч удавіцы
пакіне?

набор пісталетаў?
ты належыш паэту
Вэнэра на мове яго —
Мілавіца

колькі вам засталося
піць херас
з Масандры
і любіцца нагбом
пад сузор’ем Касцы?
колькі вам засталося
на рызыку йсьці
ў той альтанцы
сярод маладых алеандраў?

ты выходзіш на ганак
шчасьлівая
з Понтам Эўксінскім
новы ранак
спаткаўся
і новы санэт
ты кахаеш!
ты ў вечнасьць
ужо адплываеш
твой каханы — паэт!

**Kłava**

ty vychodziš na ganak
ščaślivaja
z Pontam Eŭksinskim
hłybinia sustrakajecca
tvajich čornych vačej
viečar sini
zusim

ty kruciła raman
letaś
z kniaziem hruzinskim
a ciapier
tvoj abrańnik
paet ź Jarasłaŭlu
Maksim

jon čytaŭ tabie vieršy
i prahna kachaŭsia
niby zaŭtra źbiraŭsia
ŭ tahaśvieććie pajšci
jon taki vynachodnik
advažny niaŭrymślivy
vieršnik jon taki...

sonca ŭpała na chodnik
byŭ chieras dapity
pach durmanna jaźmin
naviavajučy sum

jon šukaŭ sabie ryfmu
da słova łanity
ty prylehła ŭ paduški i
ŭzdychnuła: vaźmi...

Boža!
što jon šaptaŭ tabie ŭ
vuška
ŭ mižnožža
u vodar
dźviuch praścinak
salonych ad potu
i nie...
zachłynałasia ty
i chacieŭ adviarnucca
niečy ciomny partret
na zialonaj ścianie

jon kazaŭ tabie potym
tut hreki lubili
i hoty
tut vačyma prachožych
pranikliva skify
hladziać
i pytajucca moŭčki
adkul ty i chto ty
i za kožnaha ź jich
budu brać ciabie ja

budu brać jak

rabyniu
hieteru
najadu
jak rusałku
z padvodnaha sadu
daj mnie jadu
kachanaja
ad samoty

ty nazvanaja Kłavaj
baćkami
i muž hetak kliča
nu a jon Bałakłavaj
ciabie achryściŭ
heta buchta
u Krymie
jon kaža:
ty — buchta
u jahonym karotkim
jak červień
žyćci

ty ličyła što jon
nie paet —
vieršaplotnik albomny
z tych
jakich lehijony
i śviet
jich trymaje sabie na zabavu
dy ŭčora

jon na movie svajoj
pračytaŭ tryjalet

ty ździviłasia
kielich paŭniutki
zdryhanuŭsia
ŭ tvajoj paŭnavataj ruce
zrazumieła?
amal ničahutki!
Łacinskaje «ce»
na recepcie jahonym
šmatznačna maŭčała

saramlivy partret
byŭ uražany
movy čužoj tajamnicaj:
što takoje lichtarnia
spakusa
dziańnica?
što takoje piaśniar?
mo — paet?

jon vałodaje
mahijaj słovaŭ
jich muzykaj
koleram
pacham
jon z pavietra tabie
moža vytkać
sanet

źziaje zorka Venera
na červieńskim dachu
jon — paet!

jon pramoviŭ niadaŭna
ŭ kafejni
upotaj:
kab nam razam adnojčy
patrapić u raj
choć na leta
zabudziem
pra našy suchoty
choć na leta...
pačuła ty: Leta

kanie
letašni kniaź z-pad Cchinvału
u Letu
što aproč udavicy
pakinie?

nabor pistaletaŭ?
ty naležyš paetu
Venera na movie jaho —
Miłavica

kolki vam zastałosia
pić chieras
z Masandry
i lubicca nahbom
pad suzorjem Kascy?
kolki vam zastałosia
na ryzyku jści
ŭ toj altancy
siarod maładych aleandraŭ?

ty vychodziš na ganak
ščaślivaja
z Pontam Eŭksinskim
novy ranak
spatkaŭsia
i novy sanet
ty kachaješ!
ty ŭ viečnaść
užo adpłyvaješ
tvoj kachany — paet!

## **Калі каго-небудзь баісься**

калі каго-небудзь баісься
уяві яго без майткоў

бязьлітаснага прафэсара
прыгажуню з суседняга дому
рэдактара-монстра
мэдсястру зь вялікім шпрыцом
міліцыянта з дручком
прэзыдэнта з вусамі

калі каго-небудзь баісься
пакруці яму нешта
каб заверашчаў
а калі гэта яна
вытні з адцяжкай
па важкім
ці худым
азадку

скажы
я цябе не баюся
я сам магу паставіць табе
два балы
зарэзаць тваю кнігу
зарэзаць цябе самога
зрабіць табе клізму
затрымаць цябе
для высьвятленьня асобы
выставіць сваю кандыдатуру
на прэзыдэнцкіх выбарах

калі каго-небудзь баісься
маеш нядрэнны рэцэпт
але што рабіць
калі баісься
самога сябе?

**Kali kaho-niebudź bajiśsia**

kali kaho-niebudź bajiśsia
ujavi jaho biez majtkoŭ

biaźlitasnaha prafesara
pryhažuniu z susiedniaha domu
redaktara-monstra
medsiastru ź vialikim šprycom
milicyjanta z dručkom
prezydenta z vusami

kali kaho-niebudź bajiśsia
pakruci jamu niešta
kab zavieraščaŭ a
kali heta jana
vytni z adciažkaj
pa važkim
ci chudym
azadku

skažy
ja ciabie nie bajusia
ja sam mahu pastavić tabie
dva bały
zarezać tvaju knihu
zarezać ciabie samoha
zrabić tabie klizmu
zatrymać ciabie
dla vyśviatleńnia asoby
vystavić svaju kandydaturu
na prezydenckich vybarach

kali kaho-niebudź bajiśsia
maješ niadrenny recept
ale što rabić
kali bajiśsia
samoha siabie?

## **Музэй гадзіньнікаў у Браціславе**

усё геніяльнае проста
на карціне ратуша
на ратушы гадзіньнік
ён насамрэч ідзе
паказвае сапраўдны час
на гадзіну меней
чым у Менску

а раптам і ўсё астатняе
пачне зараз рухацца
дама
выйдзе з экіпажу
пахолак
завабіць квятнярку
ў густы парк
злодзей
здабудзе сваё шчасьце
скраўшы ў купца з кішэні
залаты гадзіньнік
які таксама ажыве

табе заманецца
зьдзейсьніць тэлепартацыю
у тую рэчаіснасьць
стаць удзельнікам
і суўдзельнікам
але
ня дамай

не пахолкам
ня злодзеем
а — залатым гадзіньнікам

пражыць жыцьцё
залатога гадзіньніка
відаць было б цікава

дарэчы
гадзіньнік
падобны да чалавека
мае складаныя вантробы
ідзе
сьпяшаецца
спазьняецца
спыняецца
заводзіцца сам
вымагае каб яго
заводзілі
часам разьбіралі
глядзелі
што там усярэдзіне
мянялі шасьцярэньку

прыемна думаць
што недзе ёсьць майстра
які
сочыць за тваім мэханізмам
зазірае ў гарантыйны квіток
вызначае калі ты

ўжо ня будзеш
падлягаць рамонту
каб зрабіць цябе
дасканалай часткаю
пясочнага гадзіньніка
які ў суседняй вітрыне
яшчэ —
пясчынка
за
пясчынкай —
адлічвае
дні
твай-
го
не-
да-
ска-
на-
ла-
га
жыць-
ця

**Muzej hadzińnikaŭ u Bracisłavie**

usio hienijalnaje prosta
na karcinie ratuša
na ratušy hadzińnik
jon nasamreč idzie
pakazvaje sapraŭdny čas
na hadzinu mieniej
čym u Miensku

a raptam i ŭsio astatniaje
pačnie zaraz ruchacca
dama
vyjdzie z ekipažu
pachołak
zavabić kviatniarku
ŭ husty park
złodziej
zdabudzie svajo ščaście
skraŭšy ŭ kupca z kišeni
załaty hadzińnik
jaki taksama ažyvie

tabie zamaniecca
ździejśnić telepartacyju
u tuju rečajisnaść
stać udzielnikam
i suŭdzielnikam
ale
nia damaj

nie pachołkam
nia złodziejem
a — załatym hadzińnikam

pražyć žyćcio
załatoha hadzińnika
vidać było b cikava

darečy
hadzińnik
padobny da čałavieka
maje składanyja vantroby
idzie
śpiašajecca
spaźniajecca
spyniajecca
zavodzicca sam
vymahaje kab jaho
zavodzili
časam raźbirali
hladzieli
što tam usiaredzinie
mianiali šaściareńku

pryjemna dumać
što niedzie jość majstra
jaki
sočyć za tvajim mechanizmam
zaziraje ŭ harantyjny kvitok
vyznačaje kali ty

ŭžo nia budzieš
padlahać ramontu
kab zrabić ciabie
daskanałaj častkaju
piasočnaha hadzińnika
jaki ŭ susiedniaj vitrynie
jašče —
piasčynka
za
piasčynkaj —

adličvaje
dni
tvaj-
ho
nie-
da-
ska-
na-
ła-
ha
žyć-
cia

## 1864

*Вользе Някляевай*

я паміраў
а ты
сьпявала песьні
трымаючы нямоглую руку

канала наша воля
напрадвесьні
у мураўёўскім тым сакавіку

міне стагодзьдзе
рэінкарнаваны
прачнуся зноўку

сьвечка у райку
тваім успыхне

прыкладзеш да раны
мне вусны
на гаючым скразьняку

о dйja vu
у сьвеце гэтым цесным!
о тайніцы
ў фіранках ветрам гнаных!

мой інсургент пяшчотны —
уваскрэсьні!

я паміраў
а ты
сьпявала песьні

## 1864

*Volzie Niaklajevaj*

ja pamiraŭ
a ty
śpiavała pieśni
trymajučy niamohłuju ruku

kanała naša vola
napradvieśni
u muraŭjoŭskim tym sakaviku

minie stahodździe
reinkarnavany
pračnusia znoŭku

śviečka u rajku
tvajim uspychnie

prykładzieš da rany
mnie vusny
na hajučym skraźniaku

*o dŭja vu*
u śviecie hetym ciesnym!
o tajnicy
ŭ frankach vietram hnanych!

moj insurhient piaščotny —
uvaskreśni!

ja pamiraŭ
a ty
śpiavała pieśni

## **Ліст начальніку турмы**

добры дзень
спадар начальнік!
дарэчы
калі ён у цябе насамрэч добры?
калі нехта выходзіць на волю
або калі ў кайданках
прывозяць новага вязьня?
калі ў камэры зачыняюць
сэрыйнага забойцу
або паэта?
якая безьліч варыянтаў!
ня кожнаму так шанцуе

а яшчэ я падумаў
што ты кажаш спадарожніку
ў цягніку або самалёце
на пытаньне
кім працуеш?
дырэктарам гатэлю
мастацкім кіраўніком тэатру
інжынэрам чалавечых душ?

мне хацелася б ведаць
якія кнігі ў тваёй бібліятэцы?
Франсўа Віён?
том Оскара Ўайлда
з закладкай
на «Балядзе Рэдынгскай турмы»?
шматтомнік Якуба Коласа
што стагодзьдзе таму
сядзеў у давераных табе сьценах?
кнігі тых дваццаці
каго за адну ноч расстралялі тут
у 1937-м?

нехта зь іх надрапаў на тынку
РАДЗІМА
так дасёньня й засталося
кажуць
ты загадаў не зафарбоўваць
выдатная мэтафара!
гэты факт
толькі пацьвярджае чуткі
быццам ты сам
пішаш раман пра

хто там звоніць у дзьверы?
відаць і па мяне
прыйшлі

*20 сьнежня 2010*

**List načalniku turmy**

dobry dzień
spadar načalnik!
darečy
kali jon u ciabie nasamreč dobry?
kali niechta vychodzić na volu
abo kali ŭ kajdankach
pryvoziać novaha viaźnia?
kali ŭ kamery začyniajuć
seryjnaha zabojcu
abo paeta?
jakaja bieźlič varyjantaŭ!
nia kožnamu tak šancuje

a jašče ja padumaŭ
što ty kažaš spadaroŭniku
ŭ ciahniku abo samalocie
na pytańnie
kim pracuješ?
dyrektaram hatelu
mastackim kiraŭnikom teatru
inžyneram čałaviečych duš?

mnie chaciełasia b viedać
jakija knihi ŭ tvajoj biblijatecy?
Fransŭa Vijon?
tom Oskara Ŭajłda
z zakładkaj
na «Baladzie Redyngskaj turmy»?
šmattomnik Jakuba Kołasa
što stahodździe tamu
siadzieŭ u davieranych tabie ścienach?
knihi tych dvaccaci
kaho za adnu noč rasstralali tut
u 1937-m?

niechta ź jich nadrapaŭ na tynku
RADZIMA
tak dasiońnia j zastałosia
kažuć
ty zahadaŭ nie zafarboŭvać
vydatnaja metafara!
hety fakt
tolki paćviardžaje čutki
byccam ty sam
pišaš raman pra

chto tam zvonić u dźviery?
vidać i pa mianie
pryjšli

*20 śniežnia 2010*

## **Кіты**

на бераг выкідаюцца
кіты
чаго ім не хапае
грацыёзным
у іх стыхіі?
волі?
пекнаты?
запасу вастрыні
сталёвых лёзаў —
гнуткіх плаўнікоў
што зьведалі
і шторм і штыль
і сонца і прадоньне?
стаміліся
як Сальвадор Далі
у анфілядах
зыркага сутоньня?
ці можа проста захацелі
*тут*
пераканацца
*што* за Рубіконам:
нічога?
вечнасьць?
некалькі сэкунд
для разьвітальнае размовы
з Конам?

на бераг выкідаюцца
кіты
чаго ім не хапае
грацыёзным
у іх стыхіі?

некалі і ты
зрабіўшыся героем
адыёзным
свайго спэктаклю
выкінесься ў мора

цябе
насуплена сустрэне хтось
ля вузкай брамы
іншае прасторы
ён ведае
адкуль зьявіўся госьць

зьняможаны за доўгія вякі
спытаецца з усьмешкай
каматознай
зірнуўшы у бязьмежжа
з-пад рукі:
чаго вам не хапае
адыёзным
у той стыхіі?
волі?
пекнаты?
запасу вастрыні
сталёвых лёзаў?

**Kity**

na bierah vykidajucca
kity
čaho jim nie chapaje
hracyjoznym
u jich stychiji?
voli?
pieknaty?
zapasu vastryni
stalovych lozaŭ —
hnutkich płaŭnikoŭ
što źviedali
i štorm i štyl
i sonca i pradońnie?
stamilisia
jak Salvador Dali
u anfladach
zyrkaha sutońnia?
ci moža prosta zachacieli
*tut*
pierakanacca
*što* za Rubikonam:
ničoha?
viečnašć?
niekalki sekund
dla raźvitalnaje razmovy
z Konam?

na bierah vykidajucca
kity
čaho jim nie chapaje
hracyjoznym
u jich stychiji?

niekali i ty
zrabiŭšysia hierojem
adyjoznym
svajho spektaklu
vykinieśsia ŭ mora

ciabie
nasuplena sustrenie chtoś
la vuzkaj bramy
jinšaje prastory
jon viedaje
adkul źjaviŭsia hość

źniamožany za doŭhija viaki
spytajecca z uśmieškaj
kamatoznaj
zirnuŭšy u biaźmiežža z-
pad ruki:
čaho vam nie chapaje
adyjoznym
u toj stychiji?
voli?
pieknaty?
zapasu vastryni
stalovych lozaŭ?

## **Гісторыя зь Бярдзічавам**

якасьць дарог у Бярдзічаве
*желает быть лучшей*
з габрэйскім акцэнтам
папярэджвала Сеціва
якасьць ходнікаў у Бярдзічаве
жадае таго самага
думаеш ты на ўзьбярэжжы
велічнай калюжыны
дзе некалі гуляў у караблікі
тутэйшы малы з паважным імем
Тэадор Юзаф Конрад
яму бракавала штормаў і хваляў
урэшце зьехаў у Марсэль
ды паплыў сабе
да славы ангельскага клясыка
Джозэфа Конрада
во як бывае ў Бярдзічаве!

на тым баку вадаёму
сінеюць нечыя ногі —
манаха з кляштару босых кармэлітаў
паслалі ў маркет «Тэрыторыя Ані»
(трэба ж неяк адзначыць першы дзень зімы)
каб крама належала табе
можна было б пагуляцца з назваю
*акваторыя* гучыць больш эратычна
«Акваторыя Ані»
а лепей Тані
але Таня далёка
Аня таксама
ды яшчэ й малалетка
з кім яна скруцілася!

на гэтых завулках
часьцей трапляюцца Эвэліны
адна аблічыла ў кавярні на 10 грыўняў
другая нарадзіла Джозэфа Конрада
трэцяя ачмурыла Анарэ дэ Бальзака
а можа ён яе
зрэшты якая розьніца
калі Анарэ дэ
сьцьвярджаў што іхнія целы
ўвайшлі ў такую ж змову
як іхнія душы
сядзеў бы ціхамірна ў Парыжы
дык не —
папёрся ў Бярдзічаў
знайшоў сярод сынагогаў
касьцёл Сьвятой Барбары
у сакавіку павянчаўся
а ў жніўні
ўжо расказваў пра сваю Эвэлінку
сьвятой Барбары на нябёсах
вось табе й Чалавечая камэдыя!

тут такая канцэнтрацыя клясыкаў
ды Эвэлінаў
што табе заманецца

зьвесьці знаёмства
з кучаравай габрэечкай
наведаць зь ёй сынагогу
потым рэстаранчык «Алімп»
потым гатэль з назваю
якую хочацца сьпяваць:
Мір-ра-Бэл-ла
каб сказаць спадарожніцы:
давайце ўступім з вамі
ў выпадковую сувязь
раптам высьветліцца
што яна не выпадковая

вы станеце маёй Мірай
а найлепей Бэлай
і мы палётаем па-над Бярдзічавам
па-над Віцебскам
Адэсай
Парыжам
Ерусалімам
хто-небудзь з «Хамазу» скажа:
жыды ды яшчэ й лётаюць
зьбіць іх на х..!

будзеш шукаць сваю Бэлу
на рынку
дзе купіш кашэрнага сала
у краме «Рыба»
дзе купіш «Мукузані»
у салёне «Мішэль»
дзе згадаеш Шэлю
заўсёдніцу тваіх юначых сноў
якой табе будзе востра не ставаць
на вуліцы імя таварыша Лібкнэхта:
у камяніцы з драўлянымі ўсходамі —
на шырозным утульным падвоканьні
паміж першым і другім паверхамі
целы маглі б заключыць
саюзную дамову
без анэксіяў і кантрыбуцый

будзеш шукаць яе
Бэлу ці Шэлю
(ты ўжо ня ўпэўнены каго болей)
у кляштары Босых кармэлітаў
дзе прыбрамнік дагэтуль ня бачыў зданяў
а ў руках у яго вясло ключоў
а клічуць яго
не паверыце
Пятром!

хто сказаў
што ў Бярдзічаве засталося
ўсяго дзьве сотні
спажыўцоў мацы?
на старых габрэйскіх могілках
пад сухімі парасонамі баршчэўніка
тысяча за тысячай
пакагальна
сыходзяць за далягляд

каменныя валёнкі помнікаў
мыскі ўгору
надпісы на падэшвах
іўрыт
ідыш
зрэдку расейская
колькі словаў каб ня зьбіцца з курсу
ты пакінеш свае каардынаты
на арэхавым дрэве
твая Бэла
адразу адгукнецца!

яе будуць зваць Сурай
Суры Шэйнбліт
народжанай Малканзон
не пашанцавала памерці
на пачатку мінулага стагодзьдзя
Сура Шэйнбліт
народжаная Малканзон
не пабачыла самага цікавага
першай усясьветнай
пагромаў
рэвалюцыі
чырвоных і белых
дэманстрацый і варанкоў
Сура Шэйнбліт
народжаная Малканзон
ня стала Шурай

не ўступіла ў камсамол
не зрабілася сьледчай або падсьледнай
НКВД
не была расстраляная
даўгалыгімі хлопцамі
з зорачкамі
або падхорцістымі хлопцамі
з свастыкамі
*почувствуйте разницу!*

Сура Шэйнбліт
народжаная Малканзон
(калі ейны валёнак ня хлусіць)
засталася
*незабвенной женой и матерью*
ня вырвалася з гета
ня зьехала на зямлю запаветную
не напісала табе
*я так интересуюсь знать*
*как твоё драгоценное здоровье*
не прыслала запрашэньня
не сьпякла госьцю тэйгелэх
не аддалася як Суламіт
не запыталася
чаму ты любіш
кучаравых габрэечак
*не был ли ты в детстве евреем?*

унучка Суры Шэйнбліт
дачакаецца цябе ля брамы

папросіць

*немножко денег*

заўтра ёй спаўняецца восемдзесят тры

*можно приходить с подарками*

чацьверты ад могілак дом пад яблыняй
не давайце ніякіх грошай мэсье

ёй гадоў на дваццаць меней
прашэпча табе Анарэ дэ
мо яна яшчэ бальзакаўскага веку?
адкажаш ты жмінду-французу
даючы габрэйцы 20 грыўняў
думаючы
каго яна ўвасабляе
на гэтых бясконцых кладах?
хіба незразумела?
хіхікне Анарэ дэ
прыжыўся халера ў Бярдзічаве!

але ў нашых палястынах
Сьмерць ніколі ня просіць
просіць Любоў —
сустрэчаў
узаемнасьці
пяшчоты
жарсьці
вернасьці
лістоў
званкоў
эсэмэсак
радасьці
болю

*немножко денег*

просіць — Любоў!

ужо ў цягніку не дасі сабе веры
што гэтая гісторыя зь Бярдзічавам
як і ўсе гісторыі на сьвеце
пачалася й скончылася
невядома навошта

## **Historyja ź Biardzičavam**

jakaść daroh u Biardzičavie
*żełajet byt' łučšej*
z habrejskim akcentam
papiaredžvała Sieciva
jakaść chodnikaŭ u Biardzičavie
žadaje taho samaha
dumaješ ty na ŭźbiarežžy
vieličnaj kalužyny
dzie niekali hulaŭ u karabliki
tutejšy mały z pavažnym jimiem
Teador Juzaf Konrad
jamu brakavała štormaŭ i chvalaŭ
urešcie źjechaŭ u Marsel
dy papłyŭ sabie
da słavy anhielskaha klasyka
Džozefa Konrada
vo jak byvaje ŭ Biardzičavie!

na tym baku vadajomu
siniejuć niečyja nohi —
manacha z klaštaru bosych karmelitaŭ
pasłali ŭ markiet «Terytoryja Ani»
(treba ž niejak adznačyć pieršy dzień zimy)
kab krama naležała tabie
možna było b pahulacca z nazvaju
*akvatoryja* hučyć bolš eratyčna
«Akvatoryja Ani»
a lepiej Tani
ale Tania daloka
Ania taksama
dy jašče j małaletka
z kim jana skruciłasia!

na hetych zavułkach
čaściej traplajucca Eveliny
adna abličyła ŭ kaviarni na 10 hryŭniaŭ
druhaja naradziła Džozefa Konrada
treciaja ačmuryła Anare de Balzaka
a moža jon jaje
zrešty jakaja roźnica
kali Anare de
śćviardžaŭ što jichnija ciełу
ŭvajšli ŭ takuju ž zmovu jak
jichnija dušy
siadzieŭ by cichamirna ŭ Paryžy
dyk nie —
papiorsia ŭ Biardzičaŭ
znajšoŭ siarod synahohaŭ
kaścioł Śviatoj Barbary
u sakaviku paviančaŭsia
a ŭ žniŭni
ŭžo raskazvaŭ pra svaju Evelinku
śviatoj Barbary na niabiosach
voś tabie j Čałaviečaja kamedyja!

tut takaja kancentracyja klasykaŭ
dy Evelinaŭ
što tabie zamaniecca

źvieści znajomstva
z kučaravaj habrejeĉkaj
naviedać ź joj synahohu
potym restarančyk «Alimp»
potym hatel z nazvaju
jakuju chočacca śpiavać:
Mir-ra-Beł-ła
kab skazać spadarožnicy:
davajcie ŭstupim z vami
ŭ vypadkovuju suviaź
raptam vyśvietlicca
što jana nie vypadkovaja

vy staniecie majoj Miraj
a najlepiej Bełaj
i my palotajem pa-nad Biardzičavam pa-
nad Viciebskam
Adesaj
Paryžam
Jerusalimam
chto-niebudź z «Chamazu» skaža:
žydy dy jašče j lotajuć
źbić jich na ch..!

budzieš šukać svaju Bełu na
rynku
dzie kupiš kašernaha sała u
kramie «Ryba»
dzie kupiš «Mukuzani»
u salonie «Mišel»

dzie zhadaješ Šelu
zaŭsiodnicu tvajich junačych snoŭ
jakoj tabie budzie vostra nie stavać
na vulicy imia tavaryša Libknechta:
u kamianicy z draŭlanymi ŭschodami —
na šyroznym utulnym padvokańni pamiž
pieršym i druhim pavierchami ciełу
mahli b zaklučyć
sajuznuju damovu
biez aneksijaŭ i kantrybucyj

budzieš šukać jaje
Bełu ci Šelu
(ty ŭžo nia ŭpeŭnieny kaho bolej)
u klaštary Bosych karmelitaŭ
dzie prybramnik dahetul nia bačyŭ zdaniaŭ
a ŭ rukach u jaho viasło klučoŭ
a kličuć jaho
nie pavierycie
Piatrom!

chto skazaŭ
što ŭ Biardzičavie zastałosia
ŭsiaho dźvie sotni
spažyŭcoŭ macy?
na starych habrejskich mohiłkach
pad suchimi parasonami barščeŭnika
tysiača za tysiačaj
pakahalna
sychodziać za dalahlad

kamiennyja valonki pomnikaŭ
myski ŭhoru
nadpisy na padešvach
iŭryt
idyš
zredku rasiejskaja
kolki słovaŭ kab nia źbicca z kursu
ty pakinieš svaje kaardynaty
na arechavym drevie
tvaja Beła
adrazu adhukniecca!

jaje buduć zvać Suraj
Sury Šejnblit
narodžanaj Małkanzon
nie pašancavała pamierci
na pačatku minułaha stahodździa
Sura Šejnblit
narodžanaja Małkanzon
nie pabačyła samaha cikavaha
pieršaj usiaśvietnaj
pahromaŭ
revalucyji
čyrvonych i biełych
demanstracyj i varankoŭ
Sura Šejnblit
narodžanaja Małkanzon
nia stała Šuraj
nie ŭstupiła ŭ kamsamoł
nie zrabiłasia śledčaj abo padślednaj
NKVD
nie była rasstralanaja
daŭhałyhimi chłopcami
z zoračkami
abo padchorcistymi chłopcami
z svastykami
*počuvstvujtie raznicu!*

Sura Šejnblit
narodžanaja Małkanzon
(kali jejny valonak nia chłusić)
zastałasia
*niezabviennoj ženoj i matier'ju*
nia vyrvałasia z hieta
nia źjechała na ziamlu zapavietnuju
nie napisała tabie
*ja tak intieriesujuś znat'*
*kak tvojo dragocennoje zdorov'je*
nie prysłała zaprašeńnia
nie śpiakła hościu tejhiełech
nie addałasia jak Sułamit
nie zapytałasia
čamu ty lubiš
kučaravych habreječak
*nie był li ty v dietstvie jevriejem?*

unučka Sury Šejnblit
dačakajecca ciabie la bramy
paprosić
*niemnožko dienieg*
zaŭtra joj spaŭniajecca vosiemdziesiat try
*možno prichodit’ s podarkami*
čaćvierty ad mohiłak dom pad jabłyniaj
nie davajcie nijakich hrošaj meśje

joj hadoŭ na dvaccać mieniej
prašepča tabie Anare de
mo jana jašče balzakaŭskaha vieku?
adkažaš ty žmindu-francuzu dajučy
habrejcy 20 hryŭniaŭ dumajučy
kaho jana ŭvasablaje
na hetych biaskoncych kładach?
chiba niezrazumieła?
chichiknie Anare de
pryžyŭsia chalera ŭ Biardzičavie!

ale ŭ našych palastynach
Śmierć nikoli nia prosić
prosić Luboŭ —
sustrečaŭ
uzajemnaści
piaščoty
žarści
viernaści
listoŭ
zvankoŭ
esemesak
radaści
bolu
*niemnožko dienieg*
prosić — Luboŭ!

užo ŭ ciahniku nie dasi sabie viery
što hetaja historyja ź Biardzičavam
jak i ŭsie historyji na śviecie
pačałasia j skončyłasia
nieviadoma navošta

## Два сінія цені

блукалі па сьнезе
два сінія цені
трымцелі ў паветры
струмкі летуценьняў
аб іх разьбіваўся
вар’яцкі вятрыска
мароз падмалёўваў
ад герпэсу рыску
на зьмерзлай шчацэ
стылі ногі ў красоўках
хваіны на выдмах
замёрлі ў масоўках

сышліся на сьнезе
два сінія цені
гусьцелі ў сумётах
сутоньня адценьні
і рукі ў пальчатках
зьляталіся блізка
бакланам таксама
хацелася ўіскі
пагрэцца спусьціліся
рыжыя сойкі
ўгляддаліся прагна
у нашу ссабойку

даўжэлі на сьнезе
два сінія цені
ў дзьвюх душах
паволі каналі сумненьні
ля ног прытулілася
верная пляшка

ў мурашніку
сьнілася лета мурашкам
на вушку зьявілася
белая плямка
і вусны крануліся вуснаў
як клямкі

зьнікалі на сьнезе
два сінія цені
а мы
адрывацца ад іх не хацелі
цяпла засталося
на саменькім донцы
у мора нырнула
прадрыглае сонца
ці ведаў
марскі віскуценьнік заціяты
якое ў вачах нашых
грэецца сьвята?

расталі на сьнезе
два сінія цені
у сінюю вечнасьць
яны адляцелі
і пляшку схавала

падступная дуйка
і чайка здранцьвела крычала:
ратуйся!
а мы не збаяліся
мы абняліся
а мы засьмяяліся
і — засталіся!

**Dva sinija cieni**

błukali pa śniezie
dva sinija cieni
trymcieli ŭ pavietry
strumki letucieńniaŭ
ab jich raźbivaŭsia
varjacki viatryska
maroz padmaloŭvaŭ
ad hierpesu rysku
na źmierzłaj ščace
styli nohi ŭ krasoŭkach
chvajiny na vydmach
zamiorli ŭ masoŭkach

syšlisia na śniezie dva
sinija cieni huścieli
ŭ sumiotach
sutońnia adcieńni
i ruki ŭ palčatkach
źlatalisia blizka
bakłanam taksama
chaciełasia ŭiski
pahrecca spuścilisia
ryžyja sojki
ŭhladalisia prahna
u našu ssabojku

daŭželi na śniezie
dva sinija cieni

ŭ dźviuch dušach pavoli
kanali sumnieńni la noh
prytuliłasia viernaja
plaška

ŭ murašniku
śniłasia leta muraškam
na vušku źjaviłasia
biełaja plamka
i vusny kranulisia vusnaŭ
jak klamki

źnikali na śniezie
dva sinija cieni
a my
adryvacca ad jich nie chacieli
ciapła zastałosia
na samieńkim doncy
u mora nyrnuła
pradryhłaje sonca
ci viedaŭ
marski viskucieńnik zaciaty
jakoje ŭ vačach našych
hrejecca śviata?

rastali na śniezie
dva sinija cieni
u siniuju viečnaść
jany adlacieli
i plašku schavała

padstupnaja dujka
i čajka zdranćvieła kryčała:
ratujsia!
a my nie zbajalisia
my abnialisia
a my zaśmiajalisia
i — zastalisia!

## **Калі паміраюць паэты**

авіялайнэры
цешаць акулаў
пачастункам
калі тэхнікі
не знаходзяць перад палётам
ніводнае хібы

банкі
разьвітваюцца з грашыма
калі сыстэма аховы
працуе бездакорна
а таму
налётчыкаў
не чакаюць неспадзяванкі

фэльдмаршалы
капітулююць
назаўтра пасьля таго
як атрымалі гэтае званьне
пасьпеўшы пасла ць фюрэру
удзячную тэлеграму

алені
падаюць на мох
з прабітым куляю сэрцам
шчасьлівыя й лёгкія
ад спатканьня
з аляніцамі

паэты
паміраюць
калі нарэшце
адчуюць сябе ў згодзе
з усім сьветам

твае бясконцыя ўцёкі
ад яе
будуць узнагароджаныя
у першай палове
гэтага стагодзьдзя

зрэшты
памежніца
з Барсэлёнскага аэрапорту
сёлета
ўражана нагадала:
твой пашпарт
сапраўдны
да 25 жніўня 2053 году

**Kali pamirajuć paety**

avijałajnery
ciešać akułaŭ
pačastunkam
kali techniki
nie znachodziać pierad palotam
nivodnaje chiby

banki
raźvitvajucca z hrašyma
kali systema achovy
pracuje biezdakorna
a tamu
nalotčykaŭ
nie čakajuć niespadziavanki

feldmaršały
kapitulujuć
nazaŭtra paśla taho
jak atrymali hetaje zvańnie
paśpieŭšy pasłać fureru
udziačnuju telehramu

aleni
padajuć na moch
z prabitym kulaju sercam
ščaślivyja j lohkija
ad spatkańnia
z alanicami

paety
pamirajuć
kali narešcie
adčujuć siabie ŭ zhodzie
z usim śvietam

tvaje biaskoncyja ŭcioki
ad jaje
buduć uznaharodžanyja
u pieršaj pałovie
hetaha stahodździa

zrešty
pamiežnica
z Barselonskaha aeraportu
sioleta
ŭražana nahadała:
tvoj pašpart
sapraŭdny
da 25 žniŭnia 2053 hodu

**Інданэзія**

у Інданэзіі
таксама жывуць людзі
асабліва на Яве
адзін прыехаў у Менск вучыцца
зрабіў аднакурсьніцы дачку
вярнуўся да сваіх сланоў

дачка атрымалася
шакалядавая
кучаравая
грудзі чацьвертага памеру
мастачка
афармляе дзіцячыя кніжкі
чытае ў інтэрнэце пра Інданэзію
намалявала ў беларускай казцы
вусатую малпу

на Яве
сустракаюцца
вульканы
дзікія буйвалы й пітоны
бацька-прафэсар

на яве
ёсьць
аднапакаёўка
сьмешныя ганарары
хлопец-беларус
яна так і кліча яго —
беларус
часам зь вялікай літары
часам з малой

беларус піша вершы
кажа
у яе гарачая кроў
ён таксама ня рыба
іначай не былі б разам
два гады
яна малодшая якраз на столькі
й старэйшая
на цэлую Інданэзію

на дзень нараджэньня
беларус дорыць ёй
кнігу пра возера Сьвіцязь
там жыве водарасьць
Tetradinium javanicum
водзіцца апрача Беларусі
толькі на Яве

на яве
яны едуць у суботу на Сьвіцязь
кахаюцца ў лодцы
парачка на беразе ўсё бачыць
пачынае займацца тым самым
няхай жыве салідарнасьць!

у нашых шыротах верасень
у празрыстай вадзе
раскашуе Tetradinium
беларус просіць пацалаваць *яго*
вядома не javanicum
(ну вы разумееце)
у працэсе чытае ёй вершы
сярод тутэйшых паэтаў
вычварэнцаў значна больш
чым здаецца

вечар
бяздонна зорны
цёплы ад херасу
вуснаў
слоў пазбаўленых цэнзуры
можна купацца цеяшом
аддавацца на карме
каленкам крыху балюча

на Яве
гарэзяць насарогі
любяцца ў джунглях
залацістыя макакі
фантазія абязбольвае

на яве
ідзе па прычале
вожык
замірае
глядзіць на іх
яна ўспамінае прыказку
беларускай бабулі
*спалохалася як вожык голай сракі*
сьмяецца
ускрыквае ад асалоды
беларус умее доўжыць
гэтыя імгненьні

вожык
тупаціць ножкамі па кладцы
раскажа усё
сваёй girlfriend
цікава якія зоркі
на Яве?

на яве
беларус напіша пра той вечар
даўжэзны верш
яна папросіць:
назаві яго
Інданэзія

**Indanezija**

u Indaneziji
taksama žyvuć ludzi
asabliva na Javie
adzin pryjechaŭ u Miensk vučycca
zrabiŭ adnakurśnicy dačku
viarnuŭsia da svajich słanoŭ

dačka atrymałasia
šakaladavaja
kučaravaja
hrudzi čaćviertaha pamieru
mastačka
afarmlaje dziciačyja knižki
čytaje ŭ internecie pra Indaneziju
namalavała ŭ biełaruskaj kazcy
vusatuju małpu

na Javie
sustrakajucca
vulkany
dzikija bujvały j pitony
baćka-prafesar

na javie
jość
adnapakajoŭka
śmiešnyja hanarary
chłopiec-biełarus
jana tak i kliča jaho —
biełarus
časam ź vialikaj litary
časam z małoj

biełarus piša vieršy
kaža
u jaje haračaja kroŭ
jon taksama nia ryba
inačaj nie byli b razam
dva hady
jana małodšaja jakraz na stolki j
starejšaja
na cełuju Indaneziju

na dzień naradžeńnia
biełarus doryć joj
knihu pra voziera Śviciaź
tam žyvie vodaraść
Tetradinium javanicum
vodzicca apreča Biełarusi
tolki na Javie

na javie
jany jeduć u subotu na Śviciaź
kachajucca ŭ łodcy
paračka na bierazie ŭsio bačyć
pačynaje zajmacca tym samym
niachaj žyvie salidarnaść!

u našych šyrotach vierasień u
prazrystaj vadzie raskašuje
Tetradinium
biełarus prosić pacałavać *jaho*
viadoma nie javanicum
(nu vy razumiejecie)
u pracesie čytaje joj vieršy
siarod tutejšych paetaŭ
vyčvarencaŭ značna bolš
čym zdajecca

viečar
biazdonna zorny
ciopły ad chierasu
vusnaŭ
słoŭ pazbaŭlenych cenzury
možna kupacca cielašom
addavacca na karmie
kalenkam krychu baluča

na Javie
hareziać nasarohi
lubiacca ŭ džunhlach
załacistyja makaki
fantazija abiazbolvaje

na javie
idzie pa pryčale
vožyk
zamiraje
hladzić na jich
jana ŭspaminaje prykazku
biełaruskaj babuli
*spałochałasia jak vožyk hołaj sraki*
śmiajecca
uskrykvaje ad asałody
biełarus umieje doŭžyć
hetyja imhnieńni

vožyk
tupacić nožkami pa kładcy
raskaža usio
svajoj *girlfriend*
cikava jakija zorki
na Javie?

na javie
biełarus napiša pra toj viečar
daŭžezny vierš
jana paprosić:
nazavi jaho
Indanezija

**Рок-Айлэнд —**
Полацак

нью-ёрская сьпёка
сплывае
бягомальскай расою
па клубах
зялёных кухляў

з паэтам Янкам Юхнаўцом
смокчам «Гінэс»
у ірляндзкім пабе
за стойкаю —
у Злучаных Штатах Павукоў —
аб’ява:
учора ў тэатры
актор Бутс
сьмяротна параніў
прэзыдэнта Лінкальна
паліцыя дагэтуль
абяцае ўзнагароду
за новыя зьвесткі

разьлічваецца ён
ня Лінкальн
ня Бутс
Юхнавец
я заплачу ў Полацку
у Бягомлі ён не дазволіць
у хвалях Guinness’у
ўжо відаць
нашая краіна
сёньня
яна атрымала
выйсьце да мора

на даляглядзе
зьзяе агнямі
прыморскі Бягомаль
там няма пабаў
ёсьць буфэт на аўтастанцыі
летась над ёю
глуханямы хлопец
узьняў
бел-чырвона-белы сьцяг
вымоўчваў
пакуль не прыехалі мянты
антыдзяржаўны лёзунг
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Янка Юхнавец
не пасьпее прыехаць туды
дзе глуханямыя
галёкаюць на ўсё навакольле
палохаючы мядзьведзяў
і партызанаў
даведаецца што
такое кома

астатні раз зварухне вейкам
пачуўшы свае вершы
зь менскага часопісу

вершы не гараць
паэты
гараць ня горай за іншых
(спытайцеся ў крэматорыях)

попел
разьвеюць
над Рок-Айлэндам

глуханямы хлопец
купіць у Бягомлі
пляшку таннага віна

я ўпершыню падумаю
ці ня стаць і мне —
калі ўсё скончыцца —
ветрам

**Rok-Ajlend —**
Połacak

ńju-jorskaja śpioka
spływaje
biahomalskaj rasoju
pa kłubach
zialonych kuchlaŭ

z paetam Jankam Juchnaŭcom
smokčam «Guinness»
u irlandzkim pabie
za stojkaju —
u Złučanych Štatach Pavukoŭ —
abjava:
učora ŭ teatry
aktor Buts
śmiarotna paraniŭ
prezydenta Linkalna
palicyja dahetul
abiacaje ŭznaharodu
za novyja źviestki

raźličvajecca jon
nia Linkaln
nia Buts
Juchnaviec
ja zapłaču ŭ Połacku
u Biahomli jon nie dazvolić

u chvalach «Guinnessu»
ŭžo vidać
našaja krajina
siońnia
jana atrymała
vyjście da mora

na dalahladzie
źziaje ahniami
prymorski Biahomal
tam niama pabaŭ
jość bufet na aŭtastancyji
letaś nad joju
hłuchaniamy chłopiec
uźniaŭ
bieł-čyrvona-biełу ściah
vymoŭčvaŭ
pakul nie pryjechali mianty
antydziaržaŭny lozunh
žYVIE BIEŁARUŚ!

Janka Juchnaviec
nie paśpieje pryjechać tudy
dzie hłuchaniamyja
halokajuć na ŭsio navakolle
pałochajučy miadźviedziaŭ
i partyzanaŭ
daviedajecca
što takoje koma

astatni raz zvaruchnie viejkam
pačuŭšy svaje vieršy
ź mienskaha časopisu

vieršy nie harać
paety
harać nia horaj za jinšych
(spytajciesia ŭ krematoryjach)

popieł
raźviejuć
nad Rok-Ajłendam

hłuchaniamy chłopiec
kupić u Biahomli
plašku tannaha vina

ja ŭpieršyniu padumaju
ci nia stać i mnie —
kali ŭsio skončycca —
vietram

## **Поўня**

там дзе 100-ты аўтобус
лянотна
паўзе
угару
я з табой
праз мабільнік стары
гавару

ты ў Ванкувэры
розьніца дзесяць гадзінаў
як табе
удалося
зрабіцца адзінай?
як табе
удалося
за месяц прысьніцца
шэсьць разоў?
(мы з табой і ў брусьніцы
хадзілі
й мядзьведзя сустрэлі)
а ці помніш
зламаныя тыя арэлі?
а ці помніш
тэкілу бяз солі
зато з шакалядам?
а заместа лімона
было авакада

а ці помніш
як ліст
ты звычайнаю поштай
прыслала
з таго самага гораду
Менску

аднекуль з вакзалу?
а ці помніш
сьпякоту
чарэшню
і ягадных мушак?
а ці помніш
прысутнасьць
зьняверанных душаў
у Чырвоным касьцёле
і ў бары «У Янкі»?
а ці помніш урэшце
разьбітыя шклянкі
па дарозе на Коўну?
(кандуктарка злосна чакае)
падымалася поўня
ты помніш?

у Ванкувэры вашым
у вашым сусьвеце
што на дзесяць гадзінаў адстаў
засьмяяліся дзеці
*go to sleep*
кажаш ты

і маўчыш
падымалася поўня!
я крычу
падымалася поўня!
ты помніш?
(я вас высаджу
кажа кандуктарка
ці завязу
у Навінкі)

мы пілі
у аўтобусе вінчык
чылійскі
і поўня
усплывала над лесам
і сьпела
як жоўтая сьліва
як жаданьне
аўтобус
зусім быў няпоўны
і зьліва
набліжалася…
помніш
як поўня?..

і дыхнула з мабільніка
шчасьцем:
я
помню!

**Poŭnia**

tam dzie 100-ty aŭtobus
lanotna
paŭzie
uharu
ja z taboj
praz mabilnik stary
havaru

ty ŭ Vankuvery
roźnica dziesiać hadzinaŭ
jak tabie
udałosia zrabicca
adzinaj? jak tabie
udałosia
za miesiac pryśnicca
šeść razoŭ?
(my z taboj i ŭ brušnicy
chadzili
j miadźviedzia sustreli)
a ci pomniš
złamanyja tyja areli?
a ci pomniš
tekiłu biaz soli
zato z šakaladam?
a zamiesta limona
było avakada

a ci pomniš
jak list
ty zvyčajnaju poštaj
prysłała
z taho samaha horadu
Miensku

adniekul z vakzału?
a ci pomniš špiakotu
čarešniu
i jahadnych mušak? a
ci pomniš prysutnaść
źniavieranych dušaŭ
u Čyrvonym kaściole
i ŭ bary «U Janki»?
a ci pomniš urešcie raźbityjašklanki
pa darozie na Koŭnu?
(kanduktarka złosna čakaje)
padymałasia poŭnia
ty pomniš?

u Vankuvery vašym
u vašym suśviecie
što na dziesiać hadzinaŭ adstaŭ
zaśmiajalisia dzieci
*go to sleep*
kažaš ty i
maŭčyš
padymałasia poŭnia!
ja kryču
padymałasia poŭnia!
ty pomniš?
(ja vas vysadžu
kaža kanduktarka
ci zaviazu
u Navinki)

my pili
u aŭtobusie vinčyk
čylijski
i poŭnia
uspłyvała nad lesam
i śpieła
jak žoŭtaja śliva
jak žadańnie
aŭtobus
zusim byŭ niapoŭny
i źliva
nabližałasia…
pomniš
jak poŭnia?..

i dychnuła z mabilnika
ščaściem:
ja
pomniu!

**Мая любая складаецца з шуфлядак**

мая любая
складаецца
з шуфлядак

у адной
уладкаваўся
сьветлы настрой
у другой
варушыцца
нешта паласатае і ў кратку
у трэцюю
страшна й зазіраць

у гэтай
прыгрэліся
кацяняты добрых сноў
у наступнай
прыціснутыя
камянямі бяссонных начэй
кашмары

у шуфлядзе з кніжкамі
ідэальны парадак
усё паводле альфабэту
як у бібліятэцы
Акутагава
Борхэс
Ван Мэй

шуфляда-аптэчка
з куточкам контрацэптываў
а тут
бруяцца
водары парфумы
запальваюць
быццам падабраныя
добрай ці злой вядзьмаркай

гарады
дзе мая любая
была шчасьлівая
Адэса
Амстэрдам
Варшава
Полацак
чамусьці Чарнаўцы

у суседняй шуфлядзе
плешчацца мора
дзе мая любая
ледзь не пайшла на дно
дагэтуль не разумею
танула
ці тапілася

а вось
ранейшыя мужчыны

маёй любай
такія зь сябе пэрсанажы
тэатру марыянэтак
пераважна чарнявыя
адзін агніста-рыжы
адзін лысы
адзін чарнаскуры
а вунь той смуглявы
заколаты шпількай

да нашае эры
склалася багатая калекцыя
усё вельмі прыстойна
паважныя экзэмпляры
ў гарнітурах
часам швэдры і джынсы
у горшым разе
шорты й саколкі
на адной
камандантэ Фідэль

побач
у асобнай
камфартабэльнай шуфлядцы
самоціцца
кучаравая зеленавокая шатэнка —
на наша мужчынскае шчасьце
лесьбійскі досьвед
маёй любай
застаўся адзіным

учора
калі мая любая
стамлёна заснула
я пяшчотна вызваліўся
зь ейных абдымкаў
адчыніў шуфлядку для любага
і заместа сябе
знайшоў там
свайго даўняга
сябра

**Maja l*u*baja składajecca z šufadak**

maja l*u*baja
składajecca
z šufadak

u adnoj
uładkavaŭsia
švietły nastroj
u druhoj
varušycca
niešta pałasataje i ŭ kratku
u treciuju
strašna j zazirać

u hetaj
pryhrelisia
kacianiaty dobrych snoŭ
u nastupnaj
prycisnutyja
kamianiami biassonnych načej
kašmary

u šufadzie z knižkami
idealny paradak
usio pavodle alfabetu
jak u biblijatecy
Akutahava
Borches
Van Mej

šufada-aptečka
z kutočkam kontraceptyvaŭ
a tut
brujacca
vodary parfumy
zapalvajuć
byccam padabranyja
dobraj ci złoj viadźmarkaj

harady
dzie maja lubaja
była ščaślivaja
Adesa
Amsterdam
Varšava
Połacak
čamušci Čarnaŭcy

u susiedniaj šufadzie
pleščacca mora
dzie maja lubaja
ledź nie pajšła na dno
dahetul nie razumieju
tanuła
ci tapiłasia

a voś
raniejšyja mužčyny

majoj lubaj
takija ź siabie persanažy
teatru maryjanetak
pieravažna čarniavyja
adzin ahnista-ryžy
adzin łysy
adzin čarnaskury
a vuń toj smuhlavy
zakołaty špilkaj

da našaje ery
skłałasia bahataja kalekcyja
usio vielmi prystojna
pavažnyja ekzemplary
ŭ harniturach
časam švedry i džynsy
u horšym razie
šorty j sakołki
na adnoj
kamandante Fidel

pobač
u asobnaj
kamfartabelnaj šufadcy
samocicca
kučaravaja zielenavokaja šatenka —
na naša mužčynskaje ščaście leśbijski
dośvied
majoj lubaj
zastaŭsia adzinym

učora
kali maja lubaja
stamlona zasnuła
ja piaščotna vyzvaliŭsia
ź jejnych abdymkaŭ
adčyniŭ šufadku dla l*u*baha
i zamiesta siabie
znajšoŭ tam
svajho daŭniaha
siabra

## **Сэкс прыдумалі зулусы**

*футбольнаму чэмпіянату сьвету — 2010*
*ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы*
*прысьвячаецца*

сэкс прыдумалі зулусы
у саваньне
ваньне
раньнем
з выляжанкаю на стайні
з жонкаю у роднай спальні
на ліянах і абрусах
на сваім стракатым сьцязе
на гарышчы ў Златай Празе

сэкс прыдумалі зулусы
ў кабінэце
на касэце
у Валеце
пад трыбунамі ў клязэце
ў чаўнах і інтэрнэце
ў сельсавеце і улусе
між гібонаў на сафары
у футболцы з Чэ Геварам

сэкс прыдумалі зулусы
вечны
спрэчны
небясьпечны
як пэнальці бессардэчны
пад кустом і Шляхам Млечным
з уругвайкай ды індусам
на сьняданак і ў сіесту
перад тым як цябе зьесьці

сэкс прыдумалі зулусы
з твістам
сьвістам
і расістам
з рэфэры і футбалістам
за більярдам і за вістам
з украінкай і тунгусам
кожны вечар канібалы
набіраюць сабе балы

сэкс прыдумалі зулусы
хай сабе і беларусы
і з хет-трыкам і квартэтам
з асырыйкаю і хетам
але я хачу каханьня
хоць глыток на адвітаньне
з гэтым летам-прайдзісьветам
з форвардаў кардэбалетам
зь недаробленым мінэтам
на ўзьбярэжжы пад Лярэтам
дзе у каталёнскім моры
мы з табой тапілі сорам

сэкс прыдумалі зулусы

хай сабе і беларусы
з пляшкай ўіскі й трыялетам
у аўтобусе і ў гета
але я хачу каханьня
хоць глыток на адвітаньне
з гэтым летам-пустацьветам
з выйграным адзіным сэтам
з праязным чужым білетам
з падарожжам кругасьветным
між Кейптаўнам і Менскам
на тваім фатэлі венскім

сэкс прыдумалі зулусы
хай сабе і беларусы
зь фінкаю і пісталетам
з карсіканкай і вэндэтай
але я хачу каханьня
хоць глыток на адвітаньне
з гэтым ліпенем што ў Лету
адплывае ў сандалетах
з гэтым жніўнем і з кабетай
што даўно ня мной сагрэта
ды прысьнілася ў нядзелю
ў вувузэлы мы дудзелі!

Божа
дай глыток каханьня
хоць адзін на адвітаньне
з расфутбольным скварным летам
не хачу казаць: са сьветам
бо прыкінуўся паэтам
а ты ведаеш: пры гэтым
нельга аддавацца ловам
рызыкоўных рыфмасловаў

Божа
дай глыток каханьня
хоць адзін на адвітаньне
і ў сваёй нябеснай высі
не ў афсайдзе
ў райскім садзе
ты мяне каханым высьні!

## **Seks prydumali zułusy**

*futbolnamu čempijanatu śvietu — 2010*
*ŭ Paŭdniova-Afrykanskaj Respublicy*
*pryśviačajecca*

seks prydumali zułusy
u savańnie
vańnie
rańniem
z vylažankaju na stajni
z žonkaju u rodnaj spalni
na lijanach i abrusach
na svajim strakatym ściazie
na haryščy ŭ Złataj Prazie

seks prydumali zułusy
ŭ kabinecie
na kasecie
u Valecie
pad trybunami ŭ klazecie
ŭ čaŭnach i internecie
ŭ sielsaviecie i ułusie
mіž hibonaŭ na safary
u futbołcy z Če Gievaram

seks prydumali zułusy
viečny
sprečny
niebiaśpiečny
jak penalci biessardečny
pad kustom i Šlacham Mlečnym
z uruhvajkaj dy indusam
na śniadanak i ŭ sijestu
pierad tym jak ciabie źješci

seks prydumali zułusy
z tvistam
śvistam
i rasistam
z refery i futbalistam
za biljardam i za vistam
z ukrajinkaj i tunhusam
kožny viečar kanibały
nabirajuć sabie bały

seks prydumali zułusy
chaj sabie i biełarusy
i z chiet-trykam i kvartetam
z asyryjkaju i chietam
ale ja chaču kachańnia
choć hłytok na advitańnie
z hetym letam-prajdziśvietam
z forvardaŭ kardebaletam
ź niedaroblenym minetam
na ŭźbiarežžy pad Laretam
dzie u katalonskim mory
my z taboj tapili soram

seks prydumali zułusy

chaj sabie i biełarusy
z plaškaj ŭiski j tryjaletam
u aŭtobusie i ŭ hieta
ale ja chaču kachańnia
choć hłytok na advitańnie
z hetym letam-pustaćvietam
z vyjhranym adzinym setam
z prajaznym čužym biletam
z padarožžam kruhaśvietnym
miž Kiejptaŭnam i Mienskam
na tvajim fateli vienskim

seks prydumali zułusy
chaj sabie i biełarusy
ź fnkaju i pistaletam
z karsikankaj i vendetaj
ale ja chaču kachańnia
choć hłytok na advitańnie
z hetym lipieniem što ŭ Letu
adpływaje ŭ sandaletach
z hetym žniŭniem i z kabietaj
što daŭno nia mnoj sahreta dy
pryśniłasia ŭ niadzielu
ŭ vuvuzeły my dudzieli!

Boža
daj hłytok kachańnia
choć adzin na advitańnie
z rasfutbolnym skvarnym letam
nie chaču kazać: sa śvietam
bo prykinuŭsia paetam
a ty viedaješ: pry hetym
nielha addavacca łovam
ryzykoŭnych ryfmasłovaŭ

Boža
daj hłytok kachańnia
choć adzin na advitańnie
i ŭ svajoj niabiesnaj vysi
nie ŭ afsajdzie
ŭ rajskim sadzie
ty mianie kachanym vyśni!

## **Атрымайце тэлеграму**

у дзяцінстве
ён вынайшаў ліхтарык:
у слоіку з-пад маянэзу
хапала дваццаці сьветлякоў
каб чытаць пад коўдраю
Эдгара По

у юнацтве
ён вынайшаў рэцэпт
заваёвы жаночых сэрцаў
(дакладней усяго астатняга)
якім ніколі не дзяліўся
мяркуючы па ўсім
інгрэдыенты былі надзейныя

у сталасьці
ён вынайшаў прэпарат
для паляпшэньня эрэкцыі:
шклянка ўіскі Johnnie Walker
крыху разбаўленага
месяцавым сьвятлом
другая шклянка
ўжо лішняя

у старасьці
ён вынайшаў сродак
ад сьмерці:
вымкнуў усе тэлефоны
бо сучасная сьмерць
перад візытам
абавязкова звоніць
гуляючы ў маўчанку

альбо дасылае
пустую эсэмэску

учора на хаўтурах
я даведаўся:
два дні таму
яму прынесьлі
старамодную тэлеграму
з чыстым блянкам
без зваротнага адрасу

## Atrymajcie telehramu

u dziacinstvie
jon vynajšaŭ lichtaryk:
u słojiku z-pad majanezu
chapała dvaccaci švietlakoŭ
kab čytać pad koŭdraju
Edgara Po

u junactvie
jon vynajšaŭ recept
zavajovy žanočych sercaŭ
(dakładniej usiaho astatniaha)
jakim nikoli nie dzialiŭsia
miarkujučy pa ŭsim
inhredyjenty byli nadziejnyja

u stałaści
jon vynajšaŭ preparat dla
palapšeńnia erekcyji:
šklanka ŭiski Johnnie Walker
krychu razbaŭlenaha
miesiacavym śviatłom
druhaja šklanka
ŭžo lišniaja

u staraści
jon vynajšaŭ srodak
ad śmierci:
vymknuŭ usie telefony
bo sučasnaja śmierć
pierad vizytam
abaviazkova zvonić
hulajučy ŭ maŭčanku

albo dasyłaje
pustuju esemesku

učora na chaŭturach
ja daviedaŭsia:
dva dni tamu
jamu prynieśli
staramodnuju telehramu
z čystym blankam
biez zvarotnaha adrasu

**Вандроўная паэмка**

я не памру
я дам нырца
ў нябыт
там будзе восень
і вецер
мне накрэсьліць шлях
куды
ісьці
каб ля чародкі сосен
пры возеры жывой вады
дзе неба ў просінь
мяне сустрэлі
некалькі жанчын
чамусьці восем

я пацалую
кожную
прычым
з аднолькавай пяшчотай
пацалую
застацца зь імі
не знайду прычын
і выгукне адна
наўсьлед:
сумую!

адна ўсяго
які забаўны сьвет!
ці гэты
ці мо той
адкуль прывёў

відушчы вецер
я ўжо ня ведаю
каторы мой
ясны
няўцямны сьвеце!

а вецер
павядзе мяне далей
углыб краіны
і ноч насунецца
і ўраньні Калізэй
я ўбачу з гор
у прыцемнай даліне
мы пройдзем неўзабаве
Картаген
і горад
у якім жывуць пінгвіны

а надвечар
каля антычных сьцен
дзе будзе паказальнік
«Троя»
мяне сустрэнуць
некалькі мужчын
чамусьці трое

у засені старых аліў
мы вып’ем грапы
там на прычале
з рыльца
і прыліў
пачнецца раптам
і тады —
так
гэта ён!
Букоўскі Чарлз

няцьвёрда ступіць
з-за калён
і стане пятым
ня дамся дзіву
як за ім
да нас на госьці
падыдзе
Грабал Багуміл
і стане шостым

ну што такое літар
на шасьцёх
тым больш тут Чарлі
тубыльцу крыкнем
скрынку каб прыцёг
і грэцкіх літар
не расчытаўшы
каўтанем сынхронна

у пляшках чарлік
мой тутэйшы бог!
ня Хронас —
Дыяніс!
прымай дары данайцаў!

вы думаеце
што вы грэкі?
вы — засранцы!
гукне
у вусьціш
мэтар Чарлі
(сранцы! сранцы!
падхопіць рэха)
і каб белы сьвет ня міл
вам стаў

усім
адкруцім яйцы!
кіўне з ухвалай
мэтар Багуміл

ды гэта будзе
толькі сон
вясёлы
ў тых мясьцінах
таксама сьняцца сны
і зноўку

я адзін
увосень
між раўнін
і гор бясконцых
як праклён
такі напэўна
кон
і вецер-праваднік
мяне пакінуў

куды ўзяць курс?
на Вільню
альбо Менск?
які там драхмы курс?
ці буду я багаты?
у Берасьце брысьці
да сябра
ці
ў Эфэс зьвярнуць
да дзядзькі Гэрастрата?

і дзе атайбавацца
ў небыцьці
каб мець сабе
прыстанак негалімы

у Полацак
на досьвітку прыйсьці
ці быць апоўначы
ў сьвятым Ерусаліме?

але такой тугой
мне сьцісьне скроні
што вецер вернецца
і хваляю тугой
заплешча ў грудзі
гэта знакам
будзе
і птушка сядзе
у мае далоні

пасланка з таго краю
дзе
яшчэ ня ўсё
дажыта і дапіта
дзе сонца танчыць
у жывой вадзе
дзе голас твой
так срэбна-незабыта
струмком зазвоніць
зноўку
ў тэлефоне
з-за небакраю
ад чародкі сосен

тады
на строме
роспачы і веры
ўзгадаю я
адчыненыя дзьверы

з сэнтэнцыі Сэнэкі

каб туды
сысьці маглі
слабыя чалавекі

і голас твой
зь дзьвярэй тых данясецца
як электронны ліст
наўпрост у сэрца
і рушу я да мора
ў паняверцы
але
цяпер з надзеяй самагубцы
не задыхнуцца
ў гэтай душагубцы

скала
куды я падымуся
будзе ўжо
дыханьнем пекла блізкага
сагрэта
о ластаўкі!
я ўспомню як
вы леціцё
увесну
там
дзе восень
яшчэ за летам
там
дзе неба ў просінь
вы леціцё
на сьвеце тым
за крок
ён стане гэтым

я не ўваскрэсну
дам нырца
ў жыцьцё

там будзе лета

## **Vandroŭnaja paemka**

ja nie pamru
ja dam nyrca
ŭ niabyt
tam budzie vosień
i viecier
mnie nakreślić šlach
kudy
iści
kab la čarodki sosien
pry voziery žyvoj vady
dzie nieba ŭ prosiń
mianie sustreli
niekalki žančyn
čamuści vosiem

ja pacałuju
kožnuju
pryčym
z adnolkavaj piaščotaj
pacałuju
zastacca ź jimi
nie znajdu pryčyn
i vyhuknie adna
naŭśled:
sumuju!

adna ŭsiaho
jaki zabaŭny śviet!
ci hety
ci mo toj
adkul pryvioŭ

vidušču viecier
ja ŭžo nia viedaju
katory moj
o jasny
o niaŭciamny śviecie!

a viecier
paviadzie mianie dalej
uhłyb krajiny
i noč nasuniecca
i ŭrańni Kalizej
ja ŭbaču z hor
u pryciemnaj dalinie
my projdziem nieŭzabavie
Kartahien
i horad
u jakim žyvuć pinhviny

a nadviečar
kala antyčnych ścien
dzie budzie pakazalnik
«Troja»
mianie sustrenuć
niekalki mužčyn
čamuści troje

u zasieni starych aliŭ
my vypjem hrapy
tam na pryčale
z rylca
i pryliŭ
pačniecca raptam
i tady —
tak
heta jon!
Bukoŭski Čarłz

niaćviorda stupić
z-za kalon
i stanie piatym
nia damsia dzivu
jak za jim
da nas na hošci
padydzie Hrabał
Bahumił i stanie
šostym

nu što takoje litar
na šaścioch
tym bolš tut Čarli
tubylcu krykniem
skrynku kab prycioh
i hreckich litar
nie rasčytaŭšy
kaŭtaniem synchronna

u plaškach čarlik
moj tutejšy boh!
nia Chronas —
Dyjanis!
prymaj dary danajcaŭ!

vy dumajecie
što vy hreki? vy
— zasrancy!
huknie
u vuściš
metar Čarli
(srancy! srancy!
padchopić recha)
i kab bieły śviet nia mił
vam staŭ

usim
adkrucim jajcy!
kiŭnie z uchvałaj
metar Bahumił

dy heta budzie
tolki son
viasioły
ŭ tych miaścinach
taksama śniacca sny
i znoŭku

ja adzin
uvosień
miž raŭnin
i hor biaskoncych
jak praklon
taki napeŭna
kon
i viecier-pravadnik
mianie pakinuŭ

kudy ŭziać kurs?
na Vilniu
albo Miensk?
jaki tam drachmy kurs?
ci budu ja bahaty?
u Bieraście bryści
da siabra
ci
ŭ Efes źviarnuć
da dziadźki Herastrata?

i dzie atajbavacca
ŭ niebyćci
kab mieć sabie
prystanak niehalimy

u Połacak
na dośvitku pryjści
ci być apoŭnačy
ŭ śviatym Jerusalimie?

ale takoj tuhoj
mnie ściśnie skroni
što viecier vierniecca
i chvalaju tuhoj
zaplešča ŭ hrudzi
heta znakam
budzie
i ptuška siadzie
u maje dałoni

pasłanka z taho kraju
dzie
jašče nia ŭsio
dažyta i dapita
dzie sonca tančyć
u žyvoj vadzie
dzie hołas tvoj
tak srebna-niezabyta
strumkom zazvonić
znoŭku
ŭ telefonie
z-za niebakraju
ad čarodki sosien

tady
na stromie
rospačy i viery
ŭzhadaju ja
adčynienyja dźviery

z sentencyi Seneki

kab tudy
syści mahli
słabyja čałavieki

i hołas tvoj
ź dźviarej tych daniasiecca
jak elektronny list
naŭprost u serca
i rušu ja da mora
ŭ paniaviercy
ale
ciapier z nadziejaj samahubcy
nie zadychnucca
ŭ hetaj dušahubcy

skała
kudy ja padymusia
budzie ŭžo
dychańniem piekła blizkaha
sahreta
o łastaŭki!
ja ŭspomniu jak
vy lecicio
uviesnu
tam
dzie vosień
jašče za letam
tam

dzie nieba ŭ prosiń
vy lecicio
na śviecie tym
za krok
jon stanie hetym

ja nie ŭvaskresnu
dam nyrca
ŭ žyćcio

tam budzie leta

## Corsica

усё лета
пад старым ясенем
за маім вакном
чакае кагосьці
сіні «рэно» —
францускі нумар
налепка CORSICA
герб тамтэйшых незалежнікаў

маю ўжо тузін вэрсіяў
што здарылася
з кіроўцам
ды пасажырамі —
хай бы ніводная ня спраўдзілася

сяджу пры кампутары
з улюбёным келіхам
адшукаў
у вінярні на рагу
бастыён карсіканскага
вядома чырвонага
даўкага
як дзікая сьліва
густога
як кроў астраўлянаў
з ваколіцаў Порта-Вэк'я
Бастыі й Аяча

дзесьці там
за вакном
за паркам
за морам
на радзіме гэтае пляшкі

й гэтае крыві
дзень пры дні
паркуе свой «рэно»
і
закінуўшы стрэльбу на плячук
вядзе сына ў мак*і*
прысадзісты чалавек
з чорнымі як сажа кудзерамі —
мой даўні знаёмец
Матэо Фальконэ

## Corsica

usio leta
pad starym jasieniem
za majim vaknom
čakaje kahości
sini «Renault» —
francuski numar
nalepka CORSICA
hierb tamtejšych niezaležnikaŭ

maju ŭžo tuzin versijaŭ
što zdaryłasia
z kiroŭcam
dy pasažyrami —
chaj by nivodnaja nia spraŭdziłasia

siadžu pry kamputary
z ulubionym kielicham
adšukaŭ
u viniarni na rahu
bastyjon karsikanskaha
viadoma čyrvonaha
daŭkaha
jak dzikaja śliva
hustoha
jak kroŭ astraŭlanaŭ
z vakolicaŭ Porta-Vekja
Bastyi j Ajača

dzieści tam
za vaknom
za parkam
za moram
na radzimie hetaje plaški

j hetaje kryvi
dzień pry dni
parkuje svoj «Renault»
i
zakinuŭšy strelbu na plačuk
viadzie syna ŭ mak*i*
prysadzisty całaviek
z čornymi jak saža kudzierami —
moj daŭni znajomiec
Mateo Falkone

## Краіна Ур

там
за трыма
маўклівымі дзьвярыма
з гарэльефамі
жорсткіх і сьмешных
тыранаў
там
за мармуровымі сходамі
дзе стаяць на варце
харугвы
павукоў і мурашак
там
за памежнай брамаю
з магістрацкіх кнігаў
сямі шумэрскіх гарадоў
пачынаецца
краіна Ур

ты кажаш
там гараць шчокі
віно
з прысмакам акіяну
а вецер
пахне тархунам
і рэчывам
што ўтвараецца
ад каханьня
мужчыны і жанчыны

ты кажаш
людзі ў той краіне
п’юць матэ
кахаюцца
на сініх фатэлях

гавораць
на пяцідзесяці шасьці
дыялектах —
па колькасьці прыступак
пірамiды
што ўзвышаецца ў сталіцы
сярод зацьвілых ліпаў
і язьміну

я кажу
там адключылі
гарачую ваду
абрэзалі тэлеграф
і вечная праблема
з роўмінгам
і запалкамі

я кажу
там валадарыць чалавек
на імя Гільгамэш —
мае стасункі
зь іншымі плянэтамі

лётаў у сузор’е Дзевы
па рэцэпт неўміручасьці
экспэдыцыя
была пасьпяховай —
пацьвердзіць любы службоўца
бібліятэкі Ашурбаніпала

ты кажаш
выпіла б зараз джыну
чаму б і не
кажу я —
на мяжы з Мэсапатаміяй
у сініх зарасьніках ядлоўцу

гоняць
стары добры джын «Ведрыч»
а зь Фінікіі
ужо завезьлі фінікі
кажу я
нібы костачку зь фініка
вылушчваючы цябе
з анталягічнага неспакою
з рэвалюцыі
праз сацыяльныя сеткі
з дэвальвацыі
з клопатаў пра дзяцей
з ранішніх паведамленьняў
пра новыя арышты й libератрусы
з навіны
што наш калега-гісторык
неабачліва
зламаў сабе
на турэмным шпацыры
нос

ты кажаш
магчыма там
у краіне Ур
зноў навучысься
плаваць
і я
вылушчваю цябе
нібы пэрлінку
з ракавінак
плашча й сукенкі
з багавіньня панчошак
станікаў і майткоў
(апошнія маюць здольнасьць
размнажацца
нават на працягу дня)

я кажу
найлепей вучыцца тут
у азярыне
сіняга фатэля
куды ты ўваходзіш
дарослай дзяўчынкаю
якая
яшчэ нікога не нарадзіла
бо толькі што

нарадзілася сама —
пакуль ня ведае
якія кропачкі
трэба нацерці мёдам
перад тым як адлічыць
пяць магічных удараў
па асырыйскіх крумянках
менскай дзесяціклясьніцы

каб
навучыцца плаваць
як жабка
а таксама на сьпінцы
на каленках
абавязкова на каленках
і ўсімі іншымі стылямі

каб
пад касьмічным позіркам
нашага суўдзельніка
Гільгамэша
адчуць
пяшчотны ўкол
срэбнага
струмка
неўміручасьці

**Krajina Ur**

tam
za tryma
maŭklivymi dźviaryma
z hareljefami
žorstkich i śmiešnych
tyranaŭ
tam
za marmurovymi schodami
dzie stajać na varcie
charuhvy
pavukoŭ i murašak tam
za pamiežnaj bramaju
z mahistrackich knihaŭ
siami šumerskich haradoŭ
pačynajecca
krajina Ur

ty kažaš
tam harać ščoki
vino
z prysmakam akijanu
a viecier
pachnie tarchunam
i rečyvam
što ŭtvarajecca
ad kachańnia
mužčyny i žančyny

ty kažaš
ludzi ŭ toj krajinie
pjuć mate
kachajucca
na sinich fatelach

havorać
na piacidziesiaci šašci
dyjalektach —
pa kolkašci prystupak
piramidy
što ŭzvyšajecca ŭ stalicy
siarod zaćviłych lipaŭ
i jaźminu

ja kažu
tam adklučyli
haračuju vadu
abrezali telehraf
i viečnaja prablema
z roŭminham
i zapałkami

ja kažu
tam vaładaryć čałaviek
na imia Hilhameš —
maje stasunki
ź jinšymi planetami
lotaŭ u suzorje Dzievy
pa recept nieŭmiručaści

ekspedycyja
była paśpiachovaj —
paćvierdzić luby słužboŭca
biblijateki Ašurbanipała

ty kažaš
vypiła b zaraz džynu
čamu b i nie
kažu ja —
na miažy z Mesapatamijaj
u sinich zaraśnikach jadłoŭcu

honiać
stary dobry džyn «Viedryč»
a ź Finikiji
užo zavieźli fniki
kažu ja
niby kostačku ź fnika
vyłuščvajučy ciabie
z antalahičnaha niespakoju
z revalucyji
praz sacyjalnyja sietki
z devalvacyji
z kłopataŭ pra dziaciej
z ranišnich paviedamleńniaŭ
pra novyja aryšty j pieratrusy
z naviny
što naš kaleha-historyk
nieabačliva
złamaŭ sabie

na turemnym špacyry
nos

ty kažaš
mahčyma tam
u krajinie Ur
znoŭ navučyśsia
płavać
i ja
vyłuščvaju ciabie
niby perlinku
z rakavinak
płašča j sukienki
z bahavińnia pančošak
stanikaŭ i majtkoŭ
(apošnija majuć zdolnaść
razmnažacca
navat na praciahu dnia)

ja kažu
najlepiej vučycca tut
u aziarynie
siniaha fatela
kudy ty ŭvachodziš
darosłaj dziaŭčynkaju
jakaja
jašče nikoha nie naradziła
bo tolki što
naradziłasia sama —
pakul nia viedaje

jakija kropački
treba nacierci miodam
pierad tym jak adličyć
piać mahičnych udaraŭ
pa asyryjskich krumiankach
mienskaj dziesiaciklaśnicy

kab
navučycca płavać
jak žabka
a taksama na śpincy
na kalenkach
abaviazkova na kalenkach
i ŭsimi jinšymi stylami

kab
pad kaśmičnym pozirkam
našaha suŭdzielnika
Hilhameša
adčuć
piaščotny ŭkoł
srebnaha
strumka
nieŭmiručaści

## Пасьля тваіх званкоў

пасьля тваіх званкоў мяняецца надвор'е
капеж зьвініць або кладзецца сьнег
залеву або зьнічку неба дорыць
і воўк ляпляндзкі паскарае бег
пасьля тваіх званкоў каты пяюць на дахах
самнамбулы іх кормяць зь цёплых рук
і сэрцы пачынаюць гулка тахкаць
у вожыкаў з-пад Прагі і Прылук

пасьля тваіх званкоў спыняюцца таксоўкі
трамвай ідзе з дэпо якраз туды
дзе прадстаўнік азёрнай школы Колрыдж
нам налівае вогненнай вады

пасьля тваіх званкоў вяртаецца надзея
і суіцыду нехта кажа бай
растуць валютаў курсы а зладзейкі
замест кішэняў лезуць на tut.by

мой Божа! Мы сусьвет народзім новы
ў сваіх абдымках... Ты — багаславі!
мы вынайдзем для закаханых мову
са сьмеху стогнаў сьлёзаў і любві

мы ўлежнымі пабудзем з гэтай поўняй
але пад коўдрай хопіць і турбот
каб закахана-беларускі слоўнік
у друк аддаць пад самы Новы год

## Paśla tvajich zvankoŭ

paśla tvajich zvankoŭ mianiajecca nadvorje
kapież źvinić abo kładziecca śnieh
zalevu abo źnički nieba doryć
i voŭk laplandzki paskaraje bieh
paśla tvajich zvankoŭ katy piajuć na dachach
samnambuły jich kormiać ź ciopłych ruk
i sercy pačynajuć hułka tachkać
u vožykaŭ z-pad Prahi i Pryłuk

paśla tvajich zvankoŭ spyniajucca taksoŭki
tramvaj idzie z depo jakraz tudy
dzie pradstaŭnik aziornaj škoły Kołrydž
nam nalivaje vohniennaj vady

paśla tvajich zvankoŭ viartajecca nadzieja
i suicydu niechta kaža baj
rastuć valutaŭ kursy a zładziejki
zamiest kišeniaŭ lezuć na tut.by

moj Boža! My suśviet narodzim novy
ŭ svajich abdymkach... Ty — bahasłavi!
my vynajdziem dla zakachanych movu
sa śmiechu stohnaŭ ślozaŭ i lubvi

my ŭležnymi pabudziem z hetaj poŭniaj
ale pad koŭdraj chopić i turbot
kab zakachana-biełaruski słoŭnik
u druk addać pad samy Novy hod

## **Дзяўчына з касой**

я ўбачыў яе адразу
юную й чыстую
ў каламутнай вакзальнай рацэ
вакол ейнай касы
пагойдваліся на хвалях
валізкі
капелюшы
бананы
кветкі
пахавальныя вянкі

я пазнаў яе імгненна
нягледзячы на маладосьць
джынсы
фірмовы заплечнік
флікер
яна падміргнула:
люблю кемлівых

я паплыў хутчэй
брасам
кролем
батэрфляем
як у суботу
пераплываючы возера

яна не адставала
дала нырца ў тунэль
купіла ранішнюю газэту
пяшчотна дыхнула ў патыліцу
на вулічным пераходзе
кожная хрыбетка
ўжо адчувала яе

яна ішла за мной да самага дому
сытуацыя была ня з горшых:
усё здарыцца
ня дзе-небудзь на лавачцы
ля сьметніцы —
нас атуліць знаёмы ложак
на вакне цьвітуць пэляргоніі
магчыма
застанецца час на экспэрымэнты

я апынуся ў ейных абдымках
першым
прынамсі сёньня
а можа наогул
(ня выключана што яна
прыехала на стажыроўку)
у нейкім сэнсе
я пазбаўлю яе нявіннасьці
такая постаць
такія пульхныя вусенкі
шмат абяцаюць

яна раптам перадумала
нешта прачытала ў газэце?

выбрала іншага?
маладзейшага
паголенага
з модным заплечнікам?

я запомніў яе
да апошняга глытка
віна й паветра
да апошняга пацалунку —
тую жнівеньскую дзяўчыну
з касою
лязо якой
яшчэ было спавітае
бялюткім цнатлівым бінтам

**Dziaŭčyna z kasoj**

ja ŭbačyŭ jaje adrazu
junuju j čystuju
ŭ kałamutnaj vakzalnaj race
vakoł jejnaj kasy
pahojdvalisia na chvalach
valizki
kapielušy
banany
kvietki
pachavalnyja vianki

ja paznaŭ jaje imhnienna
niahledziačy na maładość
džynsy
frmovy zaplečnik
fikier
jana padmirhnuła:
lublu kiemlivych

ja papłyŭ chutčej
brasam
krolem
baterfajem
jak u subotu
pierapłyvajučy voziera

jana nie adstavała
dała nyrca ŭ tunel

kupiła ranišniuju hazetu
piaščotna dychnuła ŭ patylicu
na vuličnym pierachodzie
kožnaja chrybietka
ŭžo adčuvała jaje

jana išła za mnoj da samaha domu
sytuacyja była nia z horšych:
usio zdarycca
nia dzie-niebudź na łavačcy
la śmietnicy —
nas atulić znajomy łožak
na vaknie ćvituć pelarhoniji
mahčyma
zastaniecca čas na eksperymenty

ja apynusia ŭ jejnych abdymkach
pieršym
prynamsi siońnia
a moža naohuł
(nia vyklučana što jana
pryjechała na stažyroŭku)
u niejkim sensie
ja pazbaŭlu jaje niavinnaści
takaja postać
takija pulchnyja vusienki
šmat abiacajuć

jana raptam pieradumała
niešta pračytała ŭ hazecie?
vybrała jinšaha?
maładziejšaha
paholenaha
z modnym zaplečnikam?

ja zapomniŭ jaje
da apošniaha hłytka
vina j pavietra
da apošniaha pacałunku —
tuju žnivieńskuju dziaŭčynu
z kasoju
lazo jakoj
jašče było spavitaje
bialutkim cnatlivym bintam

***

анёлы!
дайце мне
яе
запясьці

***

anioły!
dajcie mnie
jaje
zapiaści

**Арлоў, У.**

Сьвецяцца вокны ды нікога за імі/ Świeciacca vokny dy nikoha za jimi

Уладзімер Арлоў выдаў пяць паэтычных кніг. Адна зь іх — «Паром праз Ля-Манш», перастворана па-польску знакамітым перакладчыкам Адамам Паморскім, прынесла аўтару міжнародную прэмію «Эўрапейскі паэт свабоды» (Гданьск, 2010). Пад гэтаю вокладкай выбраныя вершы мінулых гадоў сустрэліся з напісанымі ў апошні час. Падтрымліваючы даўнюю традыцыю беларускай лацінкі, Уладзімер Арлоў выпускае сваю новую кнігу ў дзьвюх вэрсіях.

ISBN 978-985-6991-97-7.